# ЗМЕСТ


**ПАРУШЭННІ ПРАВОЎ СМІ І ЖУРНАЛІСТАЎ, КАНФЛІКТЫ Ў ГАЛІНЕ СМІ**

**Спыненне альбо прыпыненне дзейнасці СМІ ўладамі /2**

**Крымінальныя справы па публікацыях у СМІ /4**

**Пасягальніцтвы на журналістаў і медыі /6**

**Затрыманні журналістаў, выклікі ў праваахоўныя органы. Папярэджанні пракуратуры /11**

**Парушэнне прафесійнай самастойнасці рэдакцый. Цэнзура /24**

**Парушэнні, звязаныя з доступам да інфармацыі (адмовы ў прадастаўленні інфармацыі, абмежавальнае выкарыстанне інстытуту акрэдытацыі) /39**

**Канфлікты, звязаныя з атрыманнем і распаўсюдам замежнай інфармацыі ці дзейнасцю замежных СМІ /49**

**Эканамічная палітыка ў галіне СМІ /53**

**Абмежаванне права на заснаванне СМІ /64**

**Перашкоды ў вырабе прадукцыі СМІ /67**

**Перашкоды ў распаўсюдзе прадукцыі СМІ /69**

**Найбольш значныя судовыя працэсы з удзелам СМІ /78**

**ГУЧНЫЯ СПРАВЫ**

**Справа Веранікі Чаркасавай /90**

**Найбольш значныя судовыя працэсы з удзелам СМІ і журналістаў /90**

**Спіс беларускіх перыядычных друкаваных выданняў, згаданых у маніторынгу /97**

## Спыненне альбо прыпыненне дзейнасці СМІ ўладамі

Газету «Молодежный проспект» пазбавілі рэгістрацыі
"Биржа информации" аднавіла выхад
Анулявана пасведчанне аб рэгістрацыі газеты "Навінкі"
Міністэрства інфармацыі анулявала пасведчанне аб рэгістрацыі "Новой газеты Сморгони"

### Газету «Молодежный проспект» пазбавілі рэгістрацыі

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь анулявала пасведчанне аб рэгістрацыі газеты «Молодежный проспект». Адпаведны загад за №162 падпісаны **11 лістапада** міністрам інфармацыі Уладзімірам Русакевічам. Пазбаўленне рэгістрацыі матываванае тым, што выданне не прайшло перарэгістрацыю пасля двух прыпыненняў выдання напрацягу года (загадамі Міністэрства інфармацыі 20.09.2004 г. і 16.09.2005 г.), чым парушыла патрабаванні арт.11 Закону Рэспублікі Беларусь "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі". Пра другое прыпыненне дзейнасці газеты адзін з яе выдаўцоў, палітык Уладзімір Навасяд, даведаўся з загаду аб ануляванні рэгістрацыі, паколькі, па яго словах, ніякіх дакументаў на гэты конт рэдакцыя не атрымлівала. Рэдакцыя «Молодежного проспекта» мае намер абскарджваць загад аб ануляванні пасведачання аб рэгістрацыі ў судзе.

### "Биржа информации" аднавіла выхад

**11 лістапада** недзяржаўная гродзенская газета "Биржа информации" аднавіла выхад. Першы пасля амаль гадавога перапынку нумар газеты быў надрукаваны ў Смаленскай друкарні. Наклад новага нумару складае 4700 асобнікаў (да спынення выдання газета выдавалася накладам больш за 10 тысяч асобнікаў). Замест ранейшых 24 старонак выданне выйшла на 12 старонках і без праграмы тэлебачання. Тэрмін выхаду наступнага нумару газеты пакуль невядомы.

**24 лютага** скончыўся тэрмін прыпынення выдання. Доўгі час яно не магло аднавіць выхаду, паколькі гродзенская абласная друкарня, з якой дагэтуль супрацоўнічала рэдакцыя, адмаўлялася падпісаць з ёй дамову на друк. Між тым, дамовы на распаўсюд праз сетку "Белсаюздруку", "Белпошты" і крамы рэдакцыя здолела аднавіць.

Папярэджанне і загад аб прыпыненні "Биржи информации" на 3 месяцы міністр інфармацыі Уладзімір Русакевіч падпісаў **24 лістапада 2004 г.** Санкцыі былі ўжытыя да выдання за публікацыю, прысвечаную рэферэндуму: міністэрства палічыла, што ў артыкуле "Предательство именем народа" (№ 36 ад 9 верасня 2004 г.) утрымліваліся "несапраўдныя звесткі, якія не адлюстроўваюць законнай падставы прызначанага… рэферэндума, якія зневажаюць гонар і годнасць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь". За гэтую ж публікацыю А. Раўбецкая ўжо была прыцягнутая да адміністратыўнай адказнасці па ч. 10 арт. 172-1 КоАП: 30-га верасня 2004 года суд аштрафаваў яе на 70 базавых велічыняў.

### Анулявана пасведчанне аб рэгістрацыі газеты "Навінкі"

Паводле загаду №151 ад **24.10.2005 г.,** падпісанага першай намесніцай міністра інфармацыі Ліліяй Ананіч, было анулявана пасведчанне аб рэгістрацыі газеты "Навінкі".
Рэгістрацыя была ануляваная на падставе п.11 Закона РБ "Аб друку і іншых СМІ", паводле якога сродак масавай інфармацыі падлягае перарэгістрацыі, калі ён не выдаецца больш за год. Рэдакцыя газеты лічыць

спасылку на гэты пункт Закону неправамоцнай, паколькі з моманту заканчэння тэрміну прыпынення выдання ў 2004 годзе да моманту выхаду загаду ў 2005 годзе мінула толькі 11 месяцаў. На сустрэчы з прадстаўнікамі Міністэрства інфармацыі галоўны рэдактар газеты "Навінкі" Паўлюк Канавальчык у якасці пацверджання ажыццяўлення выдавецкай дзейнасці прад'явіў нумары выдання за кастрычнік 2005 года, але гэта не змяніла рашэння міністэрства.

.

**Міністэрства інфармацыі анулявала пасведчанне аб рэгістрацыі "Новой газеты Сморгони»**

**21 студзеня** рэдакцыя «Новой газеты Сморгони» атрымала загад №7 Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Дакумент, датаваны **14 снежня 2004 г.,** нагадвае пра страту моцы пасведчаннем аб рэгістрацыі «Новой газеты Сморгони», паколькі яе выхад двойчы прыпыняўся Міністэрствам інфармацыі за парушэнне заканадаўства аб друку (2 кастрычніка 2003 г. і 16 жніўня 2004 г.)

## Крымінальныя справы па публікацыях у СМІ

Пракуратура закрыла крымінальную справу супраць Гары Паганяйлы
Рэдактара "Борисовских новостей" прызналі вінаватым
Выдаўцу газеты "Згода" пагражае крымінальная адказнасць
Крымінальная справа за паклёп на прэзідэнта супраць былога кандыдата ў дэпутаты
Пракуратура распачала крымінальную справу ў дачыненні да дэпутата райсавета Уладзіміра Малея

### Пракуратура закрыла крымінальную справу супраць Гары Паганяйлы

Пракуратура г. Мінска закрыла крымінальную справу ў дачыненні да вядомага праваабаронца, намесніка старшыні Беларускага Хельсінкскага камітэту Гары Паганяйлы, - паведаміла **28 лістапада** Радыё "Свабода".

Справа ў дачыненні да Г. Паганяйлы па ч. 2 арт. 367 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь (паклёп у дачыненні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, спалучаны з абвінавачаннем у здзяйсненні цяжкога злачынства) была заведзеная ў лістападзе 2004 г. Калі б яго прызналі вінаватым у паклёпе на прэзідэнта, яму пагражала б да 5 гадоў абмежавання волі альбо пазбаўленне волі на той жа тэрмін.

Падставай для завядзення справы стала інтэрв'ю, якое праваабаронца даў шведскаму тэлеканалу "ТВ-4" 18 жніўня 2004г. У інтэрв'ю праваабаронца выказваў падазрэнні наконт спрычыненасці вышэйшых дзяржаўных кіраўнікоў (у тым ліку і Аляксандра Лукашэнкі) да знікненняў і магчымых забойстваў беларускіх апазіцыйных лідэраў. Калі замежны журналіст выязджаў з нашай краіны, стужку з відэазапісам забралі беларускія мытнікі.

### Рэдактара "Борисовских новостей" прызналі вінаватым

Суд г. Барысава прызнаў рэдактара газеты "Борисовских новостей" Анатоля Букаса вінаватым у парушэнні ч.2 188 КК РБ (паклёп, які ўтрымліваецца ў публічным выступленні альбо ў СМІ) і ч.2 арт. 189 КК РБ (наўмыснае прыніжэнне гонару і годнасці асобы, выказанае ў непрыстойнай форме). **16 чэрвеня** Суддзя Алена Самцэвіч абавязала яго выплаціць штраф у памеры 40 базавых велічыняў, а таксама 3 мільёны рублёў на кампенсацыю маральных стратаў рэдактару газеты Барысаўскага гарвыканкаму "Адзінства" Веры Пратасевіч.

У лістападзе 2004 г. пракуратура г. Барысава ўзбудзіла крымінальную справу па факце публікацыі ў газеце "Борисовские новости" артыкула Анатоля Букаса "Звезданутый пострел везде поспел, или молчание ягнят", які з'явіўся ў выпуску газеты № 12 (18-24-га сакавіка 2004 г.). У публікацыі ішла гаворка пра рэдактара газеты Барысаўскага гарвыканкама "Адзінства" Веру Пратасевіч. Суд палічыў паклёпніцкімі і зневажальнымі для яе фразы кшталту "имея уровень стенографиста заводской многотиражки...", "целые опусы, где желаемое выдаётся за действительное, а неприкрытая ложь за чистую монету…", "г-жа Протасевич... выдала на-гора очередной бред..." і інш. Паводле А. Букаса, яго артыкул быў адказам на тры публікацыі ў газеце "Адзінства", у якіх Вера Пратасевіч называла яго "дурно воспитанным издателем", параўноўвала з дурным пеўнем і.г.д. У правядзенні лінгвістычнай экспертызы гэтых публікацый А. Букасу адмовілі.

Падчас слуханняў А. Букас і яго адвакат Анжэла Ратнер хадайнічалі, каб у суд перадалі дакументы, датычныя хваробы спн. Пратасевіч, якая сцвярджае, што праблемы са здароўем у яе паўсталі менавіта з прычыны з'яўлення артыкула ў "Борисовских новостях". Акрамя гэтага,

яны прасілі далучыць да справы заключэнні спецыяліста-лінгвіста, доктара філалагічных навук, прафесара БДУ Міхася Тычыны, які аналізаваў спрэчны тэкст. Хадайніцтваў аб прызначэнні псіхолага-псіхіятрычнай і судова-медыцынскай экспертызы Веры Пратасевіч суд не задаволіў.

**Выдаўцу “Згоды” пагражае крымінальная адказнасць**

Заснавальнік і рэдактар газеты “Згода” Аляксей Кароль атрымаў з пракуратуры Партызанскага раёна г.Мінска ліст, у якім паведамляецца пра магчымае прыцягненне яго да адказнасці за знявагу кіраўніка дзяржавы. Пра гэта А.Кароль паведаміў на прэс-канфэрэнцыі, якая прайшла **27 красавіка** ў офісе ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў”. Сам А.Кароль меўся прыцягнуць да адказнасці работнікаў міліцыі, якія 24 сакавіка правялі агляд памяшкання, што займае рэдакцыя выдання, і канфіскавалі 4 сістэмныя блокі кампутараў і калажы, раней надрукаваныя ў выданні. У адказе пракуратуры паведамляецца, што ніякіх парушэнняў у часе агляду кватэры міліцыя не дапусціла. Затое ў знойдзеных калажах пракурорскія работнікі ўгледзелі прыкметы злачынства, прадугледжанага арт. 386 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь (Знявага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь).

Канфіскаваная рэдакцыйная тэхніка застанецца ў праваахоўных органаў да заканчэння праверкі. Калажы павінныя будуць прайсці мастацтвазнаўчую экспертызу.

**Крымінальная справа за паклёп на прэзідэнта супраць былога кандыдата ў дэпутаты**

**24 лютага** былога кандыдата ў дэпутаты ад Аб’яднанай Грамадзянскай Партыі Аляксандра Цынкевіча выклікалі ў пракуратуру Цэнтральнага раёна г. Мінска на допыт па крымінальнай справе, заведзенай па арт. 367 ч. 2 ("Паклёп у дачыненні да Прэзідэнта РБ, спалучаны з абвінавачаннем у здзяйсненні цяжкога злачынства"). Сп-р Цынкевіч быў запрошаны ў якасці сведкі.
1 лютага пракурор Цэнтральнага раёну г.Мінска В. Хадатовіч, разгледзеўшы матэрыялы, што паступілі з Цэнтрвыбаркаму і тычыліся распаўсюджаных агітацыйных улётак некаторых з кандыдатаў, пастанавіў завесці крымінальную справу па факце паклёпу на прэзідэнта.

**Маларыцкая раённая пракуратура распачала крымінальную справу ў дачыненні да дэпутата райсавета Уладзіміра Малея**

Падставай стала заява старшыні Маларыцкага райвыканкама Казіміра Лапіча. Кіраўнік мясцовай вертыкалі ўбачыў склад злачынства ў дэпутацкім запыце Уладзіміра Малея, які быў надрукаваны ў інфармацыйным бюлетэні "Наша слова". У запыце дэпутат прасіў пракуратуру прыцягнуць да адказнасці Казіміра Лапіча "за бяздзейнасць" у справе вяртання службовага памяшкання былога старшыні райвыканкама Аляксандра Няхаева.

Казімір Лапіч лічыць гэтыя абвінавачванні беспадстаўнымі, а ў іх публікацыі ўглядае прыкметы злачынства, прадугледжанага арт.188 ч.2 Крымінальнага кодэксу РБ ("распаўсюд заведама ілжывых звестак”).

Пракурор Маларыцкага раёну Мікалай Білецкі прыняў рашэнне распачаць паводле гэтага артыкулу крымінальную справу ў дачыненні да Уладзіміра Малея. Пастанова аб ўзбуджэнні крымінальнай справы была ўручаная яму **15 лютага** ў пракуратуры г.Маларыта.

## Пасягальніцтвы на журналістаў і медыі

Суд адхіліў скаргу Святланы Завадскай
У Барысаве збіты журналіст недзяржаўнай газеты
Абрабавана рэдакцыя газеты "Заря"
Загінуў журналіст “Народнай волі”
У Крычаве спрабуюць запалохаць журналістаў
У галоўнага рэдактара газеты "Прессбол" Уладзіміра Бережкова апісалі маёмасць
Журналістку хацелі звольніць з працы з-за незадаволенасці чыноўніка
Міліцыя спрабавала правесці агляд кватэры галоўнага рэдактара газеты "Згода"
Журналістка "Народнай волі" хоча прыцягнуць да адказнасці міліцыянтаў
АМАП клапаціўся аб бяспецы журналісткі?
Журналістка “Згоды” Н.Валакіда паведаміла міністру ўнутраных спраў аб парушэнні яе правоў супрацоўнікамі міліцыі
КДБ зацікавіўся ўдзельнікамі семінара для журналістаў

### Суд адхіліў скаргу Святланы Завадскай

**11 лістапада** суд Цэнтральнага раёна г. Мінска (суддзя Валерый Есьман) адмовіўся задаволіць скаргу Святланы Завадскай на дзеянні следчых пракуратуры Цэнтральнага раёна Мінска. Жонка зніклага аператара ОРТ абскарджвала адмову пракуратуры заводзіць крымінальную справу ў дачыненні да супрацоўніка мінскага АМАПу Юрыя Давідовіча, які ўдарыў яе кулаком у твар пад час разгону вулічнай акцыі “Ланцуг неабыякавых людзей” 7 ліпеня на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску. Момант нанясення ўдару быў зафіксаваны аператарам Першага расійскага тэлеканала і неаднаразова дэманстраваліся ў тэлеэфіры.

**8 ліпеня** С. Завадская падала ў пракуратуру заяву аб узбуджэнні крымінальнай справы па факце яе збіцця. **29 ліпеня** старшы следчы пракуратуры Д. Лугін вынес пастанову, у якой гаварылася, што сама Завадская дапусціла "неправамоцныя дзеянні” ў дачыненні да супрацоўнікаў АМАП ГУУС Мінгарвыканкама, і таму “ў дзеяннях Давідовіча складу злачынства не ўтрымліваецца”.

### У Барысаве збіты журналіст незалежнай газеты

**8 лістапада** ўвечары ў Барысаве быў збіты журналіст незалежнай газеты “Борисовские новости”, аўтар выдання “Згода” Алесь Абрамовіч. Здарэнне адбылося каля дома журналіста: невядомы напаў на А.Абрамовіча і пачаў збіваць яго. На дапамогу А.Абрамовічу прыйшлі двое маладых людзей, якія схапілі нападніка і даставілі яго ў міліцэйскі пастарунак; аднак у хуткім часе міліцыя яго адпусціла. Калегі А.Абрамовіча звязваюць інцыдэнт з яго прафесійнай і грамадскай дзейнасцю.

### Абрабавана рэдакцыя газеты "Заря"

Абласную газету "Заря" (заснавальнікі - Брэсцкі абласны Савет дэпутатаў, Брэсцкі аблвыканкам) абрабавалі невядомыя. Пра гэта паведаміла **3 лістапада** недзяржаўная газета "Брестский курьер".
Рабаўнікі забраліся ў бухгалтэрыю рэдакцыі і вынеслі адтуль кампаненты 3-х кампутараў. Праваахоўныя органы пачалі расследаванне гэтага інцыдэнту. Паводле "Брестского курьера", міліцыі раней ужо даводзілася расследаваць падобныя выпадкі: кампутары выкрадалі нават у Брэсцкім аблвыканкаме. Газета таксама зазначае, што для "Зари" выкраданне не стварыла якіх-кольвек праблем, "бо ўсе праграмы і іх бягучыя абнаўленні захоўваліся ў копіях".

### Загінуў журналіст “Народнай волі”

**18 кастрычніка** пазаштатны карэспандэнт газеты "Народная воля" Васіль Гроднікаў (1938 г.нараджэння) быў знойдзены мёртвым у сваім доме ў Заслаўі (Мінскі раён). Паводле заключэння судмедэкспертызы Мінскай абласной клінічнай бальніцы, асноўная прычына смерці – чэрапна-мазгавая траўма, “кантакт з тупым прадметам з нявызначанымі намерамі”. Па словах блізкіх Гроднікава, шмат якія прадметы і сцены ў доме былі ў крыві. Ні грошы, ні каштоўныя рэчы не зніклі.

21 кастрычніка следчы раённай пракуратуры Заслаўя Дзмітрый Кірыльчык, які праводзіць праверку па гэтай справе, заявіў агенцтву БелаПАН, што ў пракуратуры няма падставаў для ўзбуджэння крымінальнай справы па факце смерці Васіля Гроднікава. Паводле яго словаў, тое, што дом быў зачынены знутры, шкло – цэлае, і слядоў узлому не выяўлена, не дае падставы для ўзбуджэння крымінальнай справы. (Інфармацыю па гэтай справе можна знайсці таксама ў раздзеле “Гучныя справы”).

Васіля Гроднікава пахавалі 20 кастрычніка на Паўночных могілках.

### У Крычаве спрабуюць запалохаць журналістаў

**27 ліпеня** ў Крычаве былі распаўсюджаныя ўлёткі экстрэмісцкай арганізацыі “Русское национальное единство” (РНЕ), скіраваныя супраць галоўнага рэдактара крычаўскай незарэгістраванай газеты "Вольны горад" Сяргея Няроўнага і аўтара выдання Мікалая Гердзія. (Абодва - актывісты АГП). Як паведаміла прэс-служба Аб'яднанай грамадзянскай партыі, улёткі былі раскіданыя па цэнтральнай вуліцы Крычава непадалёк ад дома, дзе месціцца рэдакцыя выдання. На думку С. Няроўнага, гэтыя ўлёткі мелі на мэце запалохаць журналістаў "Вольнага горада". Ён звязвае гэта з тым, што яго выданне змяшчае выкрывальную для мясцовых уладаў інфармацыю.

### У галоўнага рэдактара газеты "Прессбол" Уладзіміра Беражкова апісалі маёмасць

**19 ліпеня** ў кватэры У. Беражкова была апісана ўся маёмасць на агульную суму 992 тысячы рублёў, - паведаміў інтэрнэт-партал tut.by. Маёмасць галоўнага рэдактара апісалі ўжо ў другі раз: першы вопіс адбыўся ў сакавіку г.г. у адпаведнасці з рашэннем суда Цэнтральнага раёна г. Мінска па зыску міністра фінансаў Мікалая Корбута.

4 студзеня 2005 г. суд прызнаў не адпаведнай рэчаіснасці фразу, апублікаваную на першай старонцы нумару ад 22.10.2004 г. ("В замах у министра финансов ходит человек, разыскиваемый Интерполом за участие в организованной преступной группировке") і пастанавіў спагнаць з газеты 30 млн. рублёў, з рэдактара - 10 млн. Рэдакцыя "Прессбола" ужо выплаціла неабходную суму, а ў Беражкова гэткіх грошай не знайшлося.

Газета пісала пра Андрэя Іманалі - намесніка М. Корбута ў Беларускай федэрацыі гімнастыкі. У красавіку А. Іманалі быў затрыманы ў Кіеве ў выніку сумеснай аперацыі спецслужб Украіны, Расіі і Беларусі. Як паведамляе tut.by, з сярэдзіны 90-х гадоў А. Іманалі ўзначальваў злачынную групоўку, якая спецыялізавалася на ўгонах і перапродажы іншамарак. У верасні 2001 г. супраць Іманалі пракуратурай Растоўскай вобласці была ўзбуджана крымінальная справа па факце выкрадання траіх чалавек.

Нягледзячы на гэтыя абставіны, у лютым судовая калегія Мінскага гарадскога суда

пакінула ў сіле ранейшае рашэнне суда Цэнтральнага раёну.

**Журналістку хацелі звольніць з працы з-за незадаволенасці чыноўніка**

Рэдактара Магілёўскай недзяржаўнай тэлевізійнай студыі "Другі канал" Алену Барысаву **ў чэрвені** ледзьве не звольнілі з працы з-за таго, што мясцовы чыноўнік выказаў незадаволенасць падрыхтаваным ёю сюжэтам.

У адной з перадач цыклю "З гісторыяй поруч", якая выйшла ў сярэдзіне чэрвеня, быў паказаны сюжэт, удзельнікі якога крытычна ацэньвалі ходу рэстаўрацыі магілёўскага Архірэйскага палацу 18 ст. Два гады таму палац быў вернуты Магілёўскай праваслаўнай епархіі, пасля чаго ў гістарычным будынку пачаўся рэстаўрацыйны рамонт. Аўтарка перадачы і іншыя яе ўдзельнікі выказалі занепакоенасць рамонтам, які знішчае пэўныя архітэктурныя асаблівасці Палаца. Пра тэлесюжэт рэзка выказаўся старшыня абласнога камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Валерый Ванькові́ч, які лічыць, што журналісты не павінна ўмешвацца ў працэс рэстаўрацыі маёмасці праваслаўнай царквы. Пра незадаволенасць абласнога чыноўніка стала вядома дырэктару "Другога канала" А. Астапаву, які вусна заявіў журналістцы, што звальняе яе працы. Аднак ён адмовіўся ад свайго намеру пасля таго, як А. Барысава асабіста патэлефанавала старшыню абласнога камітэта В. Ваньковічу. Па інфармацыі службы маніторынга БАЖ, журналістка прапанавала чыноўніку разабрацца з сітуацыяй у судзе, аднак той не захацеў заходзіць у спрэчцы настолькі далёка.

**Міліцыя спрабавала правесці агляд кватэры галоўнага рэдактара газеты "Згода"**

**30 траўня** ў кватэру галоўнага рэдактара газеты "Згода" Аляксея Караля прыйшоў супрацоўнік Партызанскага РУУС, які прад'явіў ордэр на правядзенне агляду памяшкання. Ініцыятыва правядзення агляду зыходзіла ад пракуратуры Партызанскага раёна г. Мінска. Недакладнасць у афармленні ордэру дазволіла яму прадухіліць правядзенне агляду. Ён заявіў міліцыянту, што дакументы, якія, паводле ордэру, былі неабходныя пракуратуры, ён можа прадаставіць і без правядзення агляду. (Гаворка ішла пра копію пасведчання аб рэгістрацыі А. Караля як індывідуальнага прадпрымальніка, копію дамовы з друкарняй "Плутас- маркет" і ўзор друкаванай прадукцыі (газеты "Згода"). **31 траўня** А. Кароль самастойна аднёс усе гэтыя паперы следчаму пракуратуры Партызанскага раёна Юрыю Філімонцаву, якому даручана правядзенне праверкі.

**У канцы красавіка** А. Кароль атрымаў з пракуратуры Партызанскага раёна ліст, у якім гаварылася пра магчымасць узбуджэння крымінальнай справы па факце публічнай знявагі Прэзідэнта (ч. 1 арт. 368 Крымінальнага Кодэксу). Прыкметы гэтага злачынства нібыта знайшлі міліцыянты Партызанскага РУУС, якія **24 сакавіка** правялі агляд жылога памяшкання, якое арандуе А. Кароль. (Гаворка ішла пра калажы, дэманстрацыя якіх, на думку пракуратуры, можа быць кваліфікаваная як публічная знявага Прэзідэнта). Тады міліцыя сканфіскавала кампутары, на якіх працаваў калектыў выдання, з-за чаго быў сарваны выхад аднаго нумару газеты "Згода". Пытанне аб вяртанні кампутараў уладальніку будзе разглядацца толькі пасля завяршэння праверкі чэрвеня) - у выпадку, калі пракуратура вырашыць не ўзбуджаць крымінальнай справы. Па інфармацыі А. Караля, праверка будзе доўжыцца да 16 чэрвеня.

**Напачатку красавіка** выцек 10-дзённы тэрмін, калі пракуратура Партызанскага раёна г.Мінска павінная была даць адказ на заяву рэдактара недзяржаўнай газеты “Згоды” Аляксея Караля пра незаконную

канфіскацыю рэдакцыйнага абсталявання. Пасля заканчэння адведзенага законам тэрміну на разгляд заявы А.Кароль двойчы тэлефанаваў у пракуратуру, але адказу не атрымаў. Таксама не было адказу на заяву аб незаконнай канфіскацыі, накіраваную выканаўцу абавязкаў начальніка Партызанскага РУУС г.Мінска Сяргею Беламу. Нягледзячы на канфіскацыю абсталявання, газета выходзіць рэгулярна дзякуючы "журналісцкай салідарнасці", – зазначыў А.Кароль.

**Журналістка "Народнай волі" хоча прыцягнуць да адказнасці міліцыянтаў**

Журналістка "Народнай волі" Вольга Класкоўская **13 красавіка** падала заяву ў Пракуратуру РБ з просьбай даць прававую ацэнку выпадкам парушэння журналісцкіх правоў супрацоўнікамі міліцыі падчас вулічнай акцыі 25 сакавіка ў Мінску. У заяве журналістка пералічвла шматлікія факты парушэння міліцыянтамі законаў "Аб друку і іншых СМІ" і "Аб міліцыі". У прыватнасці, яна прасіла ўзбудзіць дысцыплінарную вытворчасць у дачыненні да камандзіра АМАП ГУУС Мінгарвыканкама Юрыя Падабеда. Паводле яе заявы, камандзір АМАПу адмовіўся ўрэгуляваць сітуацыю, калі супрацоўнікі міліцыі перашкаджалі журналістам выконваць свае прафесійныя абавязкі па асвятленні масавай акцыі.

**АМАП клапаціўся аб бяспецы журналісткі?**

**У канцы сакавіка** Ленінскае РУУС г.Гродна правяло расследаванне па скарзе журналісткі газеты "Наша Ніва" Юліі Дарашкевіч, якая патрабавала прыцягнуць да адказнасці супрацоўнікаў міліцыі, якія **10 сакавіка** гвалтоўна выдалілі яе з месца правядзення акцыі пратэсту мясцовых прадпрымальнікаў. Паводле супрацоўніка РУУС Уладзіміра Смалякова, які праводзіў праверку, міліцыянты зрабілі гэта з мэтай забеспячэння яе бяспекі.

Падчас мітынгу Ю.Дарашкевіч рабіла здымкі, калі яе схапілі два ўзброеных гумовымі дубінкамі супрацоўніка АМАП з маскамі на тварах і ў шлемах і павялі да мікрааўтобуса з арыштаванымі прадпрымальнікамі. Журналістка мела пасведчанне-бэдж, замацаваны на верхняй вопратцы, і адразу паведаміла АМАПаўцам пра свой прафесійны статус. Аднак яны адвялі журналістку на процілеглы бок плошчы Леніна і адпусцілі, пагражаючы фізічным пакараннем у выпадку, калі яна ізноў з'явіцца на месцы акцыі.
У пададзенай скарзе Ю. Дарашкевіч сцвярджала, што супрацоўнікі міліцыі перашкодзілі ёй у выкананні прафесійных абавязкаў, груба парушылі "Закон аб друку" і "Загад №1" пра добразычлівыя паводзіны супрацоўнікаў міліцыі з грамадзянамі, аддадзены сёлета міністрам унутраных справаў Уладзімірам Навумавым.

**Н.Валакіда паведаміла міністру ўнутраных спраў аб парушэнні яе правоў супрацоўнікамі міліцыі**

**28 сакавіка** журналістка газеты "Згода" Наталля Валакіда звярнулася з адкрытым лістом да міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Навумава. У ім яна звярнула ўвагу міністра на парушэнні з боку яго падначаленых падчас выканання ёй журналісцкіх абавязкаў у момант правядзення масавай акцыі 25 сакавіка ў Мінску.

Паводле журналісткі, супрацоўнікі АМАПу збілі яе з ног, нягледзячы на тое, што яна паведаміла ім пра выкананне рэдакцыйнага задання. Н. Валакіда заявіла таксама, што супрацоўнікі АМАПу штурхалі яе, станавіліся на ступні ног і білі ў вісок. Па словах журналісткі, на патрабаванне спыніць гвалтоўныя дзеянні міліцыянты адказвалі нецэнзурнай лаянкай.
Журналістка прасіла міністра ўнутраных справаў Беларусі разабрацца ў прыведзеных прыкладах і запатрабавала

забяспечыць няўхільнае выкананне журналісцкіх правоў супрацоўнікамі праваахоўных органаў.

**КДБ зацікавіўся ўдзельнікамі семінара для журналістаў**

Пасля адукацыйнага семінара для журналістаў, зладжанага ў Магілёве **21-га і 22-га студзеня** ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" і беларускім прадстаўніцтвам Фонду імя Ф. Эберта, яго ўдзельнікамі пачалі цікавіцца супрацоўнікі КДБ.

23-га студзеня Віталь Ругайны, вучань 11 класа адной з магілёўскіх школ, быў выкліканы ў дырэктарскі кабінет. Там да яго звярнуўся "чалавек ў цывільным", які назваўся супрацоўнікам КДБ, але адмовіўся паведаміць сваё прозвішча. Ананім падрабязна распытваў падлетка пра тое, якім чынам ён трапіў на семінар, што там гаварылася, хто вёў трэнінг, якія тэмы выклікалі сярод удзельнікаў дыскусіі і ў якім "ідэалагічным накірунку" ішла размова.

У адукацыйным семінары "Прававыя і этычныя аспекты журналісцкай дзейнасці" бралі ўдзел блізу 30 чалавек - супрацоўнікаў дзяржаўных і недзяржаўных СМІ, а таксама маладых людзей, якія толькі збіраюцца стаць журналістамі. Семінар рыхтаваўся адкрыта і прайшоў без эксцэсаў.

## Затрыманні журналістаў, выклікі ў праваахоўныя органы. Папярэджанні пракуратуры


У 2005 годзе FM-станцыі былі папярэджаныя 18 раз
Міліцыя дапытала выдаўца газеты "Назіральнік"
Пракуратура правярае публікацыі ў газеце «Борисовские новости»
Рэдакцыя «Згоды» атрымала папярэджанне ад Міністэрства інфармацыі
Журналіста Анджэя Пісальніка зноў папярэдзіла пракуратура
Рэдакцыі газеты "Згода" не вярнулі аргтэхніку
Пракуратура цікавіцца зместам прафсаюзнага бюлетэня
Пракуратура апраўдала цікавасць КДБ да замежнай паездкі
Мінская абласная пракуратура не задаволіла скаргі А.Букаса
Пракуратура папярэдзіла І.Халіп
У журналіста канфіскаваныя дыктафоны і фотаапарат
Гродзенскіх журналістаў зноў аштрафавалі
Рэдактар газеты "День" атрымаў адказ з пракуратуры
10 сутак адміністратыўнага арышту Анджэю Пісальніку
Анатоля Букаса выклікалі ў пракуратуру
Чарговыя мільённыя штрафы гарадзенскім журналістам
Польскую журналістку затрымалі ў Шчучыне
Галоўнага рэдактара часопіса "Магазын польскі" пакаралі 15-ю суткамі арышту
Чарговыя мільённыя штрафы гарадзенскім журналістам
Галоўнага рэдактара часопіса "Магазын польскі" ("Magazyn polski") Андрэя Пачобута прымусам вадзілі ў пастарунак
Спроба затрымання журналіста ў Светлагорску
Р. Улану з цяжкасцю ўдалося даказаць, што на яго распаўсюджваецца дзеянне закона «Аб амністыі»
Гарадзенская журналістка дала тлумачэнні ў пракуратуры
С.Няроўнага выклікалі ў пракуратуру
Тры польскія журналісты затрыманыя падчас асвятлення выбараў
Рэдактара "Вольнага горада" папярэдзіў пракурор
Супрацоўніца прэс-службы АГП правяла каля 40 хвілін у аддзяленіі міліцыі
Пракуратурай папярэджаны выдавец "Вольнага горада"
С.Няроўнага выклікалі на гутарку ў КДБ
Журналіст «Пагоні» дапытаны міліцыяй
Журналіста "Белорусской газеты" абвінавачваюць у супраціўленні работнікам міліцыі


### У 2005 годзе FM-станцыі былі папярэджаныя 18 раз

За 2005 год Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь вынесла 18 папярэджанняў беларускім FM-станцыям, - паведаміў **прыканцы 2005** году начальнік упраўлення электронных СМІ Мініінфармацыі Аляксандар Карачун. Некаторыя станцыі атрымалі па два папярэджанні.

Нагадаем, што увесь 2005 год усе музычныя станцыі павінныя былі выконваць распараджэнне, паводле якога 75% музычнага напаўнення эфіру мусілі складаць творы беларускіх аўтараў. За выкананнем гэтай прапорцыі сачылі ў штотыднёвым маніторынгу, падчас якога выяўляліся выпадкі невykanання абавязкаў і выносіліся папярэджанні. Усяго на Беларусі працуе 30 FM-станцый, 14 з якіх – у сталіцы краіны.

### Міліцыя дапытала выдаўца газеты "Назіральнік"

**25 лістапада** ў Жодзіне быў выкліканы ў міліцыю выдавец недзяржаўнай газеты "Назіральнік" Павел Карасоўскі.

Праваахоўныя органы хацелі высветліць у яго сапраўднае месца выдання яго газеты. Паводле выходных дадзеных, “Назіральнік” друкуецца ў будынку па вуліцы 40 год Кастрычніка, 7 (у Жодзіне па гэтым адрасе месціцца будынак гарвыканкама). П.Карасоўскі патлумачыў, што “Назіральнік” выдаецца па гэтым адрасе, але ў іншым горадзе і краіне.

Газета “Назіральнік” выдаецца накладам 299 асобнікаў і распаўсюджваецца ў акрузе, дзе П.Карасоўскі мае намер балатавацца ў дэпутаты гарсавету.

### Пракуратура правярае публікацыі ў газеце «Борисовские новости»

Пракуратура г. Барысава павінна даць "прававую ацэнку" некалькім артыкулам, што былі апублікаваныя ў газеце "Борисовские новости", і "прыняць адпаведнае рашэнне аб мерах пракурорскага рэагавання". Адпаведнае распараджэнне прыйшло з пракуратуры Мінскай вобласці, якая, у сваю чаргу, атрымала даручэнне з Пракуратуры РБ (аддзел па наглядзе за выкананнем правоў і свабод грамадзян). Пра гэта **21 лістапада** паведаміў галоўны рэдактар выдання Анатоль Букас.

У пасланні рэспубліканскай пракуратуры гаворыцца, што Міністэрства інфармацыі па даручэнні Мінаблвыканкама праанализавала шэраг артыкулаў на прадмет "злоўжывання свабодай масавай інфармацыі" рэдакцыяй газеты "Борисовские новости", але "не знайшло падставаў для прымянення да рэдакцыі санкцый у апаведнасці з Законам РБ "Аб друку і іншых СМІ". Гаворка ідзе пра артыкулы "Душат свободу слова", "Александра Григорьевича сменит Виктор Александрович?", "Я буду защищать власть с оружием в руках", "Белорусское чудо", "К лицу ли лавровый венок", "Бесит позиция ЕС", "Трудоустроил сыновей", "Лингвинисты" нам не нужны", "Последняя стройка коммунизма", "Дипломатический скандал", "Не допустить применения оружия", "Кремль тащит "батьку" из пекла", "Выборы без Лукашенко", "Мечта президента Лукашенко", "В Белоруссии первая леди на деревне", "Зовут в лес, а идти надо в болото", "Микола Статкевич отбыл на "химию", "Как опять не попасть в ловушку".

На гэты час прадпрыемства "Мінаблсаюздрук" скасавала дамову з газетай на продаж у кіёсках, а Барысаўскі раённы вузел паштовай сувязі адмовіўся заключаць з рэдакцыяй дамову на прыём і дастаўку падпісных накладаў выдання.

### Рэдакцыя «Згоды» атрымала папярэджанне ад Міністэрства інфармацыі

**9 лістапада** Міністэрства інфармацыі РБ вынесла папярэджанне рэдакцыі недзяржаўнай газеты “Згода”. Выданне звінавачваюць у распаўсюдзе звестак, якія зневажаюць гонар і годнасць кіраўніка дзяржавы (арт. 5 Закона аб друку). Міністэрства палічыла, што ў шэрагу тэкставых публікацый і калажаў газета распаўсюдзіла звесткі, якія зневажаюць гонар і годнасць кіраўніка дзяржавы. Да такой высновы яно прыйшло, разгледзеўшы матэрыялы ў шэрагу нумароў “Згоды” ў 2005 г. (№№1,5,6,10,12,18,19), а таксама пастановы суда Партызанскага раёна Мінска ад 23 верасня ў дачыненні да кіраўнікоў рэдакцыі А. Караля і А. Сдвіжкова.

Галоўны рэдактар “Згоды” Аляксей Кароль падкрэслівае, што большасць гэтых публікацый ужо фігуравала ў адміністрацыйных справах супраць яго і А. Сдвіжкова. (У верасні іх аштрафавалі на 100 базавых велічыняў кожнага за парушэнне арт. 172-1 КоАП – распаўсюд праз СМІ зневажальных для Прэзідэнта звестак).

### Журналіста Анджэя Пісальніка зноў папярэдзіла пракуратура

**2 лістапада** пракуратура Ленінскага раёна Гродна вынесла афіцыйнае папярэджанне гродзенскаму журналісту Анджэю Пісальніку за тое, што ён "абразіў беларускі народ" у адной са сваіх публікацый. Падставай для папярэджання стаў артыкул А. Пісальніка "Палякі Аляксандра Рыгоравіча", які з'явіўся ў № 21 газеты "Glos znad Niemna", што выдаецца ў Польшчы. Пракурор Урублеўскі, які падпісаў папярэджанне, палічыў, што змест гэтага артыкулу "прыніжае нацыянальны гонар і годнасць" грамадзян РБ і цяперашняга старшыні Саюзу палякаў сп-ра Лучніка. У выпадку "працягу супрацьзаконнай дзейнасці" пракуратура абяцае прыцягнуць журналіста да адказнасці "ва ўстаноўленым законам парадку". У пракуратуры А. Пісальніку патлумачылі, што яго дзеянні могуць быць кваліфікаваныя як парушэнне арт. 130 Крымінальнага кодэксу.

Гэта было ўжо другое папярэджанне пракуратуры Ленінскага раёна Гродна, якое атрымлівае А. Пісальнік апошнім часам: **29 верасня** намеснік пракурора Ленінскага раёна г. Гродна Аляксандр Абрамовіч папярэдзіў Анджэя Пісальніка аб недапучшэнні таго, каб журналіст прадстаўляўся як галоўны рэдактар выдання Саюзу палякаў Беларусі "Glos znad Niemna". Нагодай да папярэджання стала скарга ў пракуратуру, напісаная некалькі месяцаў таму былым кіраўніком Саюзу палякаў Тадэвушам Кручкоўскім. У час між двума з'ездамі арганізацыі, калі Саюзам Палякаў кіравала Анжаліка Борыс, у Польшчы былі надрукаваныя два нумары выдання, падпісаныя ў друк А.Пісальнікам. Пасля зменаў у кіраўніцтве арганізацыі А.Пісальнік не быў уключаны ў новы склад рэдакцыі. Тым не менш, на канфернцыі АБСЕ, якая тыдзень таму прайшла ў Варшаве, А.Пісальніка, які браў удзел у яе працы, прэзентавалі ў якасці рэдактара "Glos znad Niemna".

Увечары **20 кастрычніка** гродзенскага журналіста, актывіста Саюзу палякаў Андрэя Пачобута затрымала міліцыя. Супрацоўнікі праваахоўных органаў заявілі, што ў міліцыі ёсць да яго пытанні ў сувязі з нумарамі газеты "Glos znad Niemna", якія выйшлі ў Польшчы і распаўсюджваліся ў Беларусі. (На 20 кастрычніка ў Беларусі распаўсюджана тры нумары газеты "Glos znad Niemna", якая з'яўляецца друкаваным органам СПБ, кіраванага Анжалікай Борыс. Газета з'яўляецца канкурэнтам аднайменнай газеце, якую выдае СПБ на чале з Ю. Лучнікам). Журналіста адвезлі ў Ленінскі РУУС Гродна, дзе паведамілі, што да іх звярнуўся намеснік пракурора вобласці сп. Труцко і даручыў правесці праверку на прадмет парушэння заканадаўства падчас выпуску і распаўсюду згаданага выдання. А. Пачобуту прапанавалі даць тлумачэнні, аднак ён адмовіўся.

Пасля гэтага журналіста адвезлі ў Шчучын, дзе каля 21.30 уручылі падпіску пра нявыезд. (У Шчучыне заведзеная крымінальная справа па заяве сябра СПБ В. Богдана, па якой журналіст праходзіць у якасці падазраванага). А. Пачобут адмовіўся ставіць подпіс пад падпіскай, заявіўшы, што не згодны з такой мерай стрымання і не будзе прадпрымаць якіх-небудзь дзеянняў без адваката. **28 кастрычніка** журналісту Андрэю Пачобуту была скасаваная мера стрымання ў выглядзе падпіскі аб нявыездзе.

Ленінская раённая пракуратура Гродна будзе праводзіць праверку па факце выхаду ў Польшчы часопісу "Magazyn Polski" і газеты "Glos znad Niemna" ў эміграцыі". **6 снежня** дахаты да галоўнага рэдактара часопіса "Magazyn Polski" Андрэя Пачобута прыходзіў участковы міліцыянт, каб узяць тлумачэнні. Ён паведаміў, што з заявай наконт часопіса і газеты ў пракуратуру звярнуўся Камітэт па справах рэлігій і нацыянальных меншасцяў.

### Рэдакцыі газеты "Згода" не вярнулі аргтэхніку

Пракуратура Партызанскага раёну дагэтуль не вярнула рэдакцыі

недзяржаўнай газеты “Згода” два з чатырох кампутараў, якія міліцыя забрала 24 сакавіка гэтага году падчас агляда памяшкання, якое займае рэдакцыя. У тэлефоннай размове з галоўным рэдактарам выдання Аляксеем Каралем следчы Пракуратуры Партызанскага раёна Ю.Філімонцаў заявіў, што яны знаходзяцца ў КДБ.

Акрамя тэхнікі, міліцыя забрала калажы, якія друкавала выданне. Калажы сталі падставай для пакарання галоўнага рэдактара газеты “Згода” Аляксея Караля і рэдактара Аляксандра Здвіжкова штрафам, памерам 100 базавых велічынь (2,55 млн. рублёў). Суд Партызанскага раёну г.Мінска 23 верасня прызнаў іх вінаватымі ў парушэнні ч.10 арт. 172-1 Кодэкса аб адміністратыўных парушэннях (распаўсюд сродкамі масавай інфармацыі наўмысна ілжывых звестак, якія ганьбяць гонар і годнасць Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь). Журналісты падалі на гэтае рашэнне наглядныя скаргі ў Мінскі гарадскі суд. У адказе, атрыманым **18 кастрычніка** і падпісаным намеснікам старшыні суда Турко адзначна, што іх скарга будзе разгледжаная пазней, паколькі адмінстратыўная справа накіраваная з Партызанскага раёну ў гарадскую пракуратуру.

## Пракуратура цікавіцца зместам прафсаюзнага бюлетэня

Старшыня Беларускага прафсаюза працаўнікоў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) Генадзь Фядыніч быў вымушаны напісаць тлумачальную з нагоды інфармацыі, надрукаванай у прафсаюзным бюлетэні «Экспресс-Инфо» № 22 ад 8 жніўня 2005 году. Генеральная пракуратура палічыла, што ў бюлетэні ўтрымліваецца шмат негатыўнай інфармацыі. Прафсаюзнага лідэра выклікалі на гутарку і папрасілі паведаміць наклад бюлетэня, а таксама тое, дзе ён друкуецца і як распаўсюджваецца. Супрацоўніца Генеральнай пракуратуры Святлана Ганчарова выказала сумнеў наконт патрэбы размяшчэння ў бюлетэні негатыўнай інфармацыі пра сацыяльна-эканамічнай становішча ў краіне. Г.Фядыніч мяркуе, што інфармацыя павінная быць найперш праўдзівая. Ён таксама падкрэслі, што бюлетэнь выпускаецца і распаўсюджваецца ў строгай адпаведнасці з заканадаўствам краі, - паведаміў **10 кастрычніка** сайт прафсаюзнага руху Беларусі.

## Пракуратура апраўдала цікавасць КДБ да замежнай паездкі

Дзеянні супрацоўніка КДБ у Светлагорску ў дачыненні да мясцовага журналіста Аляксандра Раўценкі прызнаныя правамернымі. Такі адказ даў пракурор Светлагорскай міжраённай пракуратуры і начальнік міжраённага аддзялення КДБ на зварот групы грамадзян, накіраваны ў сярэдзіне жніўня пасля выкліку журналіста на размову да супрацоўніка КДБ. Ён цікавіўся ў журналіста падрабязнасцямі адукацыйнай паездкі ў Чэхію прадстаўнікоў “Таварыства беларускай мовы” ды іншых грамадскіх арганізацый. Група грамадзян у сваім звароце нагадала, што вольны выезд за межы краіны ёсць неад’емным правам грамадзяніна Беларусі, гарантаваным Канстытуцыяй і Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека, - паведаміла **3 кастрычніка** інфармацыйнае агенцтва БелаПАН.

## Мінская абласная пракуратура не задаволіла скаргі А.Букаса

Пракуратура Мінскай вобласці не задаволіла скаргі галоўнага рэдактара газеты "Борисовские новости" Анатоля Букаса на папярэджанне, вынесенае яму пракурорам г. Барысава. Кіраўніцтва абласной пракуратуры ўпэўненае, што журналіст не мае права абнародаваць не толькі матэрыялы суда, але і сваё меркаванне пра яго.
У лісце, які падпісаў **29 верасня** намеснік пракурора вобласці Кампанец,

сцвярджаецца, што А. Букас няправільна трактуе ч.2 арт. 5 Закона "Аб друку і іншых СМІ", лічачы, што забаронена публікаваць толькі копіі дакументаў, што знаходзяцца ў крымінальнай справе. Сп. Кампанец лічыць, што арт. 5 забараняе не толькі распаўсюд інфармацыі, атрыманай у ходзе судовага слухання крымінальнай справы, але і "давядзенне да ведама чытачоў асабістых вымыслаў аўтара". У лісце ўказваецца, што "пісьмовага дазволу на апублікаванне якіх-небудзь артыкулаў пра дадзены судовы працэс да ўступлення прысуду ў законную сілу" ні аўтару публікацыі, ні рэдакцыі "Борисовских новостей" не давалася.

**25 жніўня** пракуратура г. Барысава вынесла афіцыйнае папярэджанне Анатолю Букасу. Падставай для папярэджання сталі 2 карэспандэнцыі пад назвай "Суд проходил в одни ворота", апублікаваныя ў №№26 і 27 газеты ў чэрвені - ліпені г.г. і прысвечаныя судоваму працэсу па крымінальнай справе ў дачыненні да А. Букаса. На думку пракуратуры, у гэтых карэспандэнцыях быў парушаны арт. 5 Закона аб друку, які забараняе апублікаванне альбо абнародаванне не завершаных вытворчасцю матэрыялаў судовай справы без пісьмовага дазволу суддзі. Пракуратура сцвярджае, што прысуд па справе А. Букаса ўступіў у законную сілу ўжо пасля з'яўлення згаданых публікацый: хаця суд Барысаўскага раёна вынес рашэнне яшчэ 16 чэрвеня, касацыйная інстанцыя пацвердзіла яго толькі 22 ліпеня. Такім чынам, да гэтага часу судовая справа была не завершаная вытворчасцю, - лічаць у пракуратуры.

Юрысты Цэнтру прававой дапамогі СМІ пры ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў", са свайго боку, звяртаюць увагу на тое, што ў публікацыях не ўтрымлівалася ніякіх цытат з матэрыялаў справы. Журналіст уласнымі словамі пераказваў тое, што ўбачыў і пачуў на адкрытым судовым паседжанні.

Праверка, вынікам якой стала папярэдэжанне А. Букасу, была праведзена на падставе звароту рэдактара газеты Барысаўскага гарвыканкаму "Адзінства" Веры Пратасевіч. Нагадаем, што менавіта ёй быў прысвечаны артыкул "Звезданутый пострел везде поспел, или молчание ягнят", які з'явіўся ў сакавіку 2004 г. і за які Анатоля Букаса прызналі вінаватым у парушэнні двух артыкулаў Крымінальнага кодэксу. 16 чэрвеня суд абавязаў яго выплаціць штраф у памеры 40 базавых велічыняў, а таксама 3 мільёны рублёў на кампенсацыю маральных стратаў Веры Пратасевіч.

### Пракуратура папярэдзіла Ірыну Халіп

Генеральная пракуратура Беларусі вынесла афіцыйнае папярэджанне намесніку галоўнага рэдактара выдання «БДГ. Деловая газета» Ірыне Халіп, пра гэта **29 верасня** паведаміла інтэрнэт-выданне Euramost.org. І.Халіп атрымала папярэджанне за артыкул у расійскім выданні “Новая газета” 1-3 жніўня «Время выбрасывать грабли», гаворка ў якім ішла пра магчымасці і перспектывы рэвалюцыі ў Беларусі. У папярэджанні гаворыцца, што вывучэнне артыкула дае падставу меркаваць, што ў артыкуле І.Халіп ёсць заклікі да дэстабілізацыі грамадскага парадку і змены канстытуцыйнага ладу Рэспублікі Беларусь неправавымі сродкамі. Пракурор па нагляду за выкананнем канстытуцыйных правоў грамадзян Пракуратуры Рэспублікі Беларусь Святаслаў Гарэлік папярэдзіў журналістку, што ў выпадку напісання ёй новых артыкулаў з падобнымі заклікамі, яе дзеянні будуць разглядацца як залікі да гвалтоўнага звяржэння ўлады. Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь прадугледжвае за падобныя дзеянні пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад 1 да 5 гадоў.

### У журналіста канфіскаваныя дыктафоны і фотаапарат

**1 верасня** ў журналіста, кіраўніка Гомельскай арганізацыі ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” Анатоля Гатоўчыца “Радыё “Свабода” Казіміра Яноўскага канфіскаваныя дыктафоны і фотаапарат. Гэта здарылася ў вёсцы Дарашэвічы, паблізу Петрыкава (у Петрыкаве ў той дзень А.Лукашэнка знаходзіўся на адкрыцці школы). Журналіст браў інтэрв’ю у сялян і фатаграфаваў плот, які аддзяляе вёску ад Прыпяці. Чалавек, які назваўся кіраўнікам службы аховы прэзідэнта Уладзімерам Мікалаевічам, папрасіў журналіста прад’явіць дыктафоны і фатаапарат, якія былі канфіскаваныя. Ён заявіў, што ў сувязі з прыездам Аляксандра Лукашэнкі ў Петрыкаўскі раён праводзіцца аперацыя "Антытэрор", у межах якой неабходна прад'яўляць на праверку дыктафоны, фотаапараты і ўсю іншую тэхніку. Іншыя службоўцы абшукалі легкавік і забралі касеты з музыкаю. За рэчамі журналісту было прапанавана прыехаць у Мінск.

## Гродзенскіх журналістаў зноў аштрафавалі

**29 жніўня** галоўны рэдактар часопіса Саюзу палякаў "Magazyn Polski" журналіст Андрэй Пачобут быў пакараны адміністрацыйным штрафам памерам у 1 базавую велічыню (25,5 тысяч рублёў). Суддзя раённага суду ў Шчучыне Таццяна Тадароўская прызнала яго вінаватым у дробным хуліганстве (нецэнзурнай лаянцы каля Шчучынскага райаддзелу міліцыі). 26 жніўня намеснік начальніка райаддзела Генрых Зубель аштрафаваў на такую ж суму журналіста газеты "Салідарнасць" Івана Романа.

## У Шчучыне затрыманы журналісты

Журналіст газеты “Салідарнасць” Іван Раман накіраваў у пракуратуру скаргу на нездавальняльныя ўмовы ўтрымання у шчучынскім ізалятары. **26 жніўня**, напярэдадні паўторнага 6-га з’езду Саюзу палякаў на Беларусі Іван Раман быў затрыманы ў Шчучыне разам з рэдактарам часопіса Саюзу палякаў "Magazyn Polski" Андрэем Пачобутам. Журналістаў



пратрымалі суткі ў розных камерах. У скарзе Іван Раман звяртае ўвагу на тое, што яго ўтрымлівалі ў камеры, дзе знаходзіліся хворыя на туберкулёз. 27 жніўня абодва журналісты былі адпушчаныя.

**12 кастрычніка** Іван Роман атрымаў адказ з Шчучынскай раённай пракуратуры, куды ён скардзіўся на ўмовы ўтрымання ў міліцэйскім ізалятары ў гэтым райцэнтры. У адказе, падпісаным пракурорам Г.Дыско, гаворыцца, што праз два тыдні ў Шчучыне, куды выклікалі І.Романа, медэкспертыза не прызнала яго пакусаным насякомымі, хаця ён прадставіў адпаведную даведку з скурна-венералагічнага дыспансэру.

## Гродзенскіх журналістаў падазраюць у крымінальным злачынстве

Гродзенскі журналіст Анджэй Пісальнік стаў падазраваным у здзяйсненні крымінальнага злачынства. Ён паведаміў прэс-службе ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў", што **25 жніўня** яго выклікалі ў Гродзенскае абласное ўпраўленне ўнутраных спраў і ўручылі адпаведную пастанову. Па інфармацыі А. Пісальніка, акрамя яго, па гэтай справе будуць праходзіць як падазраваныя журналіст Андрэй Пачобут, а таксама прадстаўнікі кіраўніцтва Саюзу палякаў Юзэф Пажэцкі і Веслаў Кеўляк.

Паводле А. Пісальніка, крымінальная справа была заведзена па арт. 185 КК РБ Шчучынскай раённай пракуратурай на падставе заявы ў міліцыю дырэктара Дома польскага ў Шчучыне Віктара Богдана. Апошні сцвярджае, што ў ліпені

пад час візіту да яго чатырох вышэйзгаданых актывістаў СПБ яны патрабавалі, каб ён аддаў ім ключы ад Дому польскага, прымушалі яго адмовіцца ад пасады і пагражалі яму.

**26 кастрычніка** на допыт у Шчучын выклікалі журналістаў Андрэя Пачобута і Анджэя Пісальніка, а таксама намеснікаў старшыні Саюзу палякаў на Беларусі Юзэфа Пажэцкага і Веслава Кеўляка.

**20 лістапада** падчас перасячэння польска-беларускай мяжы на памежным пераходзе Кузніца-Брузгі у рэдактара польскамоўнага часопіса Magazyn Polski" Андрэя Пачобута быў канфскаваны пашпарт. Спачатку памежнікі некалькі гадзін пратрымалі А.Пачобута і Мечыслава Яскевіча (старшыню гродзенскай філіі Саюза палякаў на Беларусі), а потым адпусцілі. А.Пачобуту паведамілі, што яго пашпарт канфіскаваны, паколькі у ім быў ануляваны дазвольны штамп на выезд за межы Беларусі. Без гэтага штампу А.Пачобут змог патрапіцьу Польшчу, паколькі ён ехаў туды праз Расію і Украіну.

**12 снежня** ў Ленінскім АВІРы г.Гродна рэдактару часопіса “Magazyn Polski” Андрэю Пачобуту вярнулі пашпарт. У пашпарце пастаўленая гербавая пячатка з надпісам ад рукі “часова абмежаваны выезд за мяжу” і подпісам начальніка абласнога АВІРу Грыгор’ева. Дазвол на выезд за мяжу таксама ануляваны яшчэ тром іншым сябрам Саюзу палякаў, якія маюць статус падазраваных у справе аб запалохванні дырэктара Дому польскага ў Шчучыне Віктара Богдана.

Галоўнаму рэдактару газэты “Glos znad Niemna” ў эміграцыі” А. Пісальніку забаранілі выезд за мяжу. **1 снежня** Анджэя Пісальніка затрымалі каля г. Скідзель і даставілі ў Ленінскі РАУС г.Гродна. Там яму скасавалі пячатку ў пашпарце, якая дазваляе выезд ва ўсе краіны свету. Як патлумачылі А.Пісальніку, гэта зроблена таму, што ён з’яўляецца падазраваным па крымінальнай справе аб запалохванні дырэктара шчучынскага Дому польскага Віктара Богдана. Раней выезд за мяжу быў забаронены тром ягоным калегам па Саюзе палякаў.

**Прыканцы 2005** года Генеральная пракуратура яшчэ на месяц падоўжыла следства па справе аб запалохванні дырэктара шчучынскага Польскага дому Віктара Богдана. Следства па справе доўжыцца чатыры месяцы.

**6 снежня** справа аб запалохванні дырэктара Дому польскага ў Шчучыне Віктара Богдана перададзеная ў Гродзенскае абласное упраўленне ўнутраных справаў, - паведаміла “Радыё “Свабода”. Пра гэта галоўнаму рэдактару газеты “Glos znad Niemna” у эміграцыі” Анджэю Пісальніку на наступны дзень паведаміў следчы па гэтай справе. Таму вочная стаўка А.Пісальніка з В.Богданам, прызначаная на 7 снежня, не адбылася.

### Рэдактар газеты "День" атрымаў адказ з пракуратуры

**11 жніўня р**эдактар газеты "День" Мікалай Маркевіч атрымаў адказ з пракуратуры Дубровенскага раёну на сваю скаргу з нагоды канфіскацыі супрацоўнікамі Дубровенскага РАУС накладу газеты "День". Інцыдэнт адбыўся 26 траўня 2005 году на аўтадарозе "Мінск-Масква". У лісце за подпісам намесніка пракурора Дубровенскага раёну юрыста 1 класу А. Бузікава сцвярджаецца, што, апроч іншага, "супрацоўнікамі Дубровенскага РАУС пры візуальным аглядзе выдання, падпісанага ў друк яшчэ 9.06.2004, было ўстаноўлена, што шэраг апублікаваных артыкулаў утрымлівалі звесткі аб падзеях, якія адбыліся пасля падпісання". Да таго ж, "указаны ў газеце адрас рэдакцыі не адпавядаў рэчаіснасці, бо па ўказаным адрасе рэдакцыя газеты не знаходзілася". У звязку з гэтым "супрацоўнікамі Дубровенскага РАУС у

дзеяннях адказных асоб ТДА "Деньпресс" былі ўгледжаны прыкметы складу адміністратыўнага правапарушэння, прадугледжанага ч. 3 арт. 172 КаАП Рэспублікі Беларусь па прыкмеце распаўсюджвання друкаваных выданняў, вырабленых з парушэннем устаноўленага парадку і не маючых выходных дадзеных, бо ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" пад распаўсюджваннем маецца на ўвазе таксама і дастаўка друкаванай прадукцыі". Што тычыцца магчымага вяртання канфіскаванага накладу, то "Вам з гэтай нагоды трэба звярнуцца непасрэдна ў Дубровенскі РАУС альбо УУС Віцебскага аблвыканкаму", - гаворыцца ў лісце Дубровенскай пракуратуры на адрас Міколы Маркевіча.

**10 сутак адміністратыўнага арышту Анджэю Пісальніку**

**4 жніўня** ў судзе Лідскага раёну Гродзенскай вобласці адбыўся суд над галоўным рэдактарам польскамоўнага штотыднёвіка "Glos znad Niemna" Анджэем Пісальнікам. Яго абвінавачвалі ў парушэнні арт. 167 ч. 1 Кодэксу аб адміністратыўных правапарушэннях за арганізацыю і ўдзел у святкаванні Дня незалежнасці 3 ліпеня каля Дома Польскага, а таксама арт. 166 КаАП за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі. З дня затрымання 1 жніўня да сёння Анджэй Пісальнік трымаў галадоўку на знак пратэсту супраць дзеянняў уладаў у яго дачыненні. Паводле словаў адваката журналіста Аляксандра Бірылава, "А. Пісальнік быў затрыманны фактычна незаконна". Як паведаміў з Гродна сябра ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Павал Мажэйка, у часе судовага паседжання не было прадстаўлена доказаў правапарушэння з боку Анджэя Пісальніка. Сведкі - міліцыянты, у сваю чаргу, блыталіся з паказаннямі. Адвакат папрасіў суд спыніць вытворчасць па справе, але суддзя Валянцін Шэўчык палічыў інакш. У выніку Андэжэй Пісальнік прыгавораны да 10 сутак адміністратыўнага арышту, які будзе адбываць у ізалятары часовага ўтрымання Лідскага РАУС. Пасля вынясенне судовага рашэння Анджэй Пісальнік вырашыў прыпыніць галадоўку, якую абвесціў падчас затрымання, лічачы яго незаконным.

**Анатоля Букаса выклікалі ў пракуратуру**

**Напачатку жніўня** Пракуратура г. Барысава (Натальля Юр'еўна Ленартовіч) запрасіла для дачы тлумачэнняў рэдактара "БН" Анатоля Букаса ў звязку з публікацыямі ў газеце артыкула Аляксандра Абрамовіча "Суд праходзіў у адны вароты" аб судовым працэсе над А. Букасам (яго прызналі вінаватым у абразе Пратасевіч і паклёпе на яе). Пратасевіч напісала заяву ў пракуратуру, у якой указала, што Букас быццам бы парушыў арт. 5 Закона аб друку, калі апублікаваў матэрыялы крымінальнай справы без пісьмовага дазволу суддзі і да разгляду крымінальнай справы. Аляксандр Абрамовіч таксама прысутнічаў у пракуратуры і патлумачыў, што да матэрыялаў справы дапушчаны не быў, а рыхтаваў матэрыялы на падставе ўласных дыктафонных запісаў, якія зрабіў падчас адкрытага судовага працэсу.

Пракуратура разглядае пытанне аб вынясенні папярэджання. Натальля Лернатовіч на просьбу прэс-службы ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" пракаментаваць сітуацыю адказала катэгарычнай адмовай.

**Польскую журналістку затрымалі ў Шчучыне**

**27 ліпеня** супрацоўнікі міліцыі ў Шчучыне затрымалі журналістку польскай публічнай тэлевізіі TVP1 Агнешку Рамашэўску. Падставай для затрымання сталася тое, што журналістка не мела

пры сабе акрэдытацыі Міністэрства замежных справаў Беларусі.

Агнешку Рамашэўску затрымалі адразу па яе прыездзе ў Шчучын, каля Польскага дома. Журналістка спрабавала задаць пытанне мужчыну, якога пазнала з выступаў па БТ, аднак была адразу затрыманая супрацоўнікамі міліцыі і дастаўлена ў мясцовае аддзяленне міліцыі. Агнешка Рамашэўска спадзяецца, што яе далейшы лёс хутка высветліцца, і міліцыя дазволіць ёй вярнуцца да працы.

### Галоўнага рэдактара часопіса "Магазын польскі" пакаралі 15-ю суткамі арышту

15 сутак адміністратыўнага арышту - такое пакаранне вызначыў **27 ліпеня** суд Лідскага раёна ў дачыненні да Андрэя Пачобута, галоўнага рэдактара часопіса "Магазын польскі". Журналіст прызнаны вінаватым ва "ўдзеле ў несанкцыянаваным мерапрыемстве 3 ліпеня ў горадзе Шчучын і ў непадпарадкаванні ў той жа дзень патрабаванням супрацоўнікам міліцыі".

Андрэй Пачобут разам з намеснікам старшыні Саюзу палякаў Беларусі Юзэфам Пажэцкім і старшынём Гродзенскай арганізацыі СПБ Мечыславам Яскевічам, быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі горада Шчучына 26 ліпеня каля 21.00 нібыта для праверкі дакументаў. Пачобута, Пажэцкага і Яскевіча даставілі ў райаддзел унутраных спраў для высвятлення асобы.

Да суда Андрэй Пачобут, Юзэф Пажэцкі і Мечыслаў Яскевіч знаходзіліся ў ізалятары часовага ўтрымання Шчучынскага РАУС. Юзэф Пажэцкі і Мечыслаў Яскевіч былі пакараныя 10 суткамі адміністрацыйнага арышту кожны.

Асуджэнне актывістаў Союзу палякаў адбылося ў дзень паседжання Галоўнага савета СПБ па правядзенні паўторнага з'езду. У ліпені г.г. Андрэй Пачобут прыняў удзел у пікеце пратэсту супраць выдання ў Гродна без ведама рэдакцыі Саюза палякаў "Glos znad Niemna". Суд Ленінскага раёна Гродна аштрафаваў Пачобута на 200 базавых велічыняў.

### Чарговыя мільённыя штрафы гарадзенскім журналістам

**8 ліпеня** ў Ленінскім раённым судзе Гродна завяршыліся судовыя працэсы над журналістамі, якія 6 ліпеня ў цэнтры гораду ладзілі акцыю пратэсту з патрабаваннем вярнуць Саюзу палякаў на Беларусі газету "Glos znad Niemna" і былі затрыманыя міліцыянтамі. У пятніцу суддзя Дзмітры Мацюк у прысутнасці адваката Аляксандра Бірылава разглядаў адміністратыўныя справы Інэсы Тодрык, Анджэя Пісальніка і Івана Романа. Як і ў сераду, у будынак суда не былі дапушчаныя іншыя журналісты. Паводле словаў кіраўніка Гродзенскай філіі ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" Паўла Мажэйкі, гэтым разам суддзя матываваў сваю адмову пусціць прэсу на працэс "немэтазгоднасцю знаходжання журналістаў у часе разгляду спраў", бо гэта "унясе сумбур і зацягне разгляд справы".

У выніку суддзя прыгаварыў Інэсу Тодрык да штрафу ў памеры 20 базавых адзінак (510 тыс. рублёў, альбо 230 долараў ЗША), Анджэй Пісальнік і Іван Роман мусяць сплаціць штраф у памеры 100 базавых адзінак (2 млн. 550 тыс. рублёў, альбо 1200 долараў ЗША) кожны. Нагадаем, што двумя днямі раней Ігар Банцар быў аштрафаваны на 510 тыс. рублёў штрафу, і Андрэй Пачобут - на 5 млн. 125 тыс. рублёў (каля 2400 долараў ЗША). Цяпер Анджэй Пісальнік і Андрэй Пачобут чакаюць яшчэ і рашэння адміністратыўнай камісіі, бо на іх складзены пратакол аб адміністратыўным правапарушэнні "за антысанітарыю" (гэтыя журналісты ў часе акцыі 6 ліпеня паклалі свае рэчы на траву на плошчы Леніна).

Галоўны рэдактар часопіса "Magazyn Polski" Андрэй Пачобут падаў у Гродзенскі абласны суд скаргу на рашэнне суда Ленінскага раёна Гродна абмежаваць яго права на выезд за мяжу. Рашэнне было прынята ў сувязі з тым, што журналіст не выплаціў штрафу за ўдзел у акцыі пратэсту. Журналіст заяўляе, што не меў фізічнай магчымасці выплаціць штрафу, бо ў гэты час адбываў адміністратыўны арышт. Рашэнне абмежаваць выезд А. Пачобута за мяжу ў звязку з "ухіленнем ад выплаты штрафу" прыняў **27 ліпеня** суддзя Дзмітрый Мацеюк, які 6 ліпеня аштрафаваў журналіста на 5 млн.125 тыс. рублёў за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі. Як распавёў БелаПАН А.Почобут, ён выплаціў большую частку штрафу - 3 млн. 700 тыс. рублёў - і быў гатовы сплаціць па частках рэшту, аднак увечары 26 ліпеня ў Шчучыне (Гродзенская вобласць) А.Пачобута затрымалі і асудзілі на 15 сутак адміністратыўнага арышту. Пастанову суддзі Д. Мацеюка аб абмежаванні яго выезду за мяжу А. Пачобут атрымаў пасля выхаду з-пад арышту.

**Галоўнага рэдактара часопіса "Магазын польскі" ("Magazyn polski") Андрэя Пачобута прымусам вадзілі ў пастарунак**

**21 чэрвеня** раніцай у прыватную кватэру вядомага гродзенскага журналіста, рэдактара часопісу Саюзу палякаў Беларусі "Магазын польскі" Андрэя Пачобута прыйшоў нарад міліцыі. Журналіста прымусова даставілі ў міліцэйскі аддзел мікраараёну Дзевятоўка, дзе паведамілі, што "прывод" звязаны з пададзенай супраць яго скаргай Тадэвуша Кручкоўскага (былога кіраўніка Саюзу палякаў).

Супрацоўніца Дзевятоўскага аддзелу міліцыі Наталля Гайдаш заявіла, што Т. Кручкоўскі паскардзіўся на публікацыі Андрэя Пачобута, якія лічыць абразлівымі. Паколькі А. Пачобут адмовіўся размаўляць на гэтую тэму, дагэтуль невядома, пра якія канкрэтна публікацыі ідзе гаворка. Не атрымаўшы ніякіх тлумачэнняў, міліцыянты адпусцілі журналіста. Паводле А. Пачобута, 21 чэрвеня яму тэлефанавалі таксама з аддзелу міліцыі Кастрычніцкага раёна Гродна і паведамілі, што супраць яго пададзена яшчэ адна скарга. Журналіст сказаў, што пойдзе ў міліцыю толькі пасля атрымання афіцыйнай позвы.

**Спроба затрымання журналіста ў Светлагорску**

**15 чэрвеня** ў Светлагорску міліцыя спрабавала затрымаць журналіста Радыё “Свабода” Анатоля Гатоўчыца, які прыехаў для асвятлення працы раённага сходу па абранні дэлегатаў на нацыянальны Кангрэс дэмакратычных сіл. У двары дома старшыні абласной арганізацыі БНФ Віктара Раманішкі да яго падбег чалавек у цывільным (паводле пасведчання - маёр міліцыі Аляксандр Зазетка) і запатрабаваў, каб журналіст пайшоў з ім у райаддзел міліцыі. Ён сказаў, што міліцыянты атрымалі загад затрымліваць і прыводзіць у міліцыю ўсіх, хто выходзіць з пад’езду сп-ра Раманішкі. Калі журналіст адмовіўся падпарадкоўвацца, маёр выклікаў на дапамогу трох маладых людзей у цывільным. Анатоль Гатоўчыц звязаўся па мабільнай сувязі з намеснікам начальніка абласной міліцыі грамадскай бяспекі палкоўнікам Аляксандрам Гарковым і папрасіў патлумачыць, на якой падставе перашкаджаюць працаваць журналістам. Толькі пасля гэтага маёр Зазетка папрасіў прабачэння і адмовіўся ад сваіх намераў затрымаць карэспандэнта.

**Р. Улану з цяжкасцю ўдалося даказаць, што на яго распаўсюджваецца дзеянне закона «Аб амністыі»**

Заснавальнік «Новой газеты Сморгони» Рамуальд Улан не выключае, што

Смаргонскі раённы Савет дэпутатаў можа пазбавіць яго права весці дэпутацкую дзейнасць у сувязі з судзімасцю. З 11 па 13 траўня ён знаходзіўся ў следчым ізалятары Смаргоні, паколькі яго падазравалі ў спробе ўхіліцца ад пакарання.

27 студзеня 2005 г. суд Гродзенскай вобласці пацвердзіў рашэнне раённага суда Смаргоні аб прызнанні Рамуальда Улана вінаватым у ДТЗ, якое здарылася ў 2003 годзе (наезд на веласіпедыста) і вызначыў для яго пакаранне - 1 год пазбаўлення волі. (Першапачаткова суд Смаргонскага р-на вынес рашэнне аб прымяненні пакарання ў выглядзе трох гадоў пазбаўлення волі, нягледзячы на заключэнне экспертаў аб адсутнасці парушэнняў правілаў дарожнага руху з боку кіроўцы). Выкананне прысуду было адкладзена на паўтара месяцы, паколькі Р. Улан падаў у Вярхоўны суд скаргу на рашэнне Смаргонскага суда. У красавіку 2005 года Вярхоўны суд пакінуў прысуд без зменаў.

У канцы красавіка г.г. Р. Улан трапіў у шпіталь. 6 траўня 2005 г. уступіў у сілу Закон «Аб амністыі ў сувязі з 60-годдзем перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941-1945 гадоў», згодна з якім тэрміны пакарання для асобаў, якія здзейснілі злачынствы па неасцярожнасці, скарачаюцца на 1 год. 10 траўня Р. Улан вярнуўся ў Смаргонь. 11 траўня каля 16.00 ён быў затрыманы і дастаўлены ў Смаргонскі РАУС. Напрацягу некалькіх гадзінаў яму не паведамілі прычыны затрымання, а вечарам прад'явілі пастанову аб змяшчэнні ў СІЗА на 15 сутак для далейшага этапавання ў калонію. (Пастанову падпісаў начальнік аддзелу выканання пакаранняў маёр Шыбаршын). Нягледзячы на прад'яўленыя арыгіналы камандыровачнага пасведчання і бальнічнага ліста, па меркаванні супрацоўнікаў міліцыі, Р. Улан ухіляўся ад адбывання пакарання. Двое сутак ён правёў у следчым ізалятары Смаргоні. Дзякуючы намаганням адваката **13 траўня 2005** г. Р.Улана вызвалілі са следчага ізалятара. Праз два дні работнікі пракуратуры прызналі, што падставаў для ўтрымання яго пад вартай не было.

### Гарадзенская журналістка дала тлумачэнні ў пракуратуры

Гарадзенская журналістка Ірына Чарняўка была выклікана **26 красавіка** ў Пракуратуру Гродзенскай вобласці. Падставай для выкліку журналісткі стала скарга ў абласную пракуратуру намесніка міністра па падатках і зборах Васіля Каменкі. У скарзе ён заявіў, што Ірына Чарняўка ў сваім артыкуле "Проверки в налоговой" ("Народная Воля", 5 красавіка 2005 года) раскрыла таямніцу папярэдняга следства. Згаданы артыкул тычыўся крымінальнай справы, па якой начальніцы падатковай інспекцыі па Ваўкавыскім раёне Тамары Стасевіч і яе былой намесніцы Ганне Місько прад'яўлены абвінавачанні ў здзяйсненні шэрагу крымінальных злачынстваў. Васіль Каменка просіць пракуратуру даць адказ, ці мела Ірына Чарняўка дазвол следчых органаў на гэтую публікацыю.

Ірына Чарняўка дала старшаму памочніку пракурора Гродзенскай вобласці Вячаславу Ігнаціку пісьмовыя тлумачэнні, дзе падкрэсліла, што падчас падрыхтоўкі да напісання артыкула яна карысталася толькі адкрытымі крыніцамі і абсалютна не мела доступу да матэрыялаў следства.

### С.Няроўнага выклікалі ў пракуратуру

Рэдактар крычаўскай недзяржаўнай газеты "Вольны горад" Сяргей Няроўны быў выкліканы ў раённую пракуратуру, дзе ў яго ўзялі тлумачэнні наконт друкаванай прадукцыі: улёткі з ягоным партрэтам, заклікам паехаць у Мінск і падтрымаць **25 сакавіка** акцыю А.Клімава. С.Няроўны патлумачыў, што ўпершыню бачыць гэтую ўлётку і не мае да яе ніякага дачынення, але матэрыялы пра А.Клімава яго выданне друкавала. З'яўленне ўлёткі ён назваў "правакацыяй". Рэдактар незалежнага

выдання заклікаў крычаўскую пракуратуру разабрацца ў складзенай сітуацыі.

**Тры польскія журналісты затрыманыя падчас асвятлення выбараў**

**20 сакавіка** падчас асвятлення выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па Гродзенскай-Цэнтральнай выбарчай акрузе былі затрыманыя тры польскія журналісты. Фотакарэспандэнт польскага выдання Newsweek Адам Тухлінскі разам з двума таварышамі быў затрыманы на адным з выбарчых участкаў, дзе ён быў акрэдытаваны для асвятлення выбараў. Два іншыя затрыманыя журналісты – Міхал Кацэвіч (“Newsweek”) ды Марцін Смялоўскі (тэлеканал «Polsat»).

Журналістаў даставілі ў Кастрычніцкае РУУС г.Гродна і абвінавацілі ў тым, што на іх акрэдытацыйных пасведчаннях сцерлася пячатка. Журналістаў пратрымалі да 23-ай гадзіны – за гэты час былі сцертыя відэазапісы, зробленыя М.Смялоўскім за час сваёй камандзіроўкі на Беларусь.

**Рэдактара “Вольнага горада” папярэдзіў пракурор**

**Напачатку сакавіка** рэдактар незарэгістраванай мясцовай газеты “Вольны горад” Сяргей Няроўны быў выкліканы ў Крычаўскую міжрайпракуратуру, дзе з вуснаў пракурора М.Розанцава атрымаў папярэджанне ”за змяшчэнне ў газеце артыкулаў, якія ўтрымліваюць заклікі да зввяржэння існуючага ладу, абразы прэзідэнта і мясцовай улады”.

Па словах міжрайпракурора Мікалая Розанцава, папярэджанне вынесена на падставе звароту ў пракуратуру старшыні Крычаўскага райвыканкама Івана Пракопава. Пры гэтым пракурор не азнаёміў С.Няроўнага з канкрэтнымі “заклікамі і абразамі”, таксама як і не назваў канкрэтных публікацый, у якіх яны мелі месца.

Сяргей Няроўны разам з калегамі расцэньвае папярэджванне не толькі як працяг пастаяннага ціску на газету з боку крычаўскай улады, але і як чарговую спробу запалохвання непасрэдна вольнага журналіста і актыўнага палітыка Сяргея Няроўнага напярэдадні давыбараў у абласны Савет дэпутатаў, якія адбудуцца 20 сакавіка. С.Няроўны з’яўляецца кандыдатам у дэпутаты.

**Супрацоўніца прэс-службы АГП правяла каля 40 хвілін у аддзяленні міліцыі**

Увечары **1 сакавіка** ў Мінску была затрымана супрацоўніца прэс-службы Аб'яднанай грамадзянскай партыі Кацярына Ткачэнка. Гэта адбылося пасля мітынгу індывідуальных прадпрымальнікаў, што праходзіў у гэты дзень на Кастрычніцкай плошчы сталіцы.

Затрыманне К. Ткачэнкі і актывісткі АГП Марыны Багдановіч адбылося ў падземным пераходзе каля Камароўскага рынку. Да жанчын падышлі людзі ў цывільным, папрасілі М. Багдановіч паказаць дакументы і заявілі, што затрымліваюць яе. Кацярыну Ткачэнку не затрымлівалі, але прапанавалі ёй суправадзіць М. Багдановіч у Цэнтральны РУУС. У аддзяленні міліцыі жанчын запрасілі ў розныя кабінеты, заявіўшы, што іх двое, і прапанавалі К. Ткачэнцы таксама даваць пісьмовыя тлумачэнні. Журналістка адмовілася даваць тлумачэнні і прад'явіла пасведчанне прэс-службы АГП, пасля чаго яе адпусцілі.

**Пракуратурай папярэджаны выдавец “Вольнага горада”**

**14 лютага** крычаўская раённая пракуратура аб’явіла папярэджаньне Уладзімеру Кудраўцаву, заснавальніку і рэдактару недзяржаўнай газэты “Вольны горад”. У.Кудраўцаў быў папярэджаны, што асобныя газетныя публікацыі могуць пры пэўных абставінах стаць падставамі

для прыцягнення да крымінальнай адказнасці.

Газета “Вольны горад” – незарэгістраванае выданне, выдаецца накладам 299 асобнікаў. Яно друкуецца ў Смаленскай друкарні і распаўсюджваецца бясплатна ў Крычаўскім раёне.

### С.Няроўнага выклікалі на гутарку ў КДБ

**28 студзеня** рэдактара крычаўскага незарэгістраванага выдання “Вольны горад” Сяргея Няроўнага выклікалі на гутарку ў міжраённую ўправу КДБ. Гаворка вялася пра некаторыя матэрыялы, размешчаныя ў газеце, у прыватнасці, пра канфлікт у Крычаўскай раённай ветэранскай арганізацыі. Па звестках С.Няроўнага, гэты канфлікт мясцовыя ўлады хочуць прыцішыць напярэдадні святкавання 60-ых угодкаў заканчэння Вялікай Айчыннай вайны.

### Журналіст «Пагоні» дапытаны міліцыяй

Журналіст інтэрнэт-газеты “Пагоня” Андрэй Пачобут **4 лютага** быў выкліканы на допыт у Ленінскі РАУС г. Гродна. Падставай для гэтага сталі ягоныя артыкулы пра канфлікт у Саюзе палякаў Беларусі. Следчы Сяргей Савушкін, які праводзіць расследаванне па справе падпалу машыны старшыні СПБ Тадэвуша Кручкоўскага, цікавіўся асабістымі адносінамі паміж журналістам “Пагоні” і старшынём СПБ. Следчы Сяргей Савушкін звярнуў увагу на паказанні Тадэвуша Кручкоўскага, у якіх той абвінаваціў Андрэя Пачобута ў пагрозах. Журналіст пркаментаваў іх як спробу адпомсціць за яго публікацыі пра сексуальны скандал ва універсітэце.

Студэнтка пятага курса Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта напісала заяву на імя рэктара Сяргея Маскевіча, у якой абвінаваціла Тадэвуша Кручкоўскага ў тым, што ён, выкарыстоўваючы службовае становішча, ён схіліў яе да сужыцця. Інтэрнэт-газета “Пагоня” шмат увагі надала гэтаму скандалу, праводзячы сваё ўласнае журналісцкае расследаванне.

### Журналіста "Белорусской газеты" абвінавачваюць у супраціўленні работнікам міліцыі

**25 студзеня** пракуратура Ленінскага раёна г. Мінска выставіла абвінавачанне журналісту недзяржаўнага штотыднёвіка "Белорусская газета" Кірылу Жываловічу па артыкуле 363 ч. 2 Крымінальнага кодэксу ("Супраціўленне работніку міліцыі альбо іншай асобе, якая ахоўвае грамадскі парадак"). Паводле следчага пракуратуры Юрыя Варанко, 10 студзеня каля будынку Галоўпаштамту ў Мінску журналіст "ўчыніў скандал" і "здзейсніў гвалт" у дачыненні да супрацоўнікаў аховы. З журналіста ўзялі падпіску аб нявыездзе. Справу, заведзеную ў дачыненні да К. Жываловіча, перадалі ў суд, які, па словах следчага, адбудзецца цягам месяца з моманту выстаўлення абвінавачання. Артыкул, па якім заведзена справа, можа карацца абмежаваннем волі на тэрмін да 5 гадоў альбо пазбаўленнем волі на той жа тэрмін.

Пацярпелы супрацоўнік аддзелу пазаведамаснай аховы "Белпошты" Юры Назарчук у гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН сцвердзіў, што журналіст, які знаходзіўся ў нецвярозым стане, збіў яго. Сам Жываловіч кажа, што канфлікт узнік у часе падрыхтоўкі ім матэрыялу аб дзейнасці супрацоўнікаў пазаведамаснай аховы. Па яго словах, на спробу журналіста ўзяць у іх інтэрв'ю яны запрасілі яго ў службовае памяшканне, дзе спачатку пагражалі, а потым ужылі ў дачыненні яго фізічную сілу. Паводле спра Жываловіча, медыцынская экспертыза не пацвердзіла ні факт яго алкагольнае ап'яненне, ні факт збіцця супрацоўнікаў аховы.

## Парушэнне прафесійнай самастойнасці рэдакцый. Цэнзура

Пошта патрабуе рэгістрацыйныя дакументы ад рэдакцый бабруйскіх газет
Беларусь павінная мець агрэсіўную інфармацыйную палітыку
Суд прызнаў законным умяшальніцтва Міністэрства інфармацыі ў дызайн газет
У школах з’явяцца прэс-сакратары?
Кабельнаму тэлебачанню трэба супрацоўнічаць з уладамі
А. Лукашэнка будзе змагацца з "антыбеларускімі інфармацыйнымі рэсурсамі"
Візіт амерыканскага дыпламата ў рэдакцыю недзяржаўнай газеты здымала дзяржаўнае тэлебачанне
"Беларускаму часу" дазволілі застацца “беларускім”
Скасаваны раздзел "Палітыка" на форуме віцебскага гарадского партала
ГА "БАЖ" атрымала адказ з пракуратуры на свой зварот па газеце “Glos znad Niemna”
Афіцыйныя СМІ замоўчваюць IV З’езд згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына"
Заява Алеся Анціпенкі
Выйшаў трэці нумар "Glos znad Niemna", выпушчаны без удзелу рэдакцыі і выдаўца
На журфаку разгараецца канфлікт
На Гомельшчыне змагаюцца з "дэструктыўнымі сіламі"
Дзяжурным міліцыянтам у судах нададзена права праглядаць рэчы наведнікаў
У Магілёве скарацілі “Гарадскія навіны”
Недзяржаўныя СМІ больш не маюць права называцца "беларускімі" і "нацыянальнымі"
Міліцыя цікавіцца публікацыямі ў «Народнай волі»
Брэсцкі аблвыканкам будзе супрацоўнічаць з недзяржаўнымі СМІ?
Ідэолагі “выкрываюць ворагаў”
Новая хваля папярэджанняў недзяржаўным газетам
Віншаваць ветэранаў дазволілі не ўсім
Нарады А.Лукашэнкі з цэнтральнымі СМІ будуць штомесяц
Ветэран вайны забараніў выкарыстоўваць сваё інтэрв'ю ў недзяржаўнай газеце
«Витебский курьер» мусіць змагацца з гандлем людзьмі
Бабруйскія ўлады патрабуюць абвяржэння ад рэдакцыі “Бобруйского курьера”
Пра што не пісаць – вызначае ідэалагічны работнік
У Гродне зачынены інтэрнэт-форум
Міністэрства інфармацыі склала спіс музыкаў, рэкамендаваных для радыёэфіру
Новае ўпраўленне Міністэрства інфармацыі будзе кантраляваць працу элетронных СМІ
Пытанне сяброўства журналістаў у ГА “БАЖ” будзе абмеркаванае ідэолагамі
Магілёўскія ідэолагі незадаволеныя працай дзяржаўных СМІ
На Беларусі заблакаваныя расійскія порна-сайты
Прыпыненне СМІ – дзейсная мера
Сталічныя медыі адсочаць на прадмет гвалту і парнаграфіі
Міністэрства інфармацыі накіравала папераджальныя лісты шасці FM-станцыям
Павел Бараноўскі пакінуў радыё “Юністар”
Праграмы тэлеканалу "Euronews" скасаваныя з раскладу вяшчання тэлеканала “Лад” і магілёўскага аператара “Дыён”
Дзяржава займецца прасоўваннем беларускай музыкі
Міністэрства інфармацыі адслухоўвае беларускі FM-эфір

### Пошта патрабуе рэгістрацыйныя дакументы ад рэдакцый бабруйскіх газет

**Напачатку лістапада** аддзел падпіскі Бабруйскага аддзялення аблпошты запатрабаваў ад рэдакцый трох недзяржаўных газет (“Бобруский курьер”, “Коммерческий курьер”, “Вечерний Бобруйск”) копіі рэдакцыйных пасведчанняў і копіі рэгістрацыйных дакументаў заснавальнікаў газетаў, а ад

“Вечернего Бобруйска” дадаткова яшчэ – і ліцэнзію на правядзенне падпіскі непасрэдна ў рэдакцыі. Рэч у тым, што “Вечерний Бобруйск” ужо некалькі год праводзіць уласную падпіску на льготных умовах для пэўных катэгорый людзей (інвалідаў, ветэранаў), якія ў якасці ільготных прызнаюцца і самой дзяржавай. Аднак афіцыйнага дазволу на гэта, якім раней ніхто не цікавіўся, рэдакцыя не мае. Гэта ставіць яе цяпер, напярэдадні ўключэння ў падпісны каталог, у цяжкае становішча перад манапалістам у гэтай галіне – дзяржаўнай поштай. Усе рэдактары бабруйскіх газет выказваюць здзіўленне запытамі аблпошты наконт рэгістрацыйных дакументаў.

**Беларусь павінная мець агрэсіўную інфармацыйную палітыку**

**25-26 кастрычніка** ў Магілёве прайшоў першы семінар для прэсс-сакратароў па пытаннях арганізацыі інфармацыйнай і прапагандысцкай працы за мяжой. Яго праводзіла Міністэрства замежных справаў Беларусі сумесна з Магілёўскім аблвыканкамам у межах Дзяржаўнай праграмы інфармацыйнага забеспячэння знешнепалітычнай і знешнеэканамічнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь. Мэтай семінару было павышэнне выніковасці інфармацыйнай і прапагандысцкай працы і ўзаемадзеяння органаў дзяржаўнага кіравання, прадпрыемстваў-экспарцёраў з замежнымі партнёрамі, беларускімі замежнымі ўстановамі, друкаванымі і элекроннымі медыямі.

На семінары адзначалася, што Беларусь павінна мець наступальную і агрэсіўную інфармацыйную палітыку. “Трэба, каб усе рэспубліканскія структуры ў гэтай важнай прапагандысцкай і інфармацыйнай працы за мяжой працавалі разам, праз агульны каардынуючы цэнтар – МЗС”, – заявіў у Магілёве намеснік міністра замежных спраў Аляксандар Герасіменка.

**Суд прызнаў законным умяшальніцтва Міністэрства інфармацыі ў дызайн газет**

**26 кастрычніка** Вышэйшы гаспадарчы суд пакінуў у сіле папярэджанне Міністэрства інфармацыі рэдакцыі газеты "Белорусы и рынок" у частцы, якая тычылася назвы выдання. Папярэджанне рэдакцыі газеты "Белорусы и рынок" (ЗАТ "Медиарынок") было вынесена Міністэрствам інфармацыі 12 верасня г.г. Падставай для яго вынясення Мінінфармацыі палічыла змяненне назвы газеты "Белорусы и рынок" на "БР. Белорусы и рынок" без праходжання перарэгістрацыі, а таксама неналежнае афармленне выпускных і падзагаловачных дадзеных.

Суддзя Кацярына Караткевіч адмяніла толькі другую частку папярэджання, датычную парушэння газетай ГОСТ 7.4-95. Такім чынам, выданне пакуль не зможа выкарыстоўваць абрэвіятуру "БР", па якой чытач пазнае газету напрацягу ўжо двух гадоў. Рашэнне ўступіла ў законную сілу з моманту яго абвяшчэння ў судзе і можа быць абскарджана ў Касацыйную калегію Вышэйшага гаспадарчага суда на працягу месяца.

**У школах з’явяцца прэс-сакратары?**

Установы адукацыі Пінска **ў кастрычніку** атрымалі распараджэнне Брэсцкага аблвыканкама “Пра асобаў, адказных за ўзаемадзеянне са СМІ”. Дакумент прадпісвае кіраўніку ўстановы ўскласці на аднаго з працаўнікоў функцыі прэс-сакратара альбо стварыць прэс-службу з мэтаю ўкаранення прапаганды дзяржаўнай палітыкі ў галіне адукацыі. Аб праводзімых мерапрыемствах указаныя асобы павінныя інфармаваць друкаваныя і электронныя медыі, а таксама паведамляць у аблвыканкам аб праведзенай рабоце да 28 чысла кожнага месяца. Асобы, на якіх будуць ускладзеныя функцыі прэс-сакратара, павінныя будуць прайсці навучанне на адмысловай нарадзе ў аблвыканкаму.

Таксама кіраўнікам установаў адукацыі прадпісана разгледзець пытанне пра выданне ўласнай газеты, з перыядычнасцю не меншай за адзін нумар у квартал і накладам 50 асобнікаў.

**Кабельнаму тэлебачанню давядзецца супрацоўнічаць з ўладамі?**

Слабое ўзаемадзеянне з мясцовымі ўладамі назваў адным характэрных недахопаў у дзейнасці апэратараў кабельных сетак тэлебачання начальнік упраўлення ідэалагічнай працы Гомельскага аблвыканкама Анатоль Каціла, - паведаміла "Гомельская праўда" ў №№ 159-160 за **13 кастрычніка** 2005 года. Такая выснова была зробленая на семінары-нарадзе ў Мазыры з удзелам супраціўнікаў Міністэрства інфармацыі і Беларускай тэлевізійнай асацыяцыі, кіраўнікоў ідэалагічных службаў абл- і гарвыканкамаў, дырэктараў кабельных сетак з многіх гарадоў. У сваю чаргу, апэратары скардзіліся на недасканаласць заканадаўства, якое рэгламентуе сферу іх дзейнасці. Яна выказалі надзею, што сітуацыю дапаможа выправіць новы Закон аб сродках масавай інфармацыі, - паведаміла газета.

**А. Лукашэнка будзе змагацца з "антыбеларускімі інфармацыйнымі рэсурсамі"**

Аляксандр Лукашэнка лічыць неабходным абараняць беларускае грамадства ад замежнай інфармацыйнай экспансіі і "ўнясення нестабільнасці антыбеларускімі інфармацыйнымі рэсурсамі". Пра гэта ён заявіў **30 верасня**, выступаючы на паседжанні Савету Бяспекі.

А. Лукашэнка заявіў, што "ў апошняе дзесяцігоддзе ўсе ваенныя канфлікты, развязаныя ў свеце ЗША і іх сатэлітамі, пачыналіся менавіта з інфармацыйных атак, з масіраваных прапагандысцкіх кампаній супраць той ці іншай краіны, вызначанай для ваеннага ўдару", - перадае БелТА. Па словах кіраўніка дзяржавы, "вядучая заходняя дзяржава актыўна выкарыстоўвае інфармацыйную інфраструктуру і рэсурсы як інструменты аднабаковага прасоўвання сваіх геапалітычных інтарэсаў". "Яны спрабуюць з дапамогай СМІ і Інтэрнэту маніпуляваць масавай свядомасцю, дыскрэдытаваць нязручныя ім краіны і іх кіраўніцтва, штучна ствараць у іх перадумовы да абвастрэння сацыяльнай напружанасці, у тым ліку з мэтаю змены ўлады".

Па словах А. Лукашэнкі, памежныя з Беларуссю Польшча і краіны Балтыі "даўно ператварыліся ў плацдарм, дзе разгорнутыя не толькі НАТАўскія сродкі радыёэлектроннай барацьбы і выведкі". "Ужо заяўленая і разрэкламаваная праграма шырокамаштабнага вяшчання СМІ на Беларусь", - заявіў ён. "Захад і падкантрольная яму так званая беларуская апазіцыя не шкадуюць намаганняў для пошуку новых спосабаў фармавання негатыўнага грамадскага меркавання і распаўсюджання пра нашу краіну дэструктыўных звестак".

**Візіт амерыканскага дыпламата ў рэдакцыю недзяржаўнай газеты здымала дзяржаўнае тэлебачанне**

**23 верасня** здымачная група тэлерадыёкампаніі "Брэст" вяла здымкі ўсіх прысутных на сустрэчы, якую ў рэдакцыі недзяржаўнай газеты "Брестский курьер" праводзіў з рэгіянальнымі журналістамі кіраўнік палітычнага і эканамічнага аддзелу амбасады ЗША ў Беларусі Дэрэк Хоган падчас візіту ў Брэст. Тэлежурналісты не здолелі патлумачыць мэты свайго візіту, і да ўдзельнікаў сустрэчы ў іх пытанняў не было.

Рэдактар газеты "Брестский курьер" Мікалай Аляксандраў не выключае, што зроблены відэазапіс можа быць выкарыстаны ў прапагандысцкіх перадачах дзяржаўнага тэлебачання.

**"Беларускаму часу" дазволілі застацца "беларускім"**

Газета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі "Беларускі час" атрымала права на выкарыстанне ў сваёй назве слова "беларускі". Магчымасць выкарыстання азначэння "беларускі" выданне ФПБ і ўстанова "Рэдакцыя газеты "Беларускі час" набыла паводле ўказу А.Лукашэнкі №425 ад **8 верасня** 2005 г.

Права пакінуць у сваіх назвах азначэнні "беларускі" і "нацыянальны" таксама дадзенае часопісам "Вестник Ассоциации белорусских банков", "Вестник Ассоциации белорусских банков. Банковское дело", а таксама шэрагу камерцыйных і некамерцыйных установаў і арганізацый (усяго 11 юрыдычным асобам).

Нагадаем, што адпаведна з указам А.Лукашэнкі "Аб дадатковых захадах па ўпарадкаванні выкарыстання словаў "нацыянальны" і "беларускі", азначэнні "беларускі" і "нацыянальны" могуць выкарыстоўваць у сваіх назвах толькі дзяржаўныя ўстановы і сродкі масавай інфармацыі. Шэраг недзяржаных выданняў былі вымушаныя змяніць свае назвы і прайсці перарэгістрацыю, сярод іх "Белорусская деловая газета" (цяпер яна выдаецца пад імем "БДГ. Деловая газета", "Белорусы и рынок" (ранейшая назва "Белорусский рынок"), "Экономическая газета" ("Национальная экономическая газета").

**Скасаваны раздзел "Палітыка" на форуме віцебскага гарадского партала**

**24 жніўня** ўсе тэмы ў раздзеле "Палітыка" на форуме Віцебскага гарадскога партала http://forum.vitebsk.by былі знішчаныя. Гэты раздзел праіснаваў каля года. Найбольш актыўна наведнікі раздзелу абмяркоўвалі тэмы будучага кандыдыта ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах і магчымасць дэфолту на Беларусі. Сярод іншых прычынаў знікнення тэм форуму найбольш верагоднай разглядаецца хакерская атака.

**ГА "БАЖ" атрымала адказ з пракуратуры на свой зварот па газеце "Glos znad Niemna"**

**4 жніўня** ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" атрымала адказ на зварот ад 23 чэрвеня дачынна фактаў выдання гродзенскай газеты "Glos znad Niemna" без ведама заснавальніка і рэдакцыі ў чэрвені гэтага году. ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" (БАЖ) звярнулася да шэрагу дзяржаўных ўстановаў з просьбай прыняць захады для спынення супрацьпраўных дзеянняў, звязаных з нелегальным выпускам і распаўсюдам газеты "Glos znad Niemna", і прыцягнуць вінаватых да адказнасці.

Нагодай для звароту стала з'яўленне 10 і 17 чэрвеня двух запар нумароў газеты "Glos znad Niemna", друкаванне і распаўсюд якіх ажыццяўляліся без дазволу галоўнага рэдактара і без ведама заснавальніка - ГА "Саюз палякаў на Беларусі". У адказе з Пракуратуры Рэспублікі Беларусь за подпісам начальніка аддзела Г. Шостак, у прыватнасці, гаворыцца: "Прокуратурой Республики Беларусь рассмотрено обращение Белорусской ассоциации журналистов по вопросу издания газеты "Glos znad Niemna".

Установлено, что газета '"Glos znad Niemna" учреждена Союзом поляков на Беларуси.

Министерством юстиции Республики Беларусь признан нелегитимным 6 съезд Союза поляков на Беларуси, а принятые на нем решения - неправомочными.

Нелигитимным руководством Союза поляков на Беларуси был уволен с занимаемой должности главный редактор газеты "Glos znad Niemna"

Дубиковский А.Р. В соответствии с решением суда Ленинского района г. Гродно от 06.05.2005 он восстановлен в занимаемой должности. Данное обстоятельство доведено до сведения руководства УП "Гродненская типография", с которым общественным объединением "Союз поляков на Беларуси" заключен 22.12.2004 договор на изготовление полиграфической продукции.

Министерством информации Республики Беларусь дана правовая оценка обстоятельств, связанных с выпуском и распространением №№ 19 и 20 газеты “Glos znad Niemna” 10 и 17.06.2005, согласно которому газета издается на законных основаниях”.

**Афіцыйныя СМІ замоўчваюць IV З’езд згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына"**

Афіцыйныя беларускія ўлады не рэагуюць на маючы адбыцца Чацверты З’езд Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, які адбудзецца ў Мінску **16-17 ліпеня**. Напярэдадні арганізатары правялі прэс-канферэнцыю, па выніках якой у афіцыйных сродках масавай інфармацыі не з’явілася ніводнай публікацыі. Паводле арганізатараў форуму, на запрашэнне ўзяць у ім удзел не адгукнулася ніводная дзяржаўная структура, апроч Мінскага гарадского выканаўчага камітэта.

**Заява Алеся Анціпенкі**

**1 ліпеня** газета "Glos znad Niemna" перадрукавала мой артыкул "Звычайны беларус", які ўпершыню з'явіўся ў 1995 г. у кнізе "Стэрэатыпы і нацыі", выдадзенай па-ангельску і па-польску. Гэта абуральны факт, бо ніхто з рэдкалегіі газеты не звяртаўся да мяне па дазвол на перадрук. А таму з'яўленне артыкула без майго дазволу выглядае на парушэнне маіх аўтарскіх правоў. Гэта тым больш прыкры для мяне факт, бо на сёння газета набыла скандальную вядомасць. У выданнях з падобнай рэпутацыяй я ніколі не друкую сваіх артыкулаў і ніколі не пагадзіўся б надрукаваць, калі б да мяне звярнуліся па дазвол. У гэтай справе я пакідаю за сабой права звароту ў суд.

**Выйшаў трэці нумар "Glos znad Niemna", выпушчаны без удзелу рэдакцыі і выдаўца**

**23 чэрвеня** Гродзенская друкарня выпусціла трэці па ліку нумар газеты "Glos znad Niemna", да якога не мелі дачынення ні выдавец, ні рэдакцыя. Па інфармацыі в.а. галоўнага рэдактара газеты Анджэя Пісальніка, дырэктар друкарні Пётр Мітрафанаў выпусціў газету на патрабаванне былога кіраўніка Саюзу палякаў Тадэвуша Кручкоўскага. "Не выклікае сумневаў, што газета зноў была надрукавана без неабходнай суправаджальнай дакументацыі", - зазначыў А. Пісальнік у гутарцы з прэс-службай ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў".

У той жа дзень БАЖ звярнуўся да шэрагу дзяржаўных устаноў з просьбай разабрацца ў сітуацыі, што склалася вакол газеты. Тэкст звароту можна знайсці на сайце БАЖ: **http://www.baj.ru/2005/Jun/2406nav3add.asp** (Зварот накіраваны міністру інфармацыі Уладзіміру Русакевічу,

міністру сувязі Уладзіміру Ганчарэнку, старшыню Камітэта дзяржаўнага кантролю Анатолю Тозіку, Генеральнаму пракурору Пятру Міклашэвічу, а таксама пракурору Гродзенскай вобласці, дырэктару Гродзенскага філіяла РУП "Белпошта" і дырэктару Гродзенскай друкарні).

**17 чэрвеня** ў Гродна быў надрукаваны другі па ліку нумар газеты Саюзу палякаў на Беларусі (СПБ) “Glos znad Niemna”, да з’яўлення якога не мелі дачынення ані рэдакцыя, ані арганізацыя. Па інфармацыі рэдакцыі, выданне было падпісана ў друк невядома кім і не мела неабходных суправаджальных дакументаў. Тым не менш, як паведаміў ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” выканаўца абавязкаў галоўнага рэдактара выдання Анджэй Пісальнік, з “нелегальным” выданнем супрацоўнічае не толькі Гродзенская друкарня, але і “Белпошта”.

**17 чэрвеня** А. Пісальнік і намеснік старшыні Саюзу палякаў Юзэф Пажэцкі даслалі заяву начальніку РУУС Кастрычніцкага раёна Гродна (менавіта там месціцца друкарня) з просьбай спыніць “супрацьпраўныя дзеянні невядомых асобаў”. “У нас ёсць усе падставы меркаваць, што гэтая газета не суправаджаецца таварнымі накладнымі, не мае правільна афармленых... выходных дадзеных і падпісана ў друк нявысветленай асобай”, - гаворыцца ў дакуменце. Заяўнікі падазраюць таксама, што наклад мог быць надрукаваны на паперы, што належыць арганізацыі і была перададзена друкарні на захоўванне.

Пасля з‘яўлення **10 чэрвеня** першага “нелегальнага” нумару выдання кіраўніцтва СПБ звярнулася да дырэктара Гродзенскай друкарні Пятра Мітрафанава, папярэдзіўшы яго аб “правакацыйнасці” дзеянняў падведамаснага яму прадпрыемства. Акрамя гэтага, кіраўніцтва СПБ звярнулася ў рэспубліканскую і абласную пракуратуру, Камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцяў, а таксама да міністра інфармацыі Уладзіміра Русакевіча з просьбай “садзейнічаць у высвятленні абставін, пры якіх была здзейснена правакацыя”. Тым не менш, з’яўленне праз тыдзень новага нелегальнага нумару газеты сведчыць, што згаданыя органы не рабілі спробаў належным чынам разабрацца ў гэтым правапарушэнні, - лічыць А. Пісальнік.

**На журфаку разгараецца канфлікт**

Студэнтаў, якія паставілі свае подпісы пад заявай пратэсту супраць выключэння журналісткі "Народнай волі" Вольгі Класкоўскай з факультэта, **3 чэрвеня** выклікаў да сябе дэкан Сяргей Дубовік. **1 чэрвеня** кіраўнікі журфаку выклікалі ініцыятарку збору подпісаў Алёну Андрэеву на размову і заявілі, што яна распаўсюдзіла паклёпніцкія звесткі пра універсітэт, "а за хлусню мы выключаем". 2 чэрвеня дэкан не прыняў у яе заліку па сваім прадмеце "Сацыяльна-палітычная праблематыка СМІ", сказаўшы, што яна "маральна не гатовая" здаваць гэтую дысцыпліну.

Канфлікт разгарэўся пасля таго, як **31 траўня** А. Андрэева перадала дэкану заяву з подпісамі групы студэнтаў факультэта, якія выказалі пратэст з нагоды адлічэння на пачатку траўня сваёй калегі В. Класкоўскай з фармулёўкай "за акадэмічную непаспяховасць". "Мы маем цвёрдае перакананне, што гэтая "акадэмічная непаспяховасць" была створаная штучна і палітычна матываваная", - гаварылася ў заяве студэнтаў. Сапраўднымі прычынамі адлічэння яны лічаць працу Вольгі Класкоўскай у газеце "Народная Воля" і яе актыўную грамадзянскую пазіцыю. Студэнты запатрабавалі, каб Вольгу Класкоўскую аднавілі на факультэце і каб была спыненая практыка адлічэння і пераследу студэнтаў за іх грамадскую актыўнасць і прафесійную дзейнасць.

Яшчэ двое студэнтаў трэцяга курса завочнага аддзялення факультэта журналістыкі БДУ накіравалі міністру адукацыі і рэктару універсітэта скаргу на

дзеянні свайго выкладчыка. Студэнты лічаць, што выкладчык па прадмеце "Гісторыя беларускай журналістыкі першай паловы XX стагоддзя" Алег Слука паставіў ім 2 балы на экзамене 10 чэрвеня з-за прадузятага стаўлення да іх. Абодва - Валеры Руселік і Ганна Кавалёва - звязваюць гэта з тым, што яны паставілі подпісы пад заявай у абарону сваёй былой аднакурсніцы Вольгі Класкоўскай. У скарзе, якую студэнты напісалі **17 чэрвеня**, гаворыцца, што на экзамене А. Слука ў парушэнне прынятай практыкі запатрабаваў, каб студэнты пазначылі на пісьмовай працы не толькі нумар залікоўкі, але і прозвішча. Пры абвяшчэнні адзнак ён заявіў, што паставіў згаданым студэнтам двойкі за "непрыгожы почырк" і "нелітаратурныя словы". "Нелітаратурнымі" А. Слука палічыў словы "жаўнер", "габрэйскі", "таварышы" і некаторыя іншыя.

Студэнты ўдакладнілі гэтае пытанне і высветлілі, што ўсе гэтыя словы ўжываюцца ва ўнармаванай беларускай літаратурнай мове. "Такім чынам, мы лічым, што дзеянні выкладчыка былі праявай перадузятых адносінаў да нас як да асобаў, што падпісаліся пад заявай у абарону былой студэнткі Вольгі Класкоўскай", - гаворыцца ў скарзе.

Валеры Руселік і Ганна Кавалёва просяць склікаць экспертную камісію для аб'ектыўнай ацэнкі іх пісьмовых прац, а таксама зрабіць захады па аднаўленні іх правоў і "прадухіленні ў будучымі незаконных і дыскрымінацыйных дзеянняў у дачыненні да студэнтаў, якія праяўляюць сваю грамадзянскую пазіцыю і выказваюць уласныя меркаванні".

### На Гомельшчыне змагаюцца з "дэструктыўнымі сіламі"

"Актывізацыя дэструктыўных сіл" - так **9 чэрвеня** ў выпуску навінаў Гомельскага абласнога тэлебачання была акрэслена тэма сустрэчы рэдактараў раённых дзяржаўных газет, супрацоўнікаў абласнога радыё і тэлебачання, якая адбылася ў рэдакцыі газеты "Гомельская праўда". У часе сустрэчы начальнік упраўлення ідэалагічнай працы аблвыканкама Анатоль Каціла сказаў: "Маладая частка насельніцтва найбольш дынамічная, якая імкнецца да перамен. Але якраз гэта імкнуцца скарыстаць дэструктыўныя сілы..." Генеральны дырэктар БЕЛТА Дзмітрый Жук зазначыў: "Трэба падрыхтаваць маладую частку грамадства да таго, што такія дэструктыўныя праявы магчымыя". Пры гэтым ён падкрэсліваў, што "трэба шукаць новыя формы падачы матэрыялаў, адыходзіць ад надакучлівых стэрэатыпаў", таму што "апытанне паказвае, што не больш за 15 % насельніцтва рэгіёна давярае інфармацыі мясцовых СМІ". У тым жа выпуску навінаў быў сюжэт пра візіт у вобласць дэлегацыі дэпутатаў Нацыянальнага Сходу, у часе якога старшыня абласнога Савета дэпутатаў Валерый Сяліцкі сказаў: "Выказванне розных пунктаў гледжання - гэта нармальна. Але дэструктыўныя сілы, якія больш праяўляюць сябе ў апошні час, перашкаджаюць працаваць".

### Дзяжурным міліцыянтам у судах нададзена права праглядаць рэчы наведнікаў

**3 чэрвеня** на ўваходзе ў суд Цэнтральнага раёна г. Гомеля журналіста Радыё "Свабода" Анатоля Гатоўчыца спыніў міліцыянт, які назваўся Сяргеем Кавалёвым. Запісаўшы імя і прозвішча карэспандэнта ў кнігу на сваім стале, міліцыянт падрабязна праверыў змест сумкі журналіста. На пытанне журналіста, на падставе чаго вядзецца дагляд, міліцыянт прад'явіў А. Гатоўчыцу інструкцыю, паводле якой дзяжурны мае права даглядаць рэчы наведнікаў. Інструкцыя падпісана старшынямі судоў Цэнтральнага і Чыгуначнага

судоў Гомеля, якія месяцца ў адным будынку.

**У Магілёве скарацілі “Гарадскія навіны”**

З **1 чэрвеня** Магілёўская недзяржаўная тэлестудыя “Другі канал” скараціла колькасць выхадаў у эфір папулярнай праграмы “Гарадскія навіны”. З 31 траўня магілёўцы не змаглі ўбачыць ранішніх выпускаў праграмы, а з 1 чэрвеня штодзённыя дагэтуль вечаровыя выпускі пачалі выходзіць тройчы на тыдзень.

Уладальнік студыі “Другі канал” Аляксандр Астапаў тлумачыць гэта адсутнасцю сродкаў на падрыхтоўку праграмы. Аднак журналісты, якія рыхтуюць праграму, з гэтым не пагаджаюцца: за навіны студыі са свайго пазабюджэтнага фонду даплочваў гарвыканкам і, па іх звестках, ад сваіх абавязацельстваў не адмаўляўся.
Навіны недзяржаўнага каналу пасьпяхова канкуравалі з афіцыйнымі навінамі тэлеканалу “Магілёў-1”, БТ і СТВ. “Другі канал” падаваў такія навіны грамадскага і палітычнага жыцця вобласці, якія часам заставаліся па-за ўвагаю дзяржаўных крыніц інфармацыі. У выпусках можна было пабачыць і пачуць некаторых дэмакратычных актывістаў мясцовага палітычнага жыцця і грамадскага жыцця. Акрамя гэтага, выпускі “Гарадскіх навінаў” выходзілі на беларускай мове.

**Недзяржаўныя СМІ больш не маюць права называцца "беларускімі" і "нацыянальнымі"**

Недзяржаўным сродкам масавай інфармацыі больш не дазваляецца мець назвы, у якіх прысутнічаюць словы "нацыянальны" і "беларускі". Пра гэта гаворыцца ва ўказе №247, які А. Лукашэнка падпісаў **31 траўня.** СМІ, назвы якіх не адпавядаюць патрабаванням указу, павінныя быць перарэгістраваныя ў трохмесячны тэрмін. Паводле ўказу, дзейнасць СМІ, якія не прайшлі перарэгістрацыю, лічыцца незаконнай. Дакумент уступіць у сілу з моманту яго афіцыйнага апублікавання.

Сродкі масавай інфармацыі, заснавальнікамі якіх выступаюць дзяржаўныя органы, валодаюць правам на выкарыстанне ў сваіх назвах (рэквізітах дакументаў альбо рэкламных матэрыялах) словаў "нацыянальны" і "беларускі".
Ва ўказе таксама гаворыцца, што палітычныя партыі, рэспубліканскія грамадскія аб'яднанні, рэспубліканскія прафесійныя саюзы і банкі могуць выкарыстоўваць слова "беларускі". "Іншыя юрыдычныя асобы змогуць выкарыстоўваць у сваіх назвах і рэкламных матэрыялах словы "нацыянальны" і "беларускі" толькі ў выпадках, прадугледжаных заканадаўчымі актамі", - перадае БелТА.

**Міліцыя цікавіцца публікацыямі ў «Народнай волі»**

**27 траўня** ў рэдакцыю газеты «Народная воля» прыходзіў старшы інспектар аддзелу масавых мерапрыемстваў ГУУС Мінгарвыканкама Сяргей Севец, каб правесці размову з журналістамі гэтага выдання Марынай Коктыш і Віталем Гарбузавым. Інспектар высвятляў падрабязнасці з'яўлення ў нумары газеты за 19-га студзеня г.г. артыкулаў пра рух «Абаронцы айчыны».

Гаворка ідзе пра публікацыю “Прэтэндэнты на сілавое поле”, падрыхтаваную В. Гарбузавым пасля прэзентацыі руху “Абаронцы айчыны”, і інтэрв'ю, якое ўзяла ў лідэра ініцыятывы Алега Волчака Марына Коктыш. Спачатку інспектар спрабаваў выклікаць журналістаў для размовы ў ГУУС, але пасля таго, як яны адмовіліся ісці без афіцыйнай павесткі, наведаў рэдакцыю сам.

Як паведаміла прэс-службе БАЖ Марына Коктыш, С. Севец цікавіўся падрабязнасцямі прэзентацыі руху «Абаронцы айчыны»; пытаўся, хто абвесціў А. Волчака лідэрам ініцыятывы;

высвятляў, адкуль з'явілася інфармацыя, што да руху далучыліся былыя супрацоўнікі пракуратуры і КДБ і г.д. У размове інспектар зазначыў, што рух «Абаронцы айчыны» - незарэгістраваны, і таму газета нібыта не мае права пісаць пра яго. Аднак сказаць дакладна, якім заканадаўчым актам прадпісваецца рэгістраваць «рух» альбо «ініцыятыву», С. Севец не змог. Нагадаем, што за апублікаванне 31 сакавіка г.г. "Звароту да воінаў-інтэрнацыяналістаў" лідэра руху "Абаронцы Айчыны" А. Волчака Міністэрства інфармацыі ў красавіку вынесла "Народнай волі" папярэджанне, палічыўшы гэта распаўсюдам інфармацыі ад імя незарэгістраванага аб'яднання.

### Брэсцкі аблвыканкам будзе супрацоўнічаць з недзяржаўнымі СМІ?

Старшыня Брэсцкага аблвыканкама Канстанцін Сумар сустрэўся **26 траўня** з кіраўніцтвам сродкаў масавай інфармацыі рэгіёна. Па словах Сумара, абласныя ўлады маюць намер у аднолькавай ступені супрацоўнічаць як дзяржаўнымі, так і з недзяржаўнымі СМІ.

Кіраўнік "вертыкалі" заявіў, што канструктыўная крытыка на старонках газет і ў эфіры дапамагае вырашаць праблемы сацыяльна-эканамічнага развіцця ў Брэсцкай вобласці. Па меркаванні старшыні аблвыканкама, недзяржаўная прэса часам лепей адлюстроўвае найбольш актуальныя тэмы (у прыватнасці, пытанні, датычныя развіцця прадпрымальніцтва). У гэты ж дзень адбылася цырымонія ўзнагароджання пераможцаў абласнога спаборніцтва сярод рэдакцый газет, тэлебачання і радыё, прафесійных журналістаў. Прадстаўнікі недзяржаўных СМІ ў ліку прэтэндэнтаў на ўзнагароды не разглядаліся.

### Ідэолагі "выкрываюць ворагаў"

Намесніца па ідэалогіі старшыні Горацкага райвыканкама Наталля Карнеева, выступаючы **ў канцы траўня** на так званым "дні інфармавання насельніцтва" ў калектыве раённага УКП "Цеплавая энергетыка", зазначыла, што працы дзяржаўных органаў раёна перашкаджаюць людзі, якія "працуюць на Амерыку". У якасці прыкладу спн. Карнеева выбрала прозвішча колішняга былога супрацоўніка гэтага прадпрыемства, а цяпер журналіста Эдуарда Брокарава, які часта друкуецца ў недзяржаўнай мясцовай газеце "Региональные ведомости". Сп. Брокараў вядомы ў раёне як адзін з заснавальнікаў недзяржаўнай незарэгістраванай газеты "Дзядзька Несцер", а таксама як супрацоўнік электроннага дайджэсту "Тыдзень з Магілёўскай вобласцю", які выдае ГА "Кола сяброў".

### Віншаваць ветэранаў дазволілі не ўсім

Гомельскія афіцыйныя газеты "Гомельская праўда" і "Гомельские ведомости" адмовіліся **ў пачатку траўня** публікаваць на сваіх старонках тэкст супольнага віншавання з Днём перамогі ветэранам вайны і іх сем'ям ад абласных і гарадскіх арганізацый АГП, ПКБ і БНФ.
Намеснік старшыні абласной арганізацыі АГП Уладзімір Кацора распавёў службе маніторынга ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў", што супрацоўніца аддзелу рэкламы "Гомельскай праўды" пасля кансультацыі з кіраўніцтвам заявіла, што ў іх газеце "ліміт на такога кшталту аб'явы вычарпаны".
У "Гомельских ведомостях", па словах сп-ра Кацоры, супрацоўнікі рэкламнага аддзелу ўжо вызначылі дату з'яўлення публікацыі і паведамілі, дзе можна зрабіць аплату. Аднак праз дзень з рэдакцыі прыйшоў ліст, у якім паведамлялася, што выданне не можа апублікаваць віншаванне, паколькі яго тэкст "не быў узгоднены з рэдактарам". Грошы газета вярнула паштовым пераводам.

### Новая хваля папярэджанняў недзяржаўным газетам

У сярэдзіне красавіка Міністэрства інфармацыі вынесла папярэджанні рэдакцыям недзяржаўных газет

“Народная воля”, “Борисовские новости” і “Вольнае Глыбокае”. Акрамя гэтага, па інфармацыі ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў”, у рэдакцыях некалькіх недзяржаўных выданняў гэтымі днямі працуюць падаткавыя праверкі.

Папярэджанне “Народнай волі” датавана **13 красавіка** і падпісана міністрам інфармацыі Уладзімірам Русакевічам. Падставай для яго вынясення сталі 2 публікацыі, што з’явіліся ў сакавіку г.г. Першы артыкул быў надрукаваны 3 сакавіка і называўся “Виртуальная война внучки с бабушкой”. Мініінфармацыі палічыла, што аўтар (А. Сівы) апублікаваў не завершаныя вытворчасцю матэрыялы судовай справы без пісьмовага дазволу суддзі. 31 сакавіка ў газеце было апублікавана “Обращение к воинам-интернационалистам» лідэра руху ім. Юрыя Захаранкі «Защитники Отечества» А. Волчака. Мініінфармацыі палічыла гэта распаўсюдам інфармацыі ад імя незарэгістраванага аб’яднання. Такм чынам, на думку рэгіструючага органа рэдакцыя двойчы парушыла патрабаванні арт. 5 закона “Аб друку і іншых СМІ”.
Недзяржаўная газета “Борисовские новости”, па меркаванні Мініінфармацыі, парушыла некалькі артыкулаў заканадаўства аб СМІ. Выданню інкрымінуюць тое, што яно не паведаміла пісьмова міністэрству пра змену тэрыторыі распаўсюду (арт. 11)., публікавала рэкламныя абвесткі без пацверджання права рэкламадаўцы на ажыццяўленне ліцэнзійнай дзейнасці (арт 30) і мела памылкі ў выходных дадзеных газеты ды выкарыстоўвала нестандартных шрыфтоў (арт. 26). Папярэджанне рэдакцыі было вынесена 15 красавіка і падпісана першай намесніцай міністра інфармацыі Ліліяй Ананіч.
Практычна на тых жа прэтэнзіях грунтавалася папярэджанне заснавальніку рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае» (вынесенае 15-га красавіка). Выданню інкрымінаваная змена мовы выдання на рускую і беларускую (замест беларускай) без інфармавання рэгіструючага органа; публікацыя рэкламных абвестак аб ліцэнзаваных відах дзейнасці без указання нумару ліцэнзіі, а таксама парушэнні ў выходных дадзеных выдання.

### Нарады А.Лукашэнкі з цэнтральнымі СМІ будуць штомесяц

**8 красавіка** А.Лукашэнка заявіў аб тым, што ён будзе штомесяц праводзіць нарады з вышэйшымі службовымі асобамі ўрада, сваімі дарадцамі і кіраўнікамі цэнтральных СМІ. “Мы ўпэўніліся, што такія нарады на ўзроўні прэзідэнта патрэбныя і карысныя”, - заявіў А.Лукашэнка. Патрэба нарадаў патлумачаная неабходнасцю інфармавання прэзідэнта пра найбольш важныя падзеі ў краіне і пра пытанні, на якія патрэбнае тэрміновае рэагаванне.

### Ветэран вайны забараніў выкарыстоўваць сваё інтэрв'ю ў недзяржаўнай газеце

**Напачатку красавіка** карэспандэнт баранавіцкай недзяржаўнай газеты газеты "Intex-press" Руслан Гарбачоў, рыхтуючы матэрыял на тэму 60-годдзя перамогі над фашысцкай Германіяй, запісаў інтэрв'ю з ветэранам вайны, які распавёў журналісту пра свой удзел у баявых дзеяннях. На наступны дзень ветэран патэлефанаваў у рэдакцыю і стаў цікавіцца ў карэспандэнта, што за газета "Intex-press", хто з'яўляецца яе выдаўцом, і як яна ставіцца да кіраўніка беларускай дзяржавы. Пачуўшы, што"Intex-press" з'яўляецца недзяржаўным і незалежным выданнем, ветэран забараніў выкарыстоўваць сваё інтэрв'ю ў газеце.

### «Витебский курьер» мусіць змагацца з гандлем людзьмі

**30 сакавіка** рэдакцыя недзяржаўнага выдання «Витебский курьер» атрымала ліст, падпісаны начальнікам аддзела ідэалагічнай працы Віцебскага гарвыканкама Абросімавым. Выданню

нагадана пра патрэбу выконваць нормы Дэкрэта А.Лукашэнкі №3 “Аб некаторых мерах па процідзеянні гандлю людзьмі”. Сярод іншага, ў газеце не дапушчаецца распаўсюджваць рэкламу аб прадастаўленні сэксуальных паслуг пад выглядам легальнай дзейнасці. «Витебскому курьеру» раяць інфармаваць насельніцтва аб працы юрыдычных асоб ды індывідуальных прадпрымальнікаў, якія маюць ліцэнзіі на працаўладкаванне грамадзян за мяжою. Незалежнаму выданню патрэбна падрыхтаваць шэраг матэрыялаў пра небяспечныя сітуацыі, у якіх могуць апынуцца патэнцыйныя ахвяры гандлю людзьмі ды аб дзяржаўных мерах па абароне грамадзян ад проціпраўных дзеянняў.

**Бабруйскія ўлады патрабуюць абвяржэння ад рэдакцыі “Бобруйского курьера”**

Рэдакцыя недзяржаўнага выдання “Бабруйскі курьер” атрымала ліст, падпісаны намеснікам старшыні Бабруйскага гарвыканкаму М.Кавалевіч. У лісце, датаваным **18 сакавіка**, узгадваецца артыкул В.Каленкевич “НДС предпринимателей съест” ад 10 сакавіка 2005 г. , гаворка ў якім ішла пра аб’яўленне з 1 сакавіка бестэрміновага страйку прадпрымальнікамі. У лісце з гарвыканкаму гаворыцца, што згаданыя ў газетным артыкуле гарадскія рынкі працавалі ў звычайным рэжыме. Таму рэдакцыі выдання прапанавана выступіць з абвяржэннем надрукаванай інфармацыі, інакш гарвыканкам будзе змушаны звярнуцца ў Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Пра што не пісаць – вызначае ідэалагічны работнік**

Намеснік старшыні Івацэвіцкага райвыканкаму па ідэалагічнай працы Леанід Скіндзер у размове з галоўным рэдактарам недзяржаўнай “Газеты для вас” Лідзіяй Цалуйка, якая адбылася **ў сярэдзіне сакавіка**, выказаў пажаданне, каб гэтае выданне ўвогуле нічога не пісала пра Івацэвіцкі раён. Ён параіў рэгіянальнаму выданню пісаць пра іншыя суседнія раёны, але не пра Івацэвіцкі, дзе размешчаная рэдакцыя выдання. Па словах Л.Скіндзера, газетныя публікацыі асабліва крытычнага зместу адмоўна ўплываюць на аўтарытэт мясцовай улады і нібыта ўводзяць мясцовае насельніцтва ў зман наконт палітыкі ды ідэалагічнай работы, праводзімай у раёне. Як мяркуе Л.Скіндзер, грамадскую думку павінная фармаваць толькі дзяржаўная газета, падпарадкаваная райвыканкаму.

**У Гродне зачынены інтэрнэт-форум**

У Гродна зачынены інтэрнэт форум, размешчаны па адрасе forum.grodno.by, - паведаміў **11 сакавіка** інфармацыйны інтэрнэт-рэсурс **www.bybanner.com**. Рэсурс размяшчаўся на вэб-сайце гродзенскага аддзялення РА “Белтэлекам” і меў папулярнасць карыстальнікаў інтэрнэту горада: яе штодня праглядалі 2000 унікальных наведнікаў.Старонкі форуму былі знішчаныя. Кіраўніцтва “Белтэлекама” прапанавала адміністратару аддзела “Гарадзенскі форум” Аляксею Радсу звольніцца з пасады па ўласнаму жаданню. Прычынай прапанаванага звальнення Аляксей Радс лічыць адзін з раздзелаў “Гродзенскага форуму”, які прысвечаны паўторным выбарам у парламент па Гродзенскай-Цэнтральнай выбарачай акрузе №52, а таксама тэмы “Аб Еўропе і РБ”, “Наш прэзідэнт. Хто ён?”, “О пропаганде как таковой”, “Жалезная заслона” ды іншыя.

Паводле кіраўніка цэха сервіснага абслугоўвання Валерый Шымака, раздзел “Гарадзенскі форум” закрыты часова, па прычыне адсутнасці мадэратара, “які раптам звольніўся”. У хуткім часе гродзенскі інтэрнэт-форум аднавіў працу па новым адрасе: **http://forum.grodno.net/**. Яго адміністратарам па-ранейшаму выступае Аляксей Радс.

**Міністэрства інфармацыі склала спіс музыкаў, рэкамендаваных для радыёэфіру**

**3 сакавіка** Міністэрства інфармацыі апублікавала на сваім сайце www.mininform.gov.by спіс аўтараў і выканаўцаў, чые творы рэкамендаваныя для трансляцыі ў беларускім FM-эфіры. Спіс выканаўцаў узгоднены з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь. Сярод іншых, у спіс улучаныя ансамблі "Песняры", "Сябры", Дзяржаўны аркестр сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам М.Фінберга, артысты Я.Навуменка, Я.Паплаўская, А.Ціхановіч, К.Слука, В.Плотнікава, А.Скараход ды іншыя. Таксама ў спіс патрапілі гурты "Белорусские песняры", "Новый Иерусалим", "Харлі", "Камерата", "Троіца", "J - Mors", "Леприконсы", "Ляпис Трубецкой" ды іншыя.

З улікам недастатковага развіцця беларускага шоу-бізнэсу і аб'ектыўнага недахопу беларускіх кампазіцый, Міністэрства інфармацыі разам з Міністэртвам культуры прапануюць лічыць айчыннымі выканаўцамі калектывы і артыстаў, якія паходзяць з Беларусі, але часова ці стала жывуць за межамі краіны. Таксама прапанавана лічыць беларускай музыкай выкананне замежных кампазіцый беларускімі музыкамі, музычныя праграмы беларускіх дзі-джэяў, а таксама творы замежных калектываў, дзе працуюць беларускія музыкі.

Па разліках Міністэрства інфармацыі, для выканання патрабавання насычэння радыёэфіру на 75% беларускай музыкай, радыёстанцыя павінная за суткі паставіць у эфір 180-270 фанаграм беларускіх аўтараў і выканаўцаў.

**Новае ўпраўленне Міністэрства інфармацыі будзе кантраляваць працу элетронных СМІ**

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь стварыла падраздзяленне для кіравання электроннымі СМІ, - паведаміў **3 сакавіка** сайт міністэрства. Асноўнымі функцыямі новага падраздзялення будзе дзяржаўнае рэгуляванне ў галіне перадачы й распаўсюду інфармацыі, каардынацыя дзейнасці Белтэлерадыёкампаніі, ЗАТ "Другі нацыянальны тэлеканал", ЗАТ "Сталічнае тэлебачанне", рэгіянальных тэлерадыёаб'яднанняў, FM-радыёстанцый ды іншых дзяржаўных і недзяржаўных электронных СМІ.

Паведамляецца, што створанае падраздзяленне будзе праводзіць мерапрыемствы, скіраваныя на эфектыўнае і дынамічнае развіццё беларускіх электронных СМІ і забясьпечваць функцыянаванне вэб-сайта міністэрства.

**Пытанне сяброўства журналістаў у ГА "БАЖ" будзе абмеркаванае ідэолагамі**

**25 лютага** на пасяджэнні калегіі ўпраўлення ідэалогіі Брэсцкага аблвыканкаму было закранутае пытанне сяброўства журналістаў у журналісцкіх арганізацыях. Начальнік упраўлення ідэалогіі Аляксандр Рагачук заклікаў журналістаў праводзіць у друку дзяржаўную палітыку і патлумачваць людзям курс, вызначаны А.Лукашэнкам. Старшыня брэсцкай абласной арганізацыі Саюза журналістаў Беларусі Георгій Тамашэвіч заклікаў рэдактараў актыўней прыцягваць моладзь у шэрагі Саюза журналістаў. Ён вынес прапанову, каб у рэдакцыях дзяржаўных газет працавалі толькі сябры гэтай арганізацыі, прысутнасць жа сябраў ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" не віталася. Мясцовым выданням рэкамендавана вызначыць, колькі журналістаў маюць сяброўства ў абедзьвюх журналісцкіх арганізацыях, з тым, каб абмеркаваць гэтае пытанне больш канкрэтна.

**Магілёўскія ідэолагі незадаволеныя працай дзяржаўных СМІ**

На пашыранай калегіі абласнога ўпраўлення ідэалагічных работнікаў, якая

адбылася ў Магілёве **8 лютага**, намеснік старшыні аблвыканкама Анатоль Глаз выказаў незадаволенасць працаю мясцовых дзяржаўных СМІ.

У сваёй крытыцы ён грунтаваўся на паказчыках апошняй падпісной кампаніі, а таксама на выніках аналізу зместу раённых перыядычных выданняў. У якасці прыкладу чыноўнік назваў газету Бабруйскага гарвыканкама "Бабруйскае жыццё", якая ў першым квартале г. г. паменшыла падпіску на 100 асобнікаў і, па яго словах, "саступае дзвюм недзяржаўным газетам па глыбіні і праблематычнасці зместу". Анатоль Глаз звінаваціў раённых журналістаў у ляноце і нятворчым падыходзе да працы, а таксама запатрабаваў павысіць актыўнасць і дысцыпліну.

**На Беларусі заблакаваныя расійскія порна-сайты**

Рэспубліканскае аб'яднанне "Белтэлеком" пацвердзіла факт блакіроўкі доступу да расійскіх сайтаў з парнаграфічным зместам. Блакіроўка ажыццёўлена па загадзе Міністэрства сувязі Беларусі. Сайты заблакаваныя паводле экспертнага заключэння Рэспубліканскай камісіі па прадухіленні прапаганды парнаграфіі, гвалту і жорсткасці. У кастрычніку 2004 года камісія вынесла заключэнне адносна расійскіх сайтаў **www.gay.ru**, **www.gaily.ru**, **www.qguis.ru**. Камісія не рэкамендавала распаўсюджваць гэтыя сайты на тэрыторыі Беларусі, паколькі яны ўтрымліваюць ненарматыўную лексіку а таксама маюць адлюстраванні з прыкметамі парнаграфіі, - паведаміў **2 лютага** сайт **http://bybanner.com/**.

**Прыпыненне СМІ – дзейсная мера**

Міністэрства інфармацыі Беларусі вынесла ў 2004 годзе 160 пісьмовых папярэджанняў 81 перыядычнаму выданню – паведаміў міністр інфрамацыі Уладзімір Русакевіч на паседжанні калегіі мінітэрства **28 студзеня**. Паводле міністра, папярэджанні сталі наступствамі масавых парушэнняў, выяўленых у часе рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі ў галіне сродкаў масавай інфармацыі, якія былі патлумачаныя не толькі няведаннем заканадаўства. Як лічыць У.Русакевіч, "апошнім часам мы становімся сведкамі свядомых і наўмысных, гэта значыць, злосных парушэнняў Закона аб друку". Найбольш дзейнаснай мерай уплыву на СМІ было названае прыпыненне СМІ – такая мера летась была ўжытая да 25 сродкаў масавай інфармацыі.

Міністр таксама не выключыў, што бліжэйшым часам у галіне СМІ давядзецца на практыцы засвойваць новыя заканадаўчыя нормы і палажэнні. Гэтак, міністр лічыць неабходным "удасканальваць сістэму інфармацыйнага процідзеяння антыбеларускім дзеянням і акцыям, планаваным як унутры краіны, гэтак і за межамі", "рабіць больш жорсткімі патрабаванні да рэгістрацыі друкаваных і электронных сродкаў масавай інфармацыі", а таксама прыняць канкрэтныя меры ў адносінах да альтэрнатыўных структур па распаўсюду перыёдыкі і навядзенню парадку ў распаўсюдзе замежных выданняў".

**Сталічныя медыі адсочаць на прадмет гвалту і парнаграфіі**

У сталіцы Беларусі створаная Мінская гарадская экспертная камісія па ацэнцы друкаваныя вырабаў, кінааўдыёвізуальных твораў і іншай прадукцыі на наяўнасць прыкмет парнаграфіі, культу жорсткасці і гвалту. Улады горада палічылі, што гарадская камісія больш поўна ахопіць ўсе пытанні гэтай сферы, чым Дзяржрэгістр кінавідэафільмаў і кінавідэапраграм, які выконвае гэтыя ж задачы, але ў маштабах усёй краіны. Сябры камісіі атрымаюць адмысловыя пасведчанні, якія дадуць ім права ўдзельнічаць у працы мастацкіх і навуковых радаў творчых арганізацый і рэдакцый СМІ, а таксама наведваць усе выставы, тэатральныя і відовішчныя мерапрыемствы ў Мінску. Аўтары разгляданых твораў маюць права

прысутнічаць на паседжанні памянёнай камісіі.

Экспертную камісію ачоліў першы намеснік старшыні Мінгарвыканкаму Міхаіл Пятрушын. На першым паседжанні, прызначаным на **19 студзеня**, будзе разглядацца дзейнасць сталічных інтэрнэт-клубаў.

**Міністэрства інфармацыі накіравала папераджальныя лісты шасці FM-станцыям**

**12-га студзеня** Міністэрства інфармацыі падрыхтавала папераджальныя "інфармацыйныя лісты" тром радыёстанцыям, што працуюць у Беларусі ў FM-дыяпазоне: "Хіт-ФМ", "Юністар"і "Новае радыё". У выніку маніторынгу эфіру і аналізу штодзённых play-лістоў міністэрства выявіла невыкананне радыёстанцыямі распараджэння А.Лукашэнкі аб трансляцыі ў найбольш рэйтынгавы час музычных твораў беларускіх аўтараў і выканаўцаў у памеры 75% ад агульнага часу музычнага вяшчання. Калі напрацягу 7 дзён з моманту атрымання папярэджання радыёстанцыі не выправяць становішча, то іхныя ліцэнзіі на права вяшчання могуць быць ануляваныя.

**Прыканцы лютага** папераджальныя лісты за такое ж парушэнне былі накіраваныя яшчэ тром беларускім FM-радыёстанцыям: “Радыё Рокс”, “Пілот-FM” і “Альфа-Радыё”.

**2 лютага** актывісты арганізацыі “Малады Фронт” перадалі Міністэрству інфармацыі Беларусі зварот, у якім просяць удвая скараціць колькасць музычных кампазіцый беларускіх выканаўцаў у радыёэфіры. Яны прапанавалі пакінуць у эфіры толькі 37,5% беларускай музыкі, зрабіўшы яе цалкам беларускамоўнай. Пад зваротам паставілі подпісы каля 100 чалавек. Сваю ідэю аўтары звароту тлумачаць тым, што хацелі б чуць у эфіры толькі якасную беларускую музыку.

**Павел Бараноўскі пакінуў радыё “Юністар”**

Адзін з заснавальнікаў радыё “Юністар” Павел Бараноўскі пакінуў пасаду праграмнага дырэктара радыёстанцыі – пра гэта **13 студзеня** паведаміў партал tut.by. Сам П.Бараноўскі прычыну свайго звальнення патлумачыў нязгодаю з метадамі працы кіраўніцтва. На гэты час ён разглядае некалькі прапановаў па працаўладкаванні. Наконт прапановаў працаваць на іншых радыёстанцыях, адмоўнай акалічнасцю, на ягоную думку, ёсць патрабаванне прысутнасці ў эфіры 75% музыкі беларускіх аўтараў.

**Праграмы тэлеканалу "Euronews" скасаваныя з раскладу вяшчання тэлеканала “Лад” і магілёўскага аператара “Дыён”**

Як паведаміла **12 студзеня** газета “Народная воля” са спасылкай на кіраўніка прэс-службы Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі Святлану Краскоўскую, адмова ад паказу міжнародных навін патлумачаная фінансавымі прычынамі. Канчаткова пытанне трансляцыі навін "Euronews" не вырашанае: кіраўніцтва кампаніі вядзе перамовы з міжнародным тэлеканалам. Навіны "Euronews" выходзілі ў эфір тэлеканала “Лад” штодзённа напрацягу 2004 году з 6.30 да 8.00.

Тэлеканал “Euronews” скасаваны з раскладу праграм магілёскага антэннага аператара “Дыён”. **24 студзеня** гледачы платнага эфірнага тэлебачання, ладжанага магілёўскай фірмай “Дыён”, былі пазбаўленыя тэлеканалу “Euronews”. Дырэктар фірмы “Дыён” Аляксандр Астапаў патлумачыў, што напярэдадні яго наведалі афіцыйныя асобы (канкрэтней ён іх не назваў) і прадэманстравалі загад Міністэрства інфармацыі, з якога вынікае, што канал “Euronews” у пакеце праграм “Дыёна” адсутнічае”. А.Астапаў выказаў спадзеў, што тэлеканал “Euronews” вернецца ў расклад праграм яго тэлесеткі. Пакуль жа замест еўрапейскіх навін карыстальнікі

платнага пакету праграм глядзяць трансляцыю беларускага тэлеканалу “СТВ”, які можна бясплатна прымаць на звычайную антэну.

**Дзяржава займецца прасоўваннем беларускай музыкі**

Міністэрства інфармацыі Беларусі прапануе стварыць у краіне дзяржаўны прадусарскі цэнтр. Мяркуецца, што ён будзе дапамагаць маладым беларускім выканаўцам ў запісу іх песень.

Патрэба стварэння цэнтру ўнікла ў выніку аналізу музычнага напаўнення беларускага эфіру. Як вядома, з **1 студзеня** 2005 года 75% музычнага эфіру ў самы слухальны час павінныя складаць творы беларускіх аўтараў. Паводле разлікаў Міністэрства інфармацыі, для выканання гэтага распараджэння беларускія аўтары павінныя штомесяц запісваць 25-30 новых кампазіцый. Як паведаміў намеснік міністра Сяргей Булацкі ў інтэрв'ю газеце "Советская Белоруссия", у студзені 2005 году была апісаная толькі адна кампазіцыя. У хуткім часе таксама чакаецца з'яўленне каардынацыйнай рады з ліку прадстаўнікоў Міністэрства інфармацыі, Міністэрства культуры, прадусараў і музыкаў. Рада будзе мець за мэту вырашэнне праблемы пад'ёму і прасоўвання айчыннай музыкі і мастацтва.

**Міністэрства інфармацыі адслухоўвае беларускі FM-эфір**

**З 1 студзеня** г.г. Міністэрства інфармацыі вядзе маніторынг музычнага вяшчання радыёстанцый, што працуюць у FM-дыяпазоне на тэрыторыі Беларусі, каб праверыць выкананне загаду аб 75-працэнтным напаўненні эфіру беларускай музыкай. У міністэрстве ўдакладняюць, што маніторынг беларускага FM-вяшчання вядзецца пастаянна. Але паколькі з 1 студзеня 75% музычнага эфіру "аддадзена" айчынным выканаўцам, за выкананнем гэтага прадпісання цяпер таксама будуць сачыць.

Сутнасць працы Міністэрства ў тым, каб прадухіліць "невыкананне творчай канцэпцыі" радыёстанцыі. Калі парушэнне дапушчана, пытанне перадаецца на разгляд Рэспубліканскай камісіі па тэлебачанні і радыёвяшчанні, якая вырашае, якім чынам пакараць парушальнікаў. Аднак, як запэўнілі ў аддзеле аналізу і каардынацыі электронных СМІ, "гучных выпадкаў пакуль не было". Паводле супрацоўнікаў аддзелу, тэхнічна маніторынг заключаецца ў праслухоўванні эфіру, а плэй-лісты і раздрукоўкі інфармацыйных выпускаў радыёстанцыі абавязаныя высылаць толькі ў выпадку адпаведнага запыту з боку міністэрства.

Распараджэнне адвесці 75% эфіра ў самы слухальны час беларускім выканаўцам аддаў А.Лукашэнка на нарадзе, прысвечанай фестывалю “Славянскі кірмаш” 3 лістапада 2004 г., калі крытычна выказаўся на адрас расійскай поп-пузыкі, якая пануе ў беларускім эфіры.

## Парушэнні, звязаныя з доступам да інфармацыі (адмовы ў прадастаўленні інфармацыі, абмежавальнае выкарыстанне інстытуту акрэдытацыі)

Перашкоды для незалежнай прэсы ад гомельскіх уладаў
Чыноўнікам забаранілі даваць інфармацыю "Мясцоваму часу"
Недзяржаўнаму выданню зноў адмовілі ў інфармацыі
Сустрэча журналістаў з амерыканскім дыпламатам была сарваная
Прэсу не запрашалі
Кепскі настрой чыноўніка
Журналістаў не пусцілі на прэсавую канферэнцыю
Журналістам Баранавіцкай газеты "Intex-press" адмаўляюць у інфармацыі
Журналістцы "Ганцавіцкага часу" не далі сфатаграфаваць выставу
Гродзенскі чыноўнік адмовіўся размаўляць з "вольным журналістам"
Пінскі гарвыканкам адмаўляе журналістам у інфармацыі
"Народную волю" і некаторыя іншыя выданні не акрэдытавалі на прэс-канферэнцыю генеральнага пракурора
Гродзенская міліцыя не лічыць патрэбным узбуджаць крымінальную справу за стварэнне перашкодаў прафесійнай дзейнасці журналіста
Журналісту не далі паслухаць пра стан ідэалогіі
Спаборніцтва выпускнікоў – закрытае для журналістаў
Журналістаў не пусцілі на суд над А.Клімавым
Рэдакцыі газеты "Intex-press" адмаўляюць у інфармацыі
Сельская гаспадарка – закрытая для журналістаў
Прэс-канферэнцыя праводзілася дыферэнцыявана
Чыноўнік па ідэалогіі паразмаўляў з незалежнымі журналістамі
Прыём намесніка міністра – закрыты для журналістаў
Прафсаюз – унутраная справа завода
З кіраўнікамі Гомельскай вобласці Э.Хайкен сустракаўся без журналістаў
Супрацоўнік банка адмовіла ў інфармацыі

### Перашкоды для незалежнай прэсы ад гомельскіх уладаў

**28 кастрычніка** прэсавы сакратар Гомельскага аблвыканкама Яўген Пабалавец адмовіўся прадаставіць уласнай карэспандэнтцы агенцтва БелаПАН Алене Пасканнай інфармацыю аб праграме візіту ў вобласць міністра замежных справаў Беларусі Сяргея Мартынава. Ён заявіў, што журналістка пазбаўленая акрэдытацыі, якая дае магчымасць працаваць карэспандэнтам інфармацыйнага агенцтва.

Алена Пасканная папрасіла прадаставіць ёй афіцыйны дакумент, у якім былі б выкладзеныя прычыны адмовы ў акрэдытацыі. Праз некаторы час прэс-сакратар аблвыканкаму патэлефанаваў і сказаў, што на нейкія мерапрыемствы журналістку будуць пускаць, а на нейкія - не. А.Пасканная ня выключыла, што хутка ёй будзе недаступнай уся інфармацыя. Яна выказала думку, што пагроза пазбаўлення акрэдытацыі тлумачыцца перадрукам некаторых яе паведамленняў недзяржаўнай «Народнай воляй».

### Чыноўнікам забаранілі даваць інфармацыю "Мясцоваму часу"

**У верасні** на нарадзе з працаўнікамі апарату намеснік старшыні Пінскага гарвыканкама Аляксандр Канеўскі звярнуўся да супрацоўнікаў упраўленняў і аддзелаў гарвыканкама з тым, каб яны не давалі інфармацыі журналістам недзяржаўнай газеты "Мясцовы час", паколькі яна па-свому каментуе падзеі і факты сацыяльнага жыцця горада. Старшыня Пінскага гарвыканкаму Аляксандр Гордзіч вусна распарадзіўся скасаваць дамову на арэнду офісу рэдакцыі, якое яна некалькі месяцаў таму

падпісала з гатэлем “Спорт”. Газета “Мясцовы час” па-ранейшаму не мае магчымасці распаўсюджвацца праз кіёскі “Белсаюздруку”. Пінскае аддзяленне “Белсаюздруку” чарговы раз адмовіла ў падпісанні дамовы на распаўсюд, спасылаючыся на загружанасць кіёскаў.

**Недзяржаўнаму выданню зноў адмовілі ў інфармацыі**

Чыноўнікі Ганцавіцкага райвыканкама **прыканцы жніўня** адмовіліся прадаставіць газеце "Ганцавіцкі час" інфармацыю пра тое, якія сем'і маюць права на атрыманне матэрыяльнай дапамогі ў падрыхтоўцы да школы дзяцей.
Карэспандэнт "Ганцавіцкага часу" Ірына Дамарацкая адрасавала гэтыя пытанні напярэдадні пачатку новага навучальнага года начальніку райфінаддзелу райвыканкама Але Стральчэні, якая адказала, што нічога патлумачыць не можа. Між тым, па звестках выдання, сродкі для аказання матэрыяльнай дапамогі былі выдаткаваныя менавіта з раённага бюджэту.
Адмовіўся даць якія-кольвек тлумачэнні на гэты конт і начальнік раённага аддзелу адукацыі Уладзімір Муха, які адказаў карэспандэнту "ГЧ": "Усё чытайце ў газеце "Савецкае Палессе".

**Сустрэча журналістаў з амерыканскім дыпламатам была сарваная**

**23 жніўня** ў Гомелі была сарваная сустрэча журналістаў з прадстаўніком амбасады ЗША ў Беларусі Лайлам Макміланам, якая павінна была адбыцца ў прыватнай кватэры гомельскага палітыка Віктара Карняенкі. За 2 гадзіны да пачатку сустрэчы міліцыя і пажарныя перакрылі пад'езд да дому на вул. Палесскай, заявіўшы, што ў суседнім будынку знойдзеная міна часоў вайны.

**Прэсу не запрашалі**

**4 жніўня** ў актавай залі Смаргонскай школы мастацтваў адбылася сустрэча кіраўнікоў Смаргонскага раёна з сябрамі раённага аддзялення ГА "Саюз палякаў на Беларусі". На сходзе таксама павінны былі абірацца дэлегаты на абласны з'езд арганізацыі. Прыйшлі на сход і прадстаўнікі мясцовай прэсы. Аднак, старшыня раённага аддзялення арганізацыі Тэрэза Пятрова яшчэ да пачатку сходу публічна заявіла, што прэсу на сход ніхто не запрашаў, таму яе прадстаўнікоў палякі не жадаюць бачыць у залі, бо, маўляў, менавіта прэса раздзьмувае канфлікт вакол Саюза палякаў. Спробу справадзіць з залі карэспандэнта "Местной газеты" Святлану Станкевіч, здымачную групу мясцовага тэлеканала "Окс-ТВ" у складзе карэспандэнткі Ганны Шатурка і аператара Аляксандра Бурава, а таксама карэспандэнтку дзяржаўнай раёнкі Іну Дабрыдзень паўтараліся неаднаразова, але безвынікова. Кропку ў спрэчцы прэсы і палякаў паставіў старшыня Смаргонскага райвыканкама Мечыслаў Гой. Ён настойліва папрасіў прэсу пакінуць сход, таму што гэтага "патрабуе народ". Прадстаўнікі СМІ выйшлі з залі.

**Кепскі настрой чыноўніка**

**3 жніўня** Смаргонь наведаў намеснік міністра адукацыі Казімір Фарына. Рэдактар мясцовага тэлеканала "Окс-ТВ" Таццяна Карашкова звярнулася да чыноўніка з пытаннем пра мэту візіту. Намеснік міністра рэзка адрэагаваў: у вас ёсць начальнік упраўлення адукацыі, яму і задавайце пытанні. Атрымаўшы адмову, Таццяна Карашкова разам з аператарам Аляксандрам Буравым накіравалася да будынку школы № 7, спрабуючы зняць сюжэт аб наведванні намеснікам міністра адукацыю новага аб'екта. Намеснік старшыні райвыканкама Святлана Шмыга запатрабавала, ка здымачная група пакінула аб'ект ,бо "у намміністра кепскі настрой". На наступны дзень Таццяна Карашкова звязалася па тэлефоне з начальнікам упраўлення адукацыі Смаргонскага райвыканкама Валерыем Бацько і папрасіла распавесці аб тым,

якія пытанні прыязджаў вырашаць у Смаргонь намеснік міністра адукацыі. В. Бацько размаўляць адмовіўся. Паводле неафіцыйных дадзеных, спадар Фарына прыязджаў у Смаргонь з мэтай пракантраляваць завяршэнне будаўніцтва сярэдняй школы № 7, на адкрыццё якой плануе прыехаць кіраўнік дзяржавы.

## Журналістаў не пусцілі на прэсавую канферэнцыю

Шэрагу журналістаў недзяржаўных беларускіх СМІ не дазволілі прысутнічаць на прэс-канферэнцыі Тадэвуша Кручкоўскага, якога Мінюст вызнае за легітымнага кіраўніка Саюзу палякаў Беларусі. Не змаглі трапіць на сустрэчу таксама некаторыя польскія журналісты.

Прэс-канферэнцыя прайшла ў будынку Саюзу палякаў, куды ўвечары **27 ліпеня** Т. Кручкоўскі прайшоў з дапамогаю атраду міліцыі асобага прызначэння. Перад пачаткам сустрэчы ля ўваходу з'явіўся паплечнік І. Кручкоўскага Казімер Знайдзінскі, які асабіста правяраў дакументы ў кожнага журналіста і вырашаў, хто можа прайсці на прэс-канферэнцыю, а хто - не. Побач з ім знаходзіўся нарад міліцыі.

Як паведаміў ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" (БАЖ) кіраўнік Гродзенскай філіі БАЖ Павал Мажэйка, не змаглі патрапіць у будынак ён сам, рэдактар газеты "Glos znad Niemna" Анджэй Пісальнік і журналіст гэтага выдання Ігар Банцэр, галоўны рэдактар газеты "День" і інтэрнэт-сайту www.pahonia.promedia.by Мікола Маркевіч, журналіст газеты "Салідарнасць" Іван Роман, карэспандэнт сайту www.hrodna.by Андрэй Кусельчук. Не дазволілі прайсці таксама журналістам польскай радыёстанцыі RMF-FM.

Бесперашкодна трапілі на прэс-канферэнцыю здымачная група тэлерадыёкампаніі "Гродна", журналісты дзяржаўных СМІ ("Звязда", "Перспектива" (заснавальнікі - Гродзенскі раённы Савет дэпутатаў, райвыканкам), а таксама карэспандэнты польскай тэлевізіі.

## Журналістам Баранавіцкай газеты "Intex-press" адмаўляюць у інфармацыі

У апошнія тыдні істотна пагоршылася сітуацыя з доступам да інфармацыі ў карэспандэнтаў газеты "Intex-press" (ТАА "Выдавецкі дом "Інтэкс-прэс", г. Баранавічы). **26 ліпеня** намеснік начальніка КУРЭП "ЖРЭУ" па ідэалагічнай працы Вольга Кудласевіч адмовілася адказваць на пытанні пазаштатнага карэспандэнта "ІР" Людмілы Гурман. Спн. Кудласевіч запэўніла, што яна гатовая падрыхтаваць усе адказы, калі на гэта дасць дазвол аддзел ідэалогіі Баранавіцкага гарвыканкама. Па словах В. Кудласевіч, ім паступіла ўказанне "зверху" прадастаўляць інфармацыю СМІ толькі на запыт з аддзелу ідэалагічнай працы Баранавіцкага гарвыканкама. Начальнік гэтага аддзелу Таццяна Жыдко ў вуснай размове з журналісткай Людмілай Гурман **2 жніўня** заявіла, што КУРЭП "ЖРЭУ" не валодае інфармацыяй, якая цікавіць журналіста. (Карэспандэнт спрабавала атрымаць адказы на пытанні датычна збору смецця і падрыхтоўкі да ацяпляльнага сезону 2005-2006 гг.). **1 жніўня** карэспандэнту "ІР" Аксане Лянько адмовілася даваць інфармацыю начальнік упраўлення гандлю Валянціна Маховік, якая заявіла, што інфармацыя можа быць будзе прадастаўлена гэтаму выданню толькі з санкцыі аддзелу ідэалагічнай працы. Пасля неаднаразовых зваротаў у аддзел ідэалагічнай працы і ўпраўленне гандлю А. Лянько вымушана была адмовіцца ад ідэі публікацыі. (Журналіст планавала апублікаваць спіс работнікаў гандлю, узнагароджаных граматамі і падзякамі ў гонар іх прафесійнага свята).

**Журналістцы “Ганцавіцкага часу” не далі сфатаграфаваць выставу**

**19 ліпеня** карэспандэнту недзяржаўнай газеты “Ганчавіцкі час” Ірыне Дамарацкай не дазволілі сфтаграфаваць выставу жывапісных твораў у раённым краязнаўчым музеі. Карціны мастачкі Марыны Тонкаль, якая нарадзілася ў Ганцавіцкім раёне (цяпер жыве ў Расіі), экспануюцца ў родным горадзе ўпершыню, і выстава сталася яркай падзеяй у культурным жыцці горада. Дырэктар музея Ала Занько, даведаўшыся пра намер карэспандэнта “ГЧ” азнаёміць чытачоў з экспазіцыяй, заявіла, што ў музеі нельга фатаграфаваць. На просьбу журналіста паказаць дакумент, які б забараняў рабіць фотаздымкі ў музеі, А. Занько адказала, што такога дакумента няма, і папрасіла карэспандэнта абгрунтаваць свае правы. Карэспандэнт патлумачыла, што дзейнічае на падставе арт. 32 Закона «Аб друку і іншых СМІ».
Аднак, калі, набыўшы квіток, карэспандэнт увайшла ў залю і паспрабавала сфатаграфаваць карціны, іншая супрацоўніца музея пачала закрываць рукамі фотакамеру і выпіхваць яе з выставачнай залі, пагражаючы міліцыяй.
Гэта не першая спроба работнікаў музея перашкодзіць выкананню прафесійнага абавязку журналістамі “Ганцавіцкага часу”. Падобная сітуацыя ўнікала год таму, калі былы дырэктар музея С. Разумец таксама перашкаджаў карэспандэнту “ГЧ” рабіць здымкі для незалежнага выдання.

**Гродзенскі чыноўнік адмовіўся размаўляць з "вольным журналістам"**

**30 чэрвеня** начальнік упраўлення спорту і турызму Гродзенскага гарвыканкама Уладзімір Чыгірынаў адмовіўся прадаставіць інфармацыю гродзенскаму журналісту Аляксандру Дварэцкаву. Адмову чыноўнік патлумачыў тым, што "не размаўляе з вольнымі журналістамі".

Як паведаміў службе маніторынга ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў” Аляксандр Дварэцкаў, апошнія некалькі дзён ён збірае матэрыял для артыкула пра развіццё турызму ў Беларусі. 30 чэрвеня па тэлефоне журналіст звярнуўся да начальніка ўпраўлення спорту і турызму аблвыканкама Уладзіміра Чыгірынава з просьбай акрэсліць пазіцыю ўладаў адносна турыстычных перспектыў Гродна. Чыноўнік пацікавіўся, у якой газеце працуе журналіст. Аляксандр Дварэцкаў паведаміў, што з'яўляецца вольным журналістам, а таксама сябрам ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў". Пачуўшы гэта, чыноўнік адказаў: "Со свободными журналистами я не разговариваю".

Аляксандр Дварэцкаў лічыць, што гродзенскі чыноўнік парушыў арт. 39 Закона аб друку, які замацоўвае права журналіста "збіраць, запрошваць, атрымоўваць і распаўсюджваць інфармацыю".

**Пінскі гарвыканкам адмаўляе журналістам у інфармацыі**

Журналісты недзяржаўнай тэлерадыёкампаніі “Варяг” (г. Пінск) сутыкнуліся з праблемай атрымання інфармацыі ад Пінскага гарвыканкаму. Гэтае пытанне ўзняў на прэс-канферэнцыі ў гарвыканкаме **29 чэрвеня** дырэктар “Варяга” Міхаіл Жылюк. Ён перадаў старшыні гарвыканкаму копію Закона “Аб друку і іншых СМІ” для больш глыбокага вывучэння супрацоўнікамі выканкама”. Журналіст тэлаканалу Юлія Марочка напісала з гэтай жа нагоды артыкул у мясцовай недзяржаўнай газеце “Варяг-пресс”, нагадаўшы супрацоўнікам выканкаму аб парушэнні імі гарантаванага законам права грамадзян на атрыманне і распаўсюд інфармацыі. Старшыня гарвыканкаму Аляксандр Гордзіч адказаў журналістцы са старонак дзяржаўнай газеты “Пінскі веснік” нататкай “Узяў пяро – думай”. Сутнасць публікацыі зводзіцца да таго, што

“вертыкаль” не заўсёды задавальняе тое, як недзяржаўная прэса асвятляе тыя ці іншыя падзеі, што адбываюцца ў горадзе.

## "Народную волю" і некаторыя іншыя выданні не акрэдытавалі на прэс-канферэнцыю генеральнага пракурора

Прэс-цэнтр Пракуратуры РБ адмовіўся акрэдытаваць журналіста "Народнай волі" на прэс-канферэнцыю генеральнага пракурора Пятра Міклашэвіча, спаслаўшыся на маленькі памер залі. Пра гэта паведаміла **22 чэрвеня** газета "Народная воля". Прэс-канферэнцыя, прысвечаная Дню работнікаў пракуратуры, павінна адбыцца 23 чэрвеня ў будынку Пракуратуры РБ. Інфармацыя пра прэс-канферэнцыю Генеральнага пракурора з прапановай акрэдытавацца на ёй прыйшла ў "Народную волю" раніцай 22 чэрвеня з Нацыянальнага прэс-цэнтра. Аднак вядучы спецыяліст прэс-цэнтра Пракуратуры РБ Антаніна Літвінчук заявіла карэспандэнту газеты, што "Народную волю" на прэс-канферэнцыю не акрэдытуюць з-за адсутнасці месцаў у залі. "Не віна журналістаў, не віна чытачоў, што ў пракуратуры няма вялікай залі, - піша газета 22 чэрвеня. - Што генпракурор па нейкіх прычынах не можа (альбо не жадае) прыехаць у Нацыянальны прэс-цэнтр, куды маюць магчымасць свабодна прайсці ўсе журналісты без выключэння". "Народная воля" падкрэслівае, што дзеянні прэс-цэнтру пракуратуры парушаюць арт. 42 Закона аб друку, які прадугледжвае магчымасць пазбаўлення журналіста акрэдытацыі толькі калі ён (рэдакцыя) парушыў устаноўленыя правілы акрэдытацыі альбо распаўсюдзіў несапраўдныя звесткі, прыніжальныя для гонару і годнасці арганізацыі, што акрэдытавала карэспандэнта. У той жа час, арт. 48 Закона "Аб друку і іншых СМІ" прадугледжвае "дысцыплінарную, адміністратыўную, крымінальную і іншую адказнасць" за парушэнне ўстаноўленых законам правоў журналістаў, - нагадвае газета.

Як стала вядома ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў”, аналагічным чынам было адмоўлена ў акрэдытацыі журналістам “Белорусской деловой газеты” і агенцтва “Reuters”. Карэспандэнту “Reuters” Андрэю Махоўскаму, як і “Народнай волі, заявілі, што ў залі не хапае месцаў. Як паведаміў БАЖ журналіст “БДГ” Сяргей Сацук, **22 чэрвеня** ў размове з ім вядучы спецыяліст прэс-цэнтру Пракуратуры РБ Антаніна Літвінчук спачатку таксама спасылалася на памеры залі, аднак пасля таго, як журналіст абурыўся незаконнасцю гэткай падставы, прызналася, што адмова ў акрэдытацыі прадыктавана іншымі прычынамі. Спн. Літвінчук заявіла, што, паколькі “БДГ” нібыта выдае няпраўдзівую інфармацыю, пракуратура вырашыла адмовіць ёй у акрэдытацыі на ўвесь год. (С. Сацук мае аўдыёзапіс запіс гэтай размовы).

## Гродзенская міліцыя не лічыць патрэбным узбуджаць крымінальную справу за стварэнне перашкодаў прафесійнай дзейнасці журналіста

Гродзенская міліцыя адмовілася ўзбуджаць крымінальную справу супраць старшыні і сакратара ўчастковай выбарчай камісіі, якія перашкаджалі журналістцы газеты “Згода” Алёне Андэевай ажыццяўляць прафесійную дзейнасць. У пастанове, атрыманай у **сярэдзіне красавіка** А.Андэевай і падпісанай начальнікам Ленінскага РУУС г. Гродна Сычэўскім, гаворыцца, што міліцэйская праверка не выявіла "уголовно наказуемых деяний". У той жа час, паводзіны самой журналісткі названыя "вызывающими и некорректными". Сп. Сычэўскі прапануе А. Андрэевай у выпадку нязгоды з прынятым рашэннем абскардзіць яго ў УУС Гродзенскага аблвыканкама, пракуратуру Ленінскага раёна Гродна альбо ў суд.

Прыканцы сакавіка А. Андрэева накіравала ў пракуратуру Ленінскага раёна г. Гродна заяву з просьбай завесці крымінальную справу паводле арт. 198 КК РБ ("стварэнне перашкодаў прафесійнай дзейнасці журналіста"). 28-га сакавіка гэтую заяву перанакіравалі ў Ленінскі РУУС Гродна.

Алёна Андрэева была накіраваная рэдакцыяй інфармацыйна-аналітычнай газеты "Згода" асвятляць ход падрыхтоўкі і правядзення паўторных выбараў дэпутатаў Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Схода ад Гродзенскай-Цэнтральнай выбарчай акругі № 52, праведзеных 20 сакавіка 2005 года. Журналістка мела пры сабе пісьмовае накіраванне і журналісцкае пасведчанне, аднак ёй не дазволілі прысутнічаць на ўчастку, запатрабаваўшы дадатковых дакументаў (пасведчанне аб рэгістрацыі газеты "Згода" і акрэдытацыю).

Таксама на выбарчы ўчастак не быў дапушчаны карэспандэнт газеты "Экспрэс-навіны" Андрэй Мялешка. Яму было адмоўлена на падставе таго, што такога выдання нібыта не існуе. А.Мялешка набыў асобнік свайго выдання ў шапіку і прадэманстраваў супрацоўнікам камісіі – толькі пасля гэтага яго зарэгістравалі на выбарчым участку. Яшчэ на адным участку зафіксаваная спроба забараніць рабіць фотаздымкі фатографу ад БНФ Карэну Анолаву.

Рэдактару недзяржаўнага выдання «Местная газета» Андрэю Шантаровічу спрабавалі адмовіць у прысутнасці на выбарчых участках №№40 і 41 г.Гродна. Пасля таго, як ён прадэманстраваў копію рэгістрацыйнага пасведчання свайго выдання, прысутнасць на выбарчым участку была дазволеная. Разам з дэпутатамі ён прысутнічаў падчас падліку галасоў, пасля чаго скіраваўся ў Кастрычніцкі РАУС г.Гродна, дзе знаходзіліся затрыманыя міліцыяй польскія журналісты Адам Тухлінскі, Міхал Кацэвіч (абодва - "Newsweek") ды Марцін Смялоўскі (тэлеканал «Polsat»).

Шасці прадстаўнікам грамадскасці, якія прыйшлі да будынку Кастрычніцкага РАУС, дазволілі ўвайсці ў будынак (сярод іх былі трое журналістаў). Супрацоўнік РАУС патлумачыў, што паступіла інфармацыя пра сфальсіфікаваныя пасведчанні польскіх журналістаў. Пасля гэтага ён папрасіў пакінуць памяшканне, інакш будзе ўжытая сіла. Журналісты і дэпутаты мясцовага савета выйшлі ў двор РАУС, але і там ім не дазволілі прысутнічаць, сказаўшы, што гэта будзе парушэннем грамадскага парадку. Прысутных зняў на відэа чалавек у цывільным. Праз паўгадзіны тры польскія журналісты былі адпушчаныя з Кастрычніцкага РАУС.

**20 сакавіка** падчас асвятлення выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па Гродзенскай-Цэнтральнай выбарчай акрузе былі затрыманыя тры польскія журналісты. Фотакарэспандэнт польскага выдання Newsweek Адам Тухлінскі разам з двума таварышамі быў затрыманы на адным з выбарчых участкаў, дзе ён быў акрэдытаваны для асвятлення выбараў. Два іншыя затрыманыя журналісты – Міхал Кацэвіч ("Newsweek") ды Марцін Смялоўскі (тэлеканал «Polsat»).

Журналістаў даставілі ў Кастрычніцкае РУУС г.Гродна і абвінавацілі ў тым, што на іх акрэдытацыйных пасведчаннях сцерлася пячатка. Журналістаў пратрымалі да 23-ай гадзіны – за гэты час былі сцертыя відэазапісы, зробленыя М.Смялоўскім за час сваёй камандзіроўкі на Беларусь.

Падрабязней аб працы журналістаў на выбарах чытайце тут:
**http://www.baj.ru/2005/Mar/2203nav2.asp**
**http://www.baj.ru/2005/Mar/2303nav3.asp**
**http://www.baj.ru/2005/Mar/2303nav2.asp**
**http://www.baj.ru/2005/Mar/2103nav4.asp**

ГА Беларуская асацыяцыя журналістаў" **29 сакавіка** атрымала з Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў адказ на

свой запыт пра выпадкі парушэння правоў журналістаў падчас асвятлення імі выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па Гродзенскай-Цэнтральнай выбарчай акрузе №52, праведзеных 20 сакавіка г.г.

У звароце (**http://www.baj.ru/2005/Mar/2303nav3.asp**) гаварылася, што падчас правядзення выбараў шэрагам службовых асоб, а таксама супрацоўнікамі міліцыі былі дапушчаныя парушэнні канстытуцыйных норм, выбарчага заканадаўства, Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" і Закона "Аб міліцыі". Увага Цэнтрвыбаркама была звернутая на выпадак з журналісткай газеты "Згода" Алёнай Андрэевай, якая была выдаленая з участка №12 па ўказанні старшыні ўчастковай выбарчай камісіі Т.Герасіменка на падставе таго, што А.Андрэева не прад'явіла пасведчанне аб рэгістрацыі яе выдання. Такі ж выпадак паўтарыўся на іншым выбарчым участку.

У адказе Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў паведамляецца, што "старшыні асобных участковых выбарчых камісій Гродзенскай-Цэнтральнай выбарчай акругі №52 беспадстаўна патрабавалі ў Андревай А.Е. прад'яўлення іншых дакументаў, якія пацвярджаюць яе статус журналіста, акрамя пасведчання". ЦВК тлумачыць гэтую з'яву "недастатковым веданнем выбарчага заканадаўства".

### Журналісту не далі паслухаць пра стан ідэалогіі

Карэспандэнту недзяржаўнай газеты "Intex-press" (г.Баранавічы) Руслану Гарбачову адмовілі ў прысутнасці на рэспубліканскім семінары-нарадзе "Стан, праблемы і шляхі ўдасканалення ідэалагічнай працы ў сучасных умовах", праведзеным **8 красавіка** ў Баранавічах. Напярэдадні мерапрыемства галоўны рэдактар выдання Уладзімір Янукевіч спрабаваў узгадніць прысутнасць на семінары карэспандэнта выдання з загадчыцай аддзела ідэалогіі Баранавіцкага гарвыканкама Таццянай Жытко, але яна адмовілася адказваць на пытанні. Прычынай, па якой карэспандэнту газеты адмовілі ў працы на семінары, стала адсутнасць акрэдытацыі. Заяўку на акрэдытацыю рэдакцыя газеты накіравала ў Баранавіцкі гарвыканкам яшчэ прыканцы студзеня 2005 г., але дагэтуль не атрымала ніякага адказу.

### Спаборніцтва выпускнікоў – закрытае для журналістаў

Карэспандэнта газеты "Ганцавіцкі час" Ірыну Дамарацкую не пусцілі на адборачны тур раённага конкурсу "Выпускнік-2005 года", праведзенага **8 красавіка** ў актавай зале Ганцавіцкай гімназіі. Да карэспандэнта выдання падыйшла намеснік начальніка раённага аддзела адукацыі Наталля Яромчык і пад нагодаю тэрміновай размовы вывела яго з залы. Потым яна паведаміла пра адсутнасць у залі вольных месцаў. Калі на месца здарэння прыехаў галоўны рэдактар выдання Пётр Гузаеўскі, то з ім размаўляла намеснік дырэктара гімназіі Аксана Караленка, якая не змагла патлумачыць прычыны забароны прысутнічаць на мерапрыемстве карэспандэнту недзяржаўнага выдання. Потым да рэдактара выйшаў намеснік начальніка раённага аддзела адукацыі Міхаіл Пішч, які паведаміў, што гімназія ёсць закрытай установай і папрасіў пакінуць будынак. На пярэчанне пра парушэнне заканадаўства аб друку, ён прапанаваў звяртацца ў суд.

### Журналістаў не пусцілі на суд над А.Клімавым

**6 красавіка** ў Першамайскім судзе г.Мінска пачалося слуханне крымінальнай справы ў адносінах былога палітыка і прадпрымальніка Андрэя Клімава. Суд мае зачынены характар. Прысутнічаць на ім было забаронена прадстаўнікам прэсы і офіса АБСЕ. Працэс вядзе суддзя Алена Ананіч.

Клімаў звінавачваецца ў паклёпе ў адносінах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (ч.2 арт.367 Крымінальнага кодэксу РБ) і знявазе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (ч.1 арт.368 Крымінальнага кодэксу РБ). Следства спасылаецца на кнігі А.Клімава "Восстание 2005", "Очевидные истины", "Я сделал свой выбор".

**Рэдакцыі газеты “Intex-press” адмаўляюць у інфармацыі**

Два выпадкі адмовы ў прадастаўленні інфармацыі журналістам недзяржаўнай газеты “Intex-press” (Баранавічы) адбыліся **1 красавіка**. Журналісту Аксане Лянько адмовіліся прадставіць звесткі аб рэалізацыі “Праграмы рамонту балконаў” начальнік КУРЭП “ЖРЭУ” Л.Астапчык і намеснік начальніка гэтай жа арганізацыі В.Кудласевіч. Журналісту патлумачылі, што падставай для атрымання інфармацыі можа быць толькі пісьмовы запыт на імя кіраўніка арганізацыі. У той жа дзень начальнік упраўлення адукацыі Баранавіцкага гарвыканкаму І.Стасевіч адмовіўся паведаміць журналісту “Intex-press” А.Чарненку вынікі праверкі трох спартыўных школ горада, якія знаходзяцца ў кіраванні ўпраўлення. Чыноўнік спаслаўся на тое, што гэтыя звесткі ёсць унутранай інфармацыяй упраўлення адукацыі і не падлягаюць апублікаванню ў газеце.

**Сельская гаспадарка – закрытая для журналістаў**

**24 сакавіка** на паседжанні Гомельскага аблвыканкама, прысвечаным падрыхтоўцы сельгасарганізацый да палявых работ, старшыня выканкама А.Якабсон папрасіў прысутных журналістаў пакінуць паседжанне. Сваю просьбу ён патлумачыў патрэбаю абмеркаваць працоўныя моманты. Карэспандэнты “Радыё Свабода”, газет “Рэспубліка” і “Гомельские ведомости” пакінулі залу. Адбылося гэта адразу пасля справаздачы старшыні камітэта па сельскай гаспадарцы і харчавання Л.Апанасюка, які дакладаў пра цяжкае фінансавае становішча сельгаспрадпрыемстваў і патрэбу знайсці недастатковыя 28 млрд. рублёў для правядзення вясенняй пасяўной кампаніі.

**Прэс-канферэнцыя праводзілася дыферэнцавана**

Прэс-канферэнцыя **3 сакавіка** старшыні Гомельскага аблвыканкаму Аляксандра Якабсона, прысвечаная вынікам 2004 года, прызначалася толькі для журналістаў дзяржаўных СМІ. Пра гэта карэспандэнту “Радыё Свабода” Казіміру Яноўскаму паведаміў прэс-сакратар аблвыканкама Яўген Пабалавец. На пытанне К.Яноўскага, што будзе, калі ён паспрабуе патрапіць на згаданае мерапрыемства, быў дадзены адказ, што журналіста на яго не пусцяць. Пытанне пра дыфірэнцыяванае запрашэнне журналістаў на прэс-канфэрэнцыю пасля яе заканчэння Я.Пабалаўцу задала карэспандэнт газеты “Народная воля” Ірына Макавецкая. Ёй быў дадзены адказ, што было вырашана запрасіць на мерапрыемства толькі журналістаў дзяржаўных СМІ. Наконт пярэчання пра парушэнне Закона аб друку, Я. Пабалавец зазначыў, што Закон аб друку не абавязвае запрашаць прадстаўнікоў недзяржаўных СМІ.

**Абмеркаванне дырэктывы №1 ў Гомелі адбылося без журналістаў**

**26 лютага** на пасяджэнні Гомельскага аблвыканкама сярод іншага абмяркоўваліся вынікі выканання Дырэктывы №1 аб навядзенні дысцыпліны і парадку ў капітальным будаўніцтве. Перад абмеркаваннем да карэспандэнта Беларускай службы “Радыё Свабода” Казіміра Яноўскага падышоў прэс-сакратар аблвыканкама Яўген Пабалавец і паведаміў, што яно адбудзецца без прысутнасці прэсы. На пытанне журналіста, ці ведае прэс-сакратар пра парушэнне гэтым патрабаваннем Закона аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі, Я. Пабалавец адказаў, што ведае. Таксама

залу слуханняў пакінулі карэспандэнт агенцтва “Інтэрфакс” Алена Альшанская і уласны карэспандэнт газеты “Советская Белоруссия” Андрэй Новікаў.

**Чыноўнік па ідэалогіі паразмаўляў з незалежнымі журналістамі**

**8 лютага** адбылася сустрэча прадстаўнікоў гродзенскай філіі ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” з кіраўніком ідэалагічнай управы Гродзенскага аблвыканкама Уладзімірам Амелькам. Журналісты акцэнтавалі ўвагу чыноўніка на прапускной сістэме ў будынку аблвыканаму, якая перашкаджае прадстаўнікам недзяржаўных СМІ ўдзельнічаць у праводзімых там прэс-канферэнцыях. У.Амелька паабяцаў дапамагчы ў гэтай справе. Таксама чыноўнік прызнаў, што паспяшаўся з выдачай рэкамендацый дзяржаўным арганізацыям вобласці, каб яны размяшчаі рэкламу толькі ў дзяржаўных медыях. У.Амелька патлумачыў, што кіраваўся жаданнем дапамагчы раённым газетам, які акупляюць сябе толькі на 84%.

Таксама на сустрэчы была абмеркаваная сітуацыя з гродзенскай газетай "Биржа информации", якая пасля аднаўлення выхаду пасля прыпынення Міністэрствам інфармацыі не можа падпісаць дамову з Гродзенскай абласной друкарняй. Да таго ж, напачатку лютага Скідзельская філія Гродзенскага раённага спажывецкага таварыства адмовілася працягваць з "Биржей" дамову на распаўсюд выдання ў крамах Гродзенскага раёна.

**Прыём намесніка міністра – закрыты для журналістаў**

Карэспандэнту баранавіцкай газеты "Intex-press" Аляксандру Чарненку не дазволілі прысутнічаць падчас прыему грамадзян першым намеснікам міністра ўнутраных справаў Аляксандрам Шчурко.

Прыём праходзіў у памяшканні Баранавіцкага ГАУС **3 лютага**. Аб сваёй прысутнасці карэспандэнтпапярэдне дамовіўся з прэс-сакратаром ГАУС Наталляй Сідзельнік. Але калі на наступны дзень ён прыйшоў у будынак аддзела ўнутраных справа, яму не толькі не дазволілі прысутнічаць у кабінеце, але і забаранілі размаўляць у калідоры з наведнікамі, якія прыйшлі да намесніка міністра. Адказаў на пытанні, на якой падставе яму забаранілі прысутнічаць на прыёме і ад каго зыходзіла забарона, карэспандэнт не атрымаў.

**Прафсаюз – унутраная справа завода**

Кіраўніцтва Беларускага металургічнага завода адмовіла журналісту недзяржаўнай газеты «Народная воля” Анатолю Гатоўчыцу ў прысутнасці на справаздачна-выбарчым сходзе прафсаюза завода, праведзеным **28 студзеня**. Напярэдадні сходу журналіст паведаміў пра намер прысутнічаць на ім намесніку генеральнага дырэктара БМЗ па ідэалогіі Надзеі Гаркушы. Яна паведаміла, што сход ёсць унутраным мерапрыемствам, на якое ніякую прэсу, акрамя прадстаўнікоў свайго радыё і газеты не запрашалі. На пярэчанне журналіста пра парушэнне Закона аб друку, намеснік дырэктара па ідэалогіі зазначыла, што без дазволу кіраўніцтва прадстаўнікі пабочных арганізацый не маюць права наведваць унутраныя мерапрыемствы на заводзе.

**З кіраўнікамі Гомельскай вобласці Э.Хайкен сустракаўся без журналістаў**

Паводле прэс-сакратара Гомельскага аблвыканкама Яўгена Пабалаўца, кіраўнік місіі АБСЭ ў Беларусі Эберхарда Хайкена падчас паездкі на Гомельшчыну **26 студзеня** выказаў пажаданне сустрэцца з кіраўнікамі вобласці без прысутнасці прэсы. Такое паведамленне атрымаў уласны карэспандэнт газеты “Народная Воля” Анатоль Гатоўчыц на просьбу прысутнічаць на сустрэчы дыпламата з кіраўніцтвам выканаўчай улады. Аднак калі па заканчэнні сустрэчы журналіст пацікавіўся ў сп-ра Хайкена, чым было выклікана такое пажаданне, то

даведаўся, што дыпламат не выказваў ніякіх пажаданняў наконт фармату сустрэчы і што ён адкрыты для ўсіх.

**Супрацоўнік банка адмовіла ў інфармацыі**

Дырэктар ААТ "Ашчадны банк "Беларусбанк" (г.Ганцавічы) Наталля Сідарэнка адмовілася аказваць на пытанне карэспандэнта недзяржаўнай газеты "Ганцавіцкі час" Соф'і Ясько пра рамонт адзінага ў горадзе банкамата. Сваю адмову яна матывавала асабістай непрыязню да газеты. Банкамат быў усталяваны ў г.Ганцавічы ў студзені 2005 г і працаваў толькі некалькі дзён. У снежні 2004 г. Н.Сідарэнка заявіла карэспандэнту "Ганцавіцкага часу", што ўсталяванне банкамату ў Ганцавічах не плануецца.

## Канфлікты, звязаныя з атрыманнем і распаўсюдам замежнай інфармацыі ці дзейнасцю замежных СМІ

У Гродна спыненая рэтрансляцыя Першай праграмы Польскага тэлебачання
Беларускае тэлебачанне абвінавапіла польскіх дыпламатаў
Польскага журналіста абшукалі на беларускай мяжы
Пратэст польскага тэлебачання
Польскую журналістку затрымалі ў Шчучыне
Польскіх журналістаў затрымалі ў Гродна
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу хоча прыцягнуць да адказнасці расійскае выданне "Московский комсомолец"
Журналіст Аляксей Аметаў пакараны на 10 сутак арышту, Міхаіл Раманаў на 8
Тры польскія журналісты затрыманыя падчас асвятлення выбараў
Праграмы тэлеканалу "Euronews" скасаваныя з раскладу вяшчання тэлеканала “Лад” і магілёўскага антэннага аператара “Дыён”

### У Гродна спыненая рэтрансляцыя Першай праграмы Польскага тэлебачання

З **25 кастрычніка** жыхары г.Гродна пазбаўленыя магчымасці глядзець першую праграму Польскага тэлебачання праз кабельныя сеткі. Замест гэтага аператар кабельных сетак ТАА “Гродзенскі абласны тэхнагандлёвы цэнтр “Гарант” рэтранслюе іншы польскі канал - Polsat. Як патлумачыў карэспандэнту інтэрнэт-выдання “Пагоня” на ўмовах ананімнасці адзін са спецыялістаў прадпрыемства, зроблена гэта паводле адмысловага загаду Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

У лютым 2004 года Першая праграма Польскага тэлебачання ў раскладзе вяшчання кабельнай сеткі тэлебачання была пераведзеная з “сацыяльнага” ў “дадатковы” пакет, праграмы якога мусяць аплачвацца дадаткова. Між тым, паводле рашэння Польскага тэлебачання, у Гродне запланавана адкрыць яго карэспандэнцкі пункт.

### Беларускае тэлебачанне абвінаваціла польскіх дыпламатаў

Беларускае тэлебачанне абвінаваціла польскіх дыпламатаў у перадачы праз мяжу "Glosu znad Niemna" і навучанні людзей рабіць непарадкі, - пра гэта **6 верасня** паведаміў польскі штодзённік "Gazeta Wyborcza".

Як падае выданне, 5 верасня ў праграме БТ "У цэнтры ўвагі" быў паказаны рэпартаж, у якім польскі генеральны консул у Гродне Анджэй Крэнтоўскі быў абвінавачаны ў перадачы праз мяжу экзэмпляраў "Glosu znad Niemna", надрукаваных у Польшчы. Затым быў абвінавачаны выконваючы абавязкі амбасадара ў Менску Мар'ян Семаковіч у тым, што пад канец жніўня ён прыехаў у Гродна, сабраў сяброў Саюза палякаў Беларусі ў консульстве і тры гадзіны вучыў іх, як арганізоўваць непарадкі ў Ваўкавыску, дзе павінен быў адбыцца з'езд СПБ. Абвінавачванні былі ілюстраваны відэазапісамі з міліцэйскіх камер, якія ўстаноўлены пры польскім консульстве ў Гродне.

Польскае выданне не выключае, што памянёная праграма БТ можа паслужыць пачаткам да высылкі з Беларусі іншых польскіх дыпламатаў. Так было ў траўні, калі героем перадачы "У цэнтры ўвагі" быў намеснік амбасадара Рэспублікі Польшча ў Беларусі Марэк Буцька. Неўзабаве пасля праграмы ўлады ў Менску папрасілі яго пакінуць краіну.

### Польскага журналіста абшукалі на беларускай мяжы

Журналіст польскай “Газеты выбочай” Вацлаў Радзівіновіч быў абшуканы беларускімі мытнікамі падчас перасячэння ім польска-беларускай мяжы **23 жніўня**. Па словах журналіста, мытнікаў асабліва цікавілі дыскеты, якія мытнікі спрабавалі скапіяваць. Асабісты камп’ютэр-ноўтбук быў канфіскаваны ў журналіста 28 ліпеня, падчас сілавой аперацыі беларускага АМАПу ў штаб-кватэры Саюзу палякаў на Беларусі. Гэта не першы выпадак перашкодаў у працы польскіх журналістаў, з якімі тыя сустракаюцца на Белапусі. Гэтак, напрацягу другой паловы жніўня двойчы не пусцілі на тэрыторыю Беларусі польскага аператара Рамана Воршыцкага. Ён меў беларускую візу і акрэдытацыю Міністэрства замежных справаў Беларусі.

**Пратэст польскага тэлебачання**

Дырэктар аддзелу польскага тэлебачання (TVP) у Беластоку Яцак Папёлак звярнуўся да Генеральнага консула Рэспублікі Беларусь у Беластоку Леаніда Каравайкі з лістом пратэсту супраць затрымання беларускімі ўладамі ў Гродна касэт з матэрыяламі зробленымі журналістам Мікалаем Ваўранюком. 4 касеты з матэрыяламі былі забраныя ў журналіста ўвечары **10 жніўня**, падчас праходжання пашпартнага кантролю на чыгуначным вакзале ў Гродна. Паводле словаў Мікалая Ваўранюка на гэтых касетах запісаныя размовы з актывістамі Саюза палякаў на Беларусі, якія журналіст правёў адмыслова для беларускай праграмы на польскім тэлебачанні. Іншыя запісы на касетах да Беларусі не маюць дачынення.

Гарадзенская інтэрнэт-газета pahonia.promedia.by падае, што касеты адабраны ў журналіста “для ажыццяўлення аперацыі мытнага кантроля”. На працягу дзесяці дзён мытнікі будуць спраўджваць ці не ўтрымліваецца на касетах звестак, “якія могуць нанесці шкоду палітычным, эканамічным і маральным інтарэсам беларускай дзяржавы і беларускім грамадзянам”.

**Польскую журналістку затрымалі ў Шчучыне**

**27 ліпеня** супрацоўнікі міліцыі ў Шчучыне затрымалі журналістку польскай публічнай тэлевізіі TVP1 Агнешку Рамашэўску. Падставай для затрымання сталася тое, што журналістка не мела пры сабе акрэдытацыі Міністэрства замежных справаў Беларусі.

Агнешку Рамашэўску затрымалі адразу па яе прыездзе ў Шчучын, каля Польскага дома. Журналістка спрабавала задаць пытанне мужчыну, якога пазнала з выступаў па БТ, аднак была адразу затрыманая супрацоўнікамі міліцыі і дастаўлена ў мясцовае аддзяленне міліцыі. Агнешка Рамашэўска спадзяецца, што яе далейшы лёс хутка высветліцца, і міліцыя дазволіць ёй вярнуцца да працы.

**Польскіх журналістаў затрымалі ў Гродна**

Два журналісты польскага штодзённіка "Gazeta Wyborcza" былі затрыманыя **27 ліпеня** супрацоўнікамі міліцыі на выездзе з Гродна. Вацлаў Радзівіновіч і Роберт Кавалеўскі ехалі ў Ліду на судовы працэс трох арыштаваных 26 ліпеня актывістаў Саюза палякаў на Беларусі. Як паведамляе "Gazeta Wyborcza", міліцыянты напачатку збіраліся толькі аштрафаваць кіроўцу машыны, у якой ехалі журналісты, за нібыта выяўленыя імі праблемы з дакументамі на аўтамабіль. Аднак у гэты час супрацоўнікам міліцыі нехта патэлефанаваў, пасля чаго журналістам забаранілі ехаць далей і знялі з машыны нумары. Таксама міліцыянты затрымалі кіроўцу машыны Юрыя Пажэцкага.

Журналістам усё ж удалося выклікаць таксоўку і дабрацца да Ліды.

Вацлаў Радзівіновіч перакананы, што за ім і ягоным калегам сачылі. "Як толькі мы выйшлі з сядзібы Саюза палякаў у Гродна, за намі сачылі два чалавека ў цывільным з карычневага "Renault", трэці здымаў на камеру кожны наш рух", - паведаміў ён "Gazecie Wyborczej".

**Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу хоча прыцягнуць да адказнасці расійскае выданне "Московский комсомолец"**

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь намерная звярнуцца да генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь з просьбай вывучаць магчымасць аб прыцягненні да адказнасці кіраўнікоў расійскага выдання “Московский комсомолец". Падставай для звароту стаў артыкул, надрукаваны ў газеце **28 красавіка** "Лукаблудие" (**http://www.mk.ru/numbers/1611/article52901.htm**). Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Віктар Кучынскі вылучыў прапанову да беларускага ўраду падаць іск супраць “Московского комсомольца". Дэпутат патлумачыў, што яго як грамадзяніна, афіцэра і дэпутата абражае, калі прэзідэнта краіны і людзей у пагонах абвінавачваюць у фашызме. Гаворка ў артыкуле расійскага выдання ішла пра падзеі 26 красавіка ў Мінску, калі дзеяннямі АМАПу была разагнаная несанкцыянаваная акцыя беларускай апазіцыі, у выніку чаго некалькі дзесяткаў чалавек былі арыштаваныя і асуджаныя на адбыванне адміністратыўнага арышту (у тым ліку - грамадзяне Расійскай Федэрацыі ды Украіны).

**Журналіст Аляксей Аметаў пакараны на 10 сутак арышту, Міхаіл Раманаў на 8**

Журналіст часопіса "Русский Newsweek", грамадзянін Расійскай Федэрацыі Аляксей Аметаў, асуджаны на 10 сутак адміністратыўнага арышту. Такое рашэнне **27 красавіка** прыняў Ленінскі суд г.Мінска. Сп. Аметава прызналі вінаватым у парушэнні арт. 167 ч. 1 КоАП ("Парушэнне парадку арганізацыі альбо правядзення рэлігійных, спартовых, культурна-масавых, іншых відовішчных мерапрыемстваў, а таксама сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетаванняў"). За такое ж парушэнне на 8 сутак арышту быў асуджаны судом Ленінскага раёну г.Мінска Міхаіл Раманаў, карэспандэнт газеты "Московский комсомолец".

Расійскія журналісты асвятлялі несанкцыяваную акцыю беларускай апазіцыі 26 красавіка, калі некалькі дзесяткаў грамадзян спрабавалі перадаць свае петыцыі у Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. М.Раманаў і А.Аметаў адбываюць пакаранне ў спецпрыёмніку-размеркавальніку ГУУС Мінгарвыканкаму.

**Тры польскія журналісты затрыманыя падчас асвятлення выбараў**

**20 сакавіка** падчас асвятлення выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па Гродзенскай-Цэнтральнай выбарчай акрузе былі затрыманыя тры польскія журналісты. Фотакарэспандэнт польскага выдання Newsweek Адам Тухлінскі разам з двума таварышамі быў затрыманы на адным з выбарчых участкаў, дзе ён быў акрэдытаваны для асвятлення выбараў. Два іншыя затрыманыя журналісты – Міхал Кацэвіч (“Newsweek”) ды Марцін Смялоўскі (тэлеканал «Polsat»).

Журналістаў даставілі ў Кастрычніцкае РУУС г.Гродна і абвінавацілі ў тым, што на іх акрэдытацыйных пасведчаннях сцерлася пячатка. Журналістаў пратрымалі да 23-ай гадзіны – за гэты час былі сцертыя відэазапісы, зробленыя М.Смялоўскім за час сваёй камандзіроўкі на Беларусь.

**Праграмы тэлеканалу "Euronews" скасаваныя з раскладу вяшчання тэлеканала “Лад” і магілёўскага антэннага аператара “Дыён”**

Як паведаміла **12 студзеня** газета “Народная воля” са спасылкай на кіраўніка прэс-службы Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі Святлану Краскоўскую, адмова ад паказу міжнародных навін патлумачаная фінансавымі прычынамі. Канчаткова пытанне трансляцыі навін "Euronews" не вырашанае: кіраўніцтва кампаніі вядзе перамовы з міжнародным тэлеканалам. Навіны "Euronews" выходзілі ў эфір тэлеканала “Лад” штодзённа напрацягу 2004 году з 6.30 да 8.00.

Тэлеканал “Euronews” скасаваны і з раскладу праграм магілёўскага антэннага аператара “Дыён”. **24 студзеня** гледачы платнага эфірнага тэлебачання, ладжанага магілёўскай фірмай “Дыён”, былі пазбаўленыя тэлеканалу “Euronews”. Дырэктар фірмы “Дыён” Аляксандр Астапаў патлумачыў, што напярэдадні яго наведалі афіцыйныя асобы (канкрэтней ён іх не назваў) і прадэманстравалі загад Міністэрства інфармацыі, з якога вынікае, што канал “Euronews” у пакеце праграм “Дыёна” адсутнічае”. А.Астапаў выказаў спадзеў, што тэлеканал “Euronews” вернецца ў расклад праграм яго тэлесеткі. Пакуль жа замест еўрапейскіх навін карыстальнікі платнага пакету праграм глядзяць трансляцыю беларускага тэлеканалу “СТВ”, які можна бясплатна прымаць на звычайную антэну.

У Калінкавічах пасля правядзення ў Кіеве **21 траўня** фіналу песеннага конкурсу “Еўрабачанне” адключылі украінскі інфармацыйна-забаўляльны канал “Інтэр-плюс**”.** Дырэктар таварыства “Сувязь-сервіс” Аляксей Разанцаў, якому належыць кабельная сетка, што транслявала канал, сказаў, што “Інтэр-плюс” і іншыя украінскія каналы забароненыя Міністэрствам інфармацыі для трансляцыі на тэрыторыі Беларусі”. Па яго словах, ён кожны год падае спіс каналаў для трансляцыі, але на украінскія каналы згоды ніколі не даюць. Паводле słоваў А. Разанцава, “Інтэр-плюс” яны замянілі на “Рускі ілюзіён”.

## Эканамічная палітыка ў галіне СМІ.

Недзяржаўнае выданне "Газета для Вас" (г. Івацэвічы) высяляюць з памяшкання
На наступны год нельга падпісацца на “Народную волю”, “Салідарнасць” і “Згоду”
Недзяржаўнай газеце адмовілі ў рэкламе
Тэхнічная дапамога з-за мяжы будзе абмежавана
З бюджэту Брэсцкай вобласці выдаткавана 70 мільёнаў рублёў на новае абсталяванне для дзяржаўных газет
У Беларусі распрацавана Комплексная праграма развіцця дзяржаўных перыядычных выданняў на тры гады
Брэсцкія ўлады хочуць ведаць усіх, хто распаўсюджвае ў горадзе газеты
Распараджэнняў падпісацца на афіцыйныя выданні ўсё больш
Прэзідэнцкі ўказ ускладніў умовы раздробнага гандлю газетамі і часопісамі
Газету “Витебский курьер” пазбаўляюць памяшкання
Падпісчыкаў на дзяржаўныя выданні будуць заахвочваць
У Пінску ўзмацняюць дзяржаўныя СМІ
Недзяржаўных выданняў няма ў Каталогу сродкаў масавай інфармацыі Гродзеншчыны
30 крамаў Мінска адмовіліся прадаваць незалежныя выданні
Замежнаму капіталу не месца ў газетнай справе
З ведамаснай падпіскі выключылі недзяржаўныя выданні
Кантроль за распаўсюдам перыядычных выданняў у Брэсце будзе ўзмоцнены
Падаткавая інспекцыя аштрафавала выдаўца газеты “Вольны горад”
Урад вызначыў пералік субсідаваных з бюджэта выданняў
Мінгандаль дазваляе ўзгадняць толькі "асартыментны мінімум"
Ідэолагі правяраюць асартымент перыядычных выданняў у рознічным гандлі
“Газету для вас” адмаўляецца распаўсюджваць Івацэвіцкі райпажыўсаюз
Рэдактара недзяржаўнай газеты не пускаюць за мяжу
За нізкі наклад пазбавілі прэміі
У Магілеве спынілі продаж “ARCHE”
Гродзенскім прадпрыемствам "не рэкамендуюць" размяшчаць рэкламу ў недзяржаўных медыях

### Недзяржаўнае выданне "Газета для Вас" (г. Івацэвічы) высяляюць з памяшкання

Найбліжэйшым часам рэдакцыю недзяржаўнай "Газеты для Вас" (г. Івацэвічы) могуць выселіць з памяшкання, дзе яна месцілася на працягу апошніх трох гадоў.
Адзін з кіраўнікоў раёна (які папрасіў не называць яго імя) паведаміў рэдактару выдання Л. Цалуйцы, што на адной з нарадаў у райвыканкаме быў аддадзены загад загадчыкам усім аб'ектаў камунальнай уласнасці і прадпрымальнікам не прадастаўляць рэдакцыі "Газеты для Вас" памяшканняў для арэнды. Арандаванае рэдакцыяй памяшканне належыць райбыткамбінату.

У гутарцы з Л. Цалуйкай старшыня Івацэвіцкага райвыканкама Анатоль Ткачук заявіў, што ў верасні наступнага года ў Івацэвічах будуць праводзіцца "Дажынкі", і таму рэдакцыйнае памяшканне спатрэбіцца для канторы райбыткамбінату. Акрамя "Газеты для Вас", райбыткамбінат мае каля 50 арандатараў і, па звестках Л. Цалуйкі, нікому з іх у арэндзе не адмаўляе; да таго ж, у будынку ёсць вольныя плошчы.

Гэта – не першы выпадак ціску мясцовых уладаў на незалежнае выданне. **11 сакавіка** на пасяджэнні Івацэвіцкага райвыканкама старшыня райвыканкама Віталь Дзмітраніца адкрыта даваў указанні начальніку падатковай інспекцыі «разабрацца» з недзяржаўным выданнем «Газета для вас», рэдакцыя якога

размешчаная ў Івацэвічах. На той жа нарадзе намеснік старшыні выканкама па ідэалогіі Леанід Скіндзер настойваў, каб кіраўніца Раённага камбіната бытавога абслугоўвання разарвала з рэдакцыяй недзяржаўнага выдання дамову на арэнду памяшкання, якая дзейнічае да кастрычніка 2005 года. Але выканаць грозныя распараджэнні ў раённым цэнтры пакуль не паспелі, паколькі ў няміласць да ўладаў патрапіў сам старшыня райвыканкаму. 13 сакавіка ён быў затрыманы па падазрэнні ў атрыманні хабару ад мясцовага прадпрымальніка, памерам 5 тысяч долараў ЗША. Службовы кабінет і кватэра В.Дзмітраніцы апячатаныя.

## На наступны год нельга падпісацца на “Народную волю”, “Салідарнасць” і “Згоду”

Незалежныя выданні “Народная воля”, “Салідарнасць”, “Згода”, «БДГ.Деловая газета», “Рэгіянальная газета”, некаторыя іншыя недзяржаўныя грамадска-палітычныя выданні выключаныя з падпіснога каталогу на 2006 год. **8 лістапада** рэдакцыя газеты “Салідарнасць” атрымала ліст з РУП “Белпошта”, у якім паведамляецца, што выданне не ўключанае ў падпісны каталог на першае паўгоддзе 2006 г. У матывуючай частцы гэтага рашэння ёсць фраза пра тое, што “кожны суб’ект гаспадарання у сваёй камерцыйнай дзейнасці мае права кіравацца эканамічнай мэтазгоднасцю”.

Падобны ліст атрымала і рэдакцыя газеты “Згода”. У ім “Белпошта” звінавачвае рэдакцыю “Згоды” ў парушэнні ўмоваў дамовы і пералічвае некалькі выпадкаў, калі рэдакцыя не паведаміла своечасова аб пераносе даты выхаду альбо не выйшла ў належны час. Са свайго боку, галоўны рэдактар “Згоды“ Аляксей Кароль кажа, што заўсёды інфармаваў прадпрыемства пра змены ў графіку выхаду газеты.

Ліст пра спыненне распаўсюду праз падпіску атрымала і “Народная воля”. Гэтая газета з 1 кастрычніка не можа распаўсюджвацца і праз “Мінгарсаюздрук”. “Мінаблсаюздрук” і “Белсаюздрук”. “Салідарнасць” і “Згода” такую магчымаць пакуль маюць.

## Недзяржаўнай газеце адмовілі ў рэкламе

Ганцавіцкі раённы вузел электрасувязі адмовіў газеце “Ганцавіцкі час” у размяшчэнні **ў верасні** рэкламнай аб’явы на мясцовым радыё аб правядзенні падпіскі на згаданае выданне. Як пазначана ў адказе начальніка Ганцавіцкага РВЭС Рылко на імя дырэктара ТАА “Інтэкс-прэс” У. Янукевіча, “выканаць просьбу не ўяўляецца магчымым па прычыне вялікай колькасці заявак віншавальнага характару і неабходнасці размяшчэння інфармацыі РВЭС у азначаны прамежак часу”.

## Тэхнічная дапамога з-за мяжы будзе абмежавана

Дапамога Беларусі з-за мяжы будзе пастаўлена пад жорсткі дзяржаўны кантроль пасля ўступлення ў сілу прэзідэнцкага Указу №382, якім кіраўнік дзяржавы ўнёс змены ў папярэдні Указ "Аб міжнароднай тэхнічнай дапамозе, якая прадастаўляецца Рэспубліцы Беларусь". Дакумент падпісаны **17 жніўня** і набудзе моц праз месяц пасля яго афіцыйнага апублікавання. Паводле паведамлення прэзідэнцкай прэс-службы, указ забараняе атрыманне і выкарыстанне міжнароднай тэхнічнай дапамогі ў антыканстытуцыйных мэтах, для захопу альбо звяржэння дзяржаўнай улады, умяшання ва ўнутраныя справы РБ, падбухторвання да здзяйснення такіх дзеянняў, для прапаганды вайны альбо гвалту ў палітычных мэтах і г.д. Такая дапамога не можа быць выкарыстана таксама для падрыхтоўкі і правядзення выбараў, рэферэндумаў, арганізацыі і

правядзення мітынгаў, сходаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый, пікетавання, вырабу і распаўсюду агітацыйных матэрыялаў і г.д. У адпаведнасці з указам, да міжнароднай тэхнічнай дапамогі цяпер далучана бязвыплатна аказваная нашай краіне дапамога ў форме арганізацыі і правядзення семінараў, канферэнцый і іншых грамадскіх абмеркаванняў, - паведаміла прэзідэнцкая прэс-служба. Арганізатары такіх мерапрыемстваў абавязаныя будуць прадставіць інфармацыю аб іх арганізацыі альбо правядзенні ў Камісію па пытаннях міжнароднага тэхнічнага супрацоўніцтва пры Савеце Міністраў РБ. Гэтая інфармацыя таксама будзе рэгістравацца ў Міністэрстве эканомікі, якое, у сваю чаргу, павінна будзе прадстаўляць пацверджанне аб арганізацыі альбо правядзенні гэткіх сустрэч у адпаведны аблвыканкам (Мінскі гарвыканкам).

**З бюджэту Брэсцкай вобласці выдаткавана 70 мільёнаў рублёў на новае абсталяванне для дзяржаўных газет**

25 кампутараў, 10 лічбавых фотакамер, сканеры, прынтэры, мадэмы і лічбавыя дыктафоны былі набытыя для рэдакцый газет Берасцейшчыны на суму 70 мільёнаў рублёў. Пра гэта паведаміў **20 ліпеня** афіцыйны сайт Брэсцкага аблвыканкама (http://www.brest-region.by). Грошы былі выдаткаваны па рашэнні Брэсцкага абласнога Савета дэпутатаў. Паводле галоўнага спецыяліста ўпраўлення ідэалагічнай работы аблвыканкама Т. Гагакавай, за кошт новага абсталявання значна палепшыцца матэрыяльна-тэхнічная база рэдакцый абласной газеты "Заря" (сярод заснавальнікаў - Брэсцкі абласны Савет дэпутатаў, Брэсцкі аблвыканкам), раённых "Полесская правда" (заснавальнікі - Пінскі раённы Савет дэпутатаў, Пінскі райвыканкам), "Чырвоная звязда" (заснавальнік - Іванаўскі райвыканкам), "Драгічынскі веснік" (сярод заснавальнікаў - Драгічынскі райвыканкам, Драгічынскі раённы Савет дэпутатаў), гарадской газеты "Пінскі веснік" (Пінскі гарадскі Савет дэпутатаў, Пінскі гарвыканкам). З набытага часткова будуць укамплектаваныя рэдакцыі абласной газеты "Народная трыбуна", раённых "Савецкае Палессе" (Ганцавічы), "Заря над Бугом" (Брэст), "Навіны Палесся" (Столін) і іншыя. (Заснавальнікамі гэтых выданняў таксама выступаюць выканкамы і Саветы дэпутатаў розных узроўняў).

**У Беларусі распрацавана Комплексная праграма развіцця дзяржаўных перыядычных выданняў на тры гады**

У Беларусі з'явілася Комплексная праграма развіцця дзяржаўных перыядычных выданняў на 2005-2008 гады, - паведаміла агенцтва БелТА. Яна зацверджана пастановай Савета Міністраў №800 ад **20 ліпеня** г.г. Па словах першай намесніцы міністра інфармацыі Ліліі Ананіч, Комплексная праграма - гэта "працяг мэтанакіраванай працы Міністэрства інфармацыі па ўмацаванні і развіцці нацыянальнай інфармацыйнай прасторы".

Паводле БелТА, праграма распрацавана з удзелам навукоўцаў, спецыялістаў БДУ, рэдактараў "вядучых СМІ". Каментуючы агенцтву змест дакумента, Л. Ананіч казала пра неабходнасць абнаўлення матэрыяльна-тэхнічнай базы рэдакцый дзяржаўных СМІ, пра неабходнасць вывучаць патрэбы чытацкай аўдыторыі і г.д. "Мы не збіраемся браць на сябе функцыі рэдакцыі ў вырашэнні задач, якія стаяць перад кожным калектывам па развіцці таго ці іншага перыядычнага выдання, па паляпшэнні яго месцу, умацаванні пазіцыі ў інфармацыйнай прасторы. Міністэрства інфармацыі каардынуе гэтую працу", - зазначыла Л. Ананіч

**Брэсцкія ўлады хочуць ведаць усіх, хто распаўсюджвае ў горадзе газеты**

Рэдакцыі брэсцкіх газет **у чэрвені** атрымалі з мясцовага гарвыканкаму ліст за подпісам намесніка старшыні Вячаслава Хафізава. У лісце паведамляецца пра неабходнасць выконваць рашэнне гарвыканкаму №310 ад 17.03.2005 "Аб сістэме інфармацыйнага забеспячэння насельніцтва і мерах па ўпарадкаванню рознічнай сеткі па распаўсюду перыядычных выданняў на тэрыторыі горада". У прыватнасці, ад рэдакцый патрабуюць прадставіць у аддзел ідэалагічнай работы гарвыканкаму спіс грамадскіх распаўсюджвальнікаў мясцовых выданняў.

**Прэзідэнцкі ўказ ускладніў умовы раздробнага гандлю газетамі і часопісамі**

Указам А. Лукашэнкі ад **18 чэрвеня** г.г. №285 "Аб некаторых захадах па рэгуляванні прадпрымальніцкай дзейнасці" зменены ўмовы рознічнага гандлю друкаванымі выданнямі. Цяпер прадпрымальнік, які прадае газеты і часопісы, абавязаны будзе плаціць не адзіны, "спрошчаны", падатак, а перайсці на звычайнае падаткаабкладанне. Указ уступіць у сілу з 1 жніўня г.г.

У "Пераліку" відаў дзейнасці, пры ажыццяўленні якіх прадпрымальнік мае права плаціць адзіны падатак, прысутнічае "гандаль перыядычнымі выданнямі", але з пазнакай "за выключэннем газет і часопісаў". У аналагічнымі спісе, які прыкладаўся да папярэдняга дакумента, што рэгуляваў уплату падаткаў прадпрымальнікамі (Дэкрэт Прэзідэнта РБ №4 ад 27.02.2003), за рознічны гандаль перыядычнымі выданнямі (без выключэння) прадугледжвалася ўплата толькі адзінага падатку. Такім чынам, новы ўказ істотна ўскладняе ўмовы дзейнасці прадпрымальнікаў, якія займаюцца рэалізацыяй газет і часопісаў: замест 10-30 еўра адзінага падатку ім цяпер трэба будзе плаціць падаходны падатак і яшчэ цэлы шэраг падаткаў і збораў, устаноўленых заканадаўствам, і афармляць значна больш папераў.

**Распараджэнняў падпісацца на афіцыйныя выданні ўсё больш**

Упраўленне бытавога абслугоўвання насельніцтва Мінскага гарвыканкама разаслала кіраўнікам сталічных прадпрыемстваў афіцыйнае распараджэнне "зрабіць захады па абавязковым забеспячэнні падпіскі" на другое паўгоддзе 2005 г. на выданне Адміністрацыі Прэзідэнта "Советская Белоруссия" і газету Мінгарвыканкама "Минский курьер". Дакумент падпісаны начальнікам упраўлення А. П. Коўшарам, - паведаміў **17 чэрвеня** сайт "Хартыі-97". У афіцыйнай паперы ўказваецца нумар факсу, па якім кіраўніку прадпрыемства трэба выслаць пацверджанне падпіскі.

Нядаўна ў рэдакцыю "Народнай волі" таксама трапілі копіі двух аналагічных дакументаў: адзін быў падпісаны кіраўніком адміністрацыі Заводскага раёна Мінска Вячаславам Юхновічам, а другі - яго калегам з Першамайскага раёна Валерыем Скакуном, - інфармуе "Хартыя-97". Абодва звяртаюцца да кіраўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый і ўстановаў сваіх раёнаў з просьбай пасадзейнічаць правядзенню ведамаснай падпіскі на дзяржаўныя выданні і "не дапусціць ведамаснай падпіскі на недзяржаўныя". Кіраўнік Першамайскай адміністрацыі просіць кіраўнікоў прадпрыемстваў узяць гэтае пытанне "пад асабісты кантоль" з улікам "палітычнай важнасці дадзенага мерапрыемства". У дакуменце ўказваецца дакладная колькасць асобнікаў газет, якую абавязаныя выпісаць усе структурныя падраздзяленні прадпрыемстваў, інтэрнатаў, бібліятэк Першамайскага раёна. У звароце кіраўніка Заводскай адміністрацы

гаворыцца таксама пра індывідуальную падпіску, - паведамляе "Хартыя-97".

Кіраўніцтва Асіповіцкага чыгуначнага вузла вусным парадкам, але строга і пад пагрозу дысцыплінарнага пакарання прадпісала ўсім працаўнікам падпісацца на наступныя паўгода на ведамасную газету “Железнодорожник Белоруссии”. Многія з работнікаў чыгуначнага вузла, вакзала і іншых службаў станцыі Асіповічы паміж сабою выказваюць неахвоту гэта рабіць, бо даводзіцца адразу развітвацца з 25-ю тысячамі рублёў. Справа ў тым, што да ведамаснай газеты ім яшчэ загадана падпісацца і на “Советскую Белоруссию”. Падпіска на гэтыя выданні ў Асіповічах падоўжана да **18 чэрвеня**.

Да 15 чэрвеня 2005 г. прадпрыемствы і арганізацыі Гродна павінныя здаць справаздачу аб выніках правядзення падпіскі на газету "Советская Белоруссия" на другое паўгоддзе 2005 года. Пра гэта гаворыцца ў лісце, які разаслалі адміністрацыі двух раёнаў Гродна, - паведаміў **26 траўня** сайт "euramost.org". У дакуменце ўказваецца колькасць экзэмпляраў "СБ", якія трэба выпісаць на тое альбо іншае прадпрыемства. Інфармацыю пра вынікі падпісной кампаніі рэкамендавана прадаставіць у раённыя аддзелы ідэалагічнай працы. Па звестках журналістаў, адміністрацыі раёнаў займаюцца падпіскай па даручэнні Гродзенскага гарвыканкама. Як заявіў карэспандэнту euramost.org начальнік упраўлення ідэалогіі Гродзенскага выканкама Уладзімір Амелька, акрамя "СБ", выканаўчыя камітэты "прасоўваюць" яшчэ некалькі дзяржаўных рэспубліканскіх выданняў ("Звязда", "Рэспубліка", "Белорусская нива", "Семь дней", "Знамя юности", "Беларуская думка"), "таму што яны асвятляюць палітыку дзяржавы". У спіс газет, падпіска на якія падтрымліваецца адміністратыўным рэсурсам, трапілі таксама шэсць мясцовых дзяржаўных выданняў, у тым ліку - "Гродненская правда", якую сам У. Амелька назваў "нецікавай".

У школы Глыбоччыны накіраваны ліст, падпісаны начальнікам аддзела адукацыі Глыбоцкага райвыканкама Р.Тарасевічам. Чыноўнік просіць да **20 сакавіка** 2005 года арганізаваць сярод настаўнікаў індывідуальную падпіску на дзяржаўныя перыядычныя выданні. Сярод рэкамендаваных выданняў – цэнтральныя газеты “Советская Белоруссия”, “Народная газета”, “Рэспубліка”. “Звязда”, “Знамя юности” ды іншыя, абласныя – “Віцебскі рабочы”, “Народное слово” і раённая “Веснік Глыбоччыны”. Адметна, што кожны настаўнік мусіць падпісацца не менш як на 3 газеты.

Студэнтаў Магілёўскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта, якія вывучаюць прадмет "дзяржаўная ідэалогія", абавязваюць падпісацца на шэраг дзяржаўных газет. Пачынаючы з зімовай сесіі, студэнты гуманітарных факультэтаў павінныя з'яўляцца на залікі і іспыты па згаданай дысцыпліне з квітанцыяй, якая пацвярджала б факт падпіскі. Па інфармацыі службы маніторынга ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" па Магілёўскай вобласці, існуе вуснае распараджэнне адміністрацыі педуніверсітэта на гэты конт. Будучыя выкладчыкі гісторыі і грамадазнаўства павінныя будуць падпісацца на "Советскую Белоруссию" і "Магілёўсія ведамасці" - друкаваны орган аблвыканкама.

Кіраўніцтва Асіповіцкага чыгуначнага вузла вусным парадкам, але строга і пад пагрозу дысцыплінарнага пакарання прадпісала ўсім працаўнікам падпісацца на наступныя паўгода на ведамасную газету “Железнодорожник Белоруссии”. Многія з работнікаў чыгуначнага вузла, вакзала і іншых службаў станцыі Асіповічы паміж сабою выказваюць неахвоту гэта рабіць, бо даводзіцца адразу развітвацца з 25-ю тысячамі рублёў. Справа ў тым, што да ведамаснай газеты ім яшчэ загадана

падпісацца і на “Советскую Белоруссию”. Падпіска на гэтыя выданні ў Асіповічах падоўжана да **18 чэрвеня**.

Мінскі гарвыканкам аформіў усім ветэранам Вялікай Айчыннай вайны, якія жывуць у сталіцы, бясплатную падпіску на вядучыя дзяржаўныя СМІ. Пра гэта **28 чэрвеня** паведаміў на прэс-канферэнцыі ў Мінску начальнік упраўлення культуры Мінгарвыканкаму Віктар Кураш, - перадае БелаПАН.

Паводле В. Кураша, падпіска праведзена за кошт гарвыканкама і адміністрацый раёнаў Мінска і з'яўляецца падарункам гарадскіх уладаў ветэранам да Дня незалежнасці Беларусі. Па звестках Мінгарвыканкама, у Мінску жыве больш за 13 тысяч ветэранаў вайны.

## Газету “Витебский курьер” пазбаўляюць памяшкання

Да **10 чэрвеня** рэдакцыі недзяржаўнай газеты прадпісалі пакінуць памяшканне ў будынку Культурніцка-дзелавога цэнтру Адкрытага акцыянернага таварыства “КІМ”. Між тым, паводле дамовы арэнды, газета мае права займаць яго да канца лістапада г.г. Як паведаміў ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” галоўны рэдактар выдання Уладзімір Базан, нядаўна будынак перайшоў у дзяржаўную ўласнасць.

## Падпісчыкаў на дзяржаўныя выданні будуць заахвочваць

Падпісная кампанія на другое паўгоддзе стала адной з асноўных тэмаў для абмеркавання на семінары ідэалагічных работнікаў Крычаўскага раёна, што адбыўся **ў траўні** пад кіраўніцтвам намесніка старшыні райвыканкама С.Марозава. Па ініцыятыве сп-ра Марозава на семінары выступіў начальнік раённага вузла паштовай сувязі І. Камарова і намеснік рэдактара раённай газеты “Ленінскі кліч” У.Далецкі, якія распавядалі пра выкананне задачы забяспечыць наклад газеты ў памеры не менш як 4,5 тыс. асобнікаў і наблізіць выданне да самаакупнасці. Паводле дакладчыкаў, заданне не выконваецца амаль напалову. Намеснік старшыні райвыканкама прадпісаў кожнаму калектыву неадкладна займець грамадскага распаўсюджвальніка друку, а кіраўніку паштовай службы – распрацаваць спосабы заахвочвання лепшых распаўсюджвальнікаў дзяржаўнай прэсы. Досведам правядзення падпіснай кампаніі на аснове матэрыяльнага заахвочвання падпісчыкаў прызамі і каштоўнымі падарункамі падзяліўся з ідэалагічнымі работнікамі раёна ўласны карэспандэнт газеты “Рэспубліка” У.Дубовік. А сп. Марозаў, падводзячы вынікі семінара, яшчэ раз падкрэсліў, што без дзяржаўнай прэсы немагчыма забяспечыць, а тым больш захаваць дзяржаўную стабільнасць і народнае адзінства.

## У Пінску ўзмацняюць дзяржаўныя СМІ

У Пінску **ў траўні** зарэгістравана новая дзяржаўная тэлерадыёкампанія “Пінск”, якая атрымала юрыдычны адрас і памяшканне пад офіс. Узначаліў тэлерадыёкампанію выпускнік Львоўскай ваенна-палітычнай вучэльні Віталь Іванчанка. Паводле яго словаў, ТРК “Пінск” будзе існаваць за кошт гарадскога бюджэту. Разам з тым, улады працягваюць настойваць на тым, каб займаемы на правах арэнды будынак пакінула незалежная тэлекампанія “Вараг”, якая працуе ў Пінску і раёне ўжо 10 гадоў і не карыстаецца падтрымкай уладаў. З пачаткам вяшчання тэлеканала “Пінск” мясцовыя ўлады будуць мець два моцных СМІ – газету “Пінскі веснік” (заснавальнікі - гарадскі савет дэпутатаў і гарвыканкам) і мясцовае тэлебачанне. З недзяржаўных СМІ ў Пінску выдаецца толькі газета “Мясцовы час”, якая дагэтуль друкуецца ў Баранавічах, бо Пінская рэгіянальная друкарня адмаўляе

выданню ў паслугах, спасылаючыся на перагружанасць тэхнікі.

**Недзяржаўных выданняў няма ў Каталогу сродкаў масавай інфармацыі Гродзеншчыны**

У каталогу "Средства массовой информации Гродненщины", выдадзеным упраўленнем ідэалагічнай работы Гродзенскага аблвыканкама да спецыялізаванай выставы "СМІ ў Беларусі", што праходзіла **3-6 траўня** ў Мінску, няма ніякіх звестак пра недзяржаўныя грамадска-палітычныя выданні Гродзеншчыны: у прыватнасці, пра газеты "Биржа информации", "Газета Слонімская", "Местная газета", "Новая газета Сморгони", "Тэлескоп", "Glos znad Niemna". Адказны за выпуск каталога начальнік адзела па працы з СМІ ўпраўлення ідэалагічнай работы аблвыканкама Мар'ян Максімонька паведаміў службе маніторынга ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў", што неўключэнне недзяржаўных выданняў у каталог было свядомым рашэннем ідэалагічнага ўпраўлення. Ва ўступным слове да каталога начальнік упраўлення ідэалагічнай работы аблвыканкама Уладзімір Амелька зазначыў, што галоўную задачу свайго ідэалагічнага ўпраўлення ён бачыць "у забеспячэнні выканання заканадаўства ўсімі ўдзельнікамі інфармацыйнага працэсу і ў стварэнні неабходных умоваў дзеля паўнавартаснага і ўсебаковага развіцця інфармацыйнай прасторы вобласці".

**30 крамаў Мінска адмовіліся прадаваць незалежныя выданні**

За апошні год 30 мінскіх крамаў адмовіліся браць на рэалізацыю недзяржаўныя выданні, сярод якіх "Белорусская деловая газета", "Белорусская газета", "Салідарнасць", - пра гэта **прыканцы красавіка** паведаміла "Белорусская деловая газета". Як высветліла выданне, прычынай сталі дзеянні наменікаў кіраўнікоў адміністрацый раёнаў па ідэалогіі. Яны спасылаюцца на рашэнне Мінскага гарвыканкама №2520 ад 9 снежня 2004 года, падпісанае першым намеснікам старшыні Мінгарвыканкаму Леанідам Анфімавым. Паводле дакумента, усім арганізацыям, што ажыццяўляюць раздробны продаж перыядычных выданяў (за выключэннем УП “Мінгарсаюздрук” і РУП “Белпошта”) прадпісана да 1 сакавіка гэтага года прадставіць асартыментны пералік тавараў, якія павінныя быць у продажы. Гэты пералік Мінгарвыканкам загадаў узгадняць з аддзеламі ідэалагічнай працы адміністрацый раёнаў г.Мінска.

Прымаючы рашэнне, Мінгарвыканкам спаслаўся на пастанову Савета Міністраў №384 ад 7 красавіка 2004 г. “Аб зацвярджэнні Правілаў ажыццяўлення раздробнага гандлю асобнымі відамі тавараў і грамадскага харчавання”. Аднак, як вынікае з афіцыйнага адказу Міністэрства гандлю, дадзенага на запыт ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў”, гандлёвыя арганізацыі і індывідуальныя прадпрымальнікі маюць права самастойна вызначаць асартымент тавараў для раздробнага гандлю (у тым ліку і друкаваных выданняў). Узгадняцца з мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі павінен толькі "асартыментны пералік" (так званы асартыментны мінімум) тавараў, што павінны быць у продажы пастаянна.

**Замежнаму капіталу не месца ў газетнай справе**

**14 красавіка** ў рэдакцыю газеты “Живая вода” (заснавальнік – Дзяржаўны канцэрн “Бедмеліавадгас”), якая выдаецца ў Пінску, прыбыў супрацоўнік Пінскага рэгіянальнага камітэту Дзяржкантролю і азнаёміў галоўнага рэдактара выдання Валянціну Наварыч з распараджэннем Адмінстрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Гаворка ў дакуменце ішла пра тое, што рэдакцыі газет, чыімі

заснавальнікамі выступаюць дзяржаўныя установы і арганізацыі, не павінныя мець сярод сваіх заснавальнікаў прыватных асобаў, індывідуальных прадпрымальнікаў і бізнэсоўцаў з удзелам замежнага капіталу. Згаданы дакумент рэдактару не пакінулі. Па просьбе супрацоўніка Дзяржкантролю, В.Наварыч падпісалася пад тым, што не будзе прыцягваць для выдання газеты азначаных асобаў і карыстацца замежнай спонсарскай дапамогай.

Таксама рэдактар газеты паведаміла кароткія звесткі пра сваё выданне з пазнакаю даты рэгістрацыі, перыядычнасці выхаду, тэматыкі ды пацвердзіла, што ні ў якіх іншых друкарнях, акрамя як у КУП "Пінская рэгіянальнай друкарня", падпарадкаваная Брэсцкаму аблвыканкаму, яе газета друкавацца не будзе.

**З ведамаснай падпіскі выключылі недзяржаўныя выданні**

Ідэалагічны аддзел Барысаўскага гарвыканкама **напачатку красавіка** распаўсюдзіў сярод прадпрыемстваў і арганізацый горада ліст, у якім забараняе весці ведамасную падпіску на мясцовыя недзяржаўныя выдання "Курьер из Борисова" і "Борисовские новости". На асобных прадпрыемствах, у прыватнасці, на Барысаўскім шпалапрапітным заводзе, адміністрацыя запатрабавала ад арганізатараў падпіскі кампенсаваць выдаткі на падпіску недзяржаўных выданнях з уласных сродкаў.

**Кантроль за распаўсюдам перыядычных выданняў у Брэсце будзе ўзмоцнены**

Пра гэта ішла гаворка падчас апошняга, **сакавіцкага**, пасяджэння Брэсцкага аблвыканкама, на якім разглядалася пытанне "Аб сістэме інфармацыйнага забеспячэння насельніцтва і мерах па ўпарадкаванню рознічнай сеткі па распаўсюду перыядычных выданняў на тэрыторыі горада". Як паведаміла начальнік ідэалагічнага аддзела гарвыканкама Зоя Ільюшонак, "не ўсе суб'екты гаспадарання, якія гандлююць перыядычнымі выданнямі, захоўваюць асартыментны пералік". У прыватнасці, гэта тычыцца рэалізацыі дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. У выпадку ігнаравання гэтых патрабаванняў, гарвыканкаму будзе прапанавана пазбавіць індывідуальных прадпрымальнікаў, што займаюцца такой дзейнасцю, дазволу на продаж перыядычных выданняў.

**Падаткавая інспекцыя аштрафавала выдаўца газеты "Вольны горад"**

**3 сакавіка** рэдактар і выдавец газеты "Вольны горад" Уладзімір Вярбовікаў быў выкліканы ў падаткавую інспекцыю Савецкага раёна г.Гомеля. Дзяржаўны падаткавы інспектар Алег Міраловіч паведаміў, што ён як індывідуальны прадпрымальнік, які выдае газету, аштрафаваны за няўплату падатку на дададзеную вартасць ў 2003 годзе на 500 тысяч рублёў (230 долараў ЗША). Выдавец спрабаваў давесці, што газета не выдаецца ўжо напрацягу 1,5 года з-за адсутнасці грошай, на што падаткавы інспектар зазначыў, што мог бы аштрафаваць і на 1,5 мільёны рублёў.

**Урад вызначыў пералік субсідаваных з бюджэта выданняў**

Савет Міністраў Беларусі **26 лютага** прыняў пастанову №209 "Аб фінансаванні ў 2005 годзе перыядычных выданняў". У пастанове аддадзенае распараджэнне выдзеліць субсідыі рэдакцыям перыядычных выданняў у межах сродкаў, прадугледжаных на гэтыя мэты рэспубліканскім бюджэтам. У зацверджаным пераліку атрымальнікаў дзяржаўнай дапамогі – 32 выданні, сярод якіх "Белорусская нива", "Бярозка", "Звязда", "Знамя юности", "Зорька", «Народная газета», «Переходный возраст» ды іншыя.

Бюджэтам на 2005 год прадугледжанае фінансаванне перыядычнага друку і выдавецтваў у памеры 12,7 млрд.рублёў. Усяго на фінансаванне СМІ ў 2005 годзе выдаткуецца 88 млрд.рублёў ($40,7 млн.) Для параўнання: леташнія выдаткі на СМІ з дзяржбюджэту склалі $29, 8 млн.

**Дырэктара зачыненай друкарні не выпускаюць за мяжу**

**25 лютага** суд Савецкага раёну г.Гомеля абмежаваў выезд за межы краіны былога дырэктара друкарні “Іосіфа і Адзеда” Юліі Марчанкі, дачкі былога кандыдата ў дэпутаты Таццяны Марчанкі. Ю.Марчанка была аштрафаваная на суму больш за 40 млн. рублёў (патрэбаю выплаты штрафу і матываваная забарона на выезд за мяжу). 2 снежня мінулага года суд Чыгуначнага раёну г.Гомеля пастанавіў аштрафаваць на 30 базавых велічынь (720 тысяч рублёў) друкарню “Іосіфа і Адзеда” і канфіскаваць яе абсталяванне. Падставай для судовага разгляду быў выраб пробнай партыі прадукцыі мэтадам шоўкаграфіі. Гэты від дзейнасці не быў пазначаны ў ліцэнзіі, атрыманай друкарняй.

**Мінгандаль дазваляе ўзгадняць толькі "асартыментны мінімум"**

Міністэрства гандлю РБ пацвердзіла, што гандлёвыя арганізацыі і індывідуальныя прадпрымальнікі маюць права самастойна вызначаць асартымент тавараў для раздробнага гандлю (у тым ліку і друкаваных выданняў). Узгадняцца з мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі павінен толькі "асартыментны пералік" (так званы асартыментны мінімум) тавараў, што павінны быць у продажы пастаянна. Пра гэта гаворыцца ў афіцыйным лісце першага намесніка міністра А. Іванкова, які ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" атрымала ў адказ на свой запыт ад **17 лютага**. Тым самым Міністэрства гандлю пацвердзіла, што прадпрымальнікі не павінныя ўзгадняць кожнае перыядычнае выданне, якое падаецца ў раздробным гандлі.

Запыт ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" тычыўся новых правіл, усталяваных некаторымі выканкамамі для прадаўцоў перыядычных выданняў. У некалькіх рэгіёнах Беларусі мясцовыя ўлады, спасылаючыся на пастанову Саўміна, прадпісалі прадпрымальнікам (арганізацыям), што гандлююць друкаванымі СМІ, узгадняць з імі "прылажэнні" да асартыментнага пераліку з падрабязнымі звесткамі пра кожнае з выданняў. ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" прасіла міністра гандлю патлумачыць, ці павінны прадпрымальнікі (арганізацыі) ўзгадняць з выканкамамі ўвесь асартымент тавараў альбо толькі асартыментны мінімум.

**Ідэолагі правяраюць асартымент перыядычных выданняў у рознічным гандлі**

Да **15 лютага** ўсе юрыдычныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі, якія гандлююць перыядычнымі выданнямі, павінныя падаць у раённыя і гарадскія выканаўчыя камітэты для ўзгаднення падрабязныя звесткі пра ўсе СМІ, якія яны прадаюць. Прадпісанне не тычыцца толькі унітарных прадпрыемстваў абласных прадпрыемстваў "Белсаюздруку" і "Белпошты".

У прыватнасці, пра гэта гаворыцца ў рашэнні Мінскага аблвыканкама ад 13 снежня мінулага года. Паводле гэтага дакумента, прадпрымальнікі (арганізацыі), якія ажыццяўляць рознічны гандаль перыёдыкай, павінныя падаць у ідэалагічны аддзел аблвыканкама не толькі падрабязныя звесткі пра сябе, але і адмысловае "прылажэнне да асартыментнага пераліку", указаўшы ў ім від, назву і тэматыку выдання, дзяржаву яго рэгістрацыі, дату і нумар пасведчання аб рэгістрацыі (і кім яно выдадзена), дату і нумар дамовы на распаўсюд, а для замежных выданняў (акрамя расійскіх) - дату і нумар дазволу Міністэрства інфармацыі на распаўсюд на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Прыкладна ў гэты ж час такія распараджэнні выпусцілі

структуры мясцовай вертыкалі ў іншых рэгіёнах.

Аблвыканкам прымаючы рашэнне, спаслаўся на пастанову Савета міністраў № 384 ад 7-га красавіка 2004 г., якая зацвердзіла новыя Правілы рознічнага гандлю асобнымі відамі тавараў. Паколькі гаворка ў пастанове ідзе пра асартыментны мінімум, які мусіць мець гандлёвае прадпрыемства, ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" звярнулася па тлумачэнні да міністра гандлю Рэспублікі Беларусь Аляксандра Кулічкова.

**Рэдактара недзяржаўнай газеты не пускаюць за мяжу**

Рэдактару недзяржаўнай газеты "Шклоўскія навіны" Аляксандру Шчарбаку **ў лютым** раённая пашпартна-візавая служба адмовілася аформіць дазвол на часовы выезд за мяжу. Нагодай для абмежавання сталі прэтэнзіі падаткавай інспекцыі да прыватнай фірмы "Сідлер і К", у якой А.Шчарбак 9 год таму працаваў выканаўчым дырэктарам. Ліквідаваная фірма засталася вінная бюджэту 8 тысяч рублёў (менш за 4 долары ЗША), якія і сталі прычынай нявыдачы дазволу.

**"Газету для вас" адмаўляецца распаўсюджваць Івацэвіцкі райпажыўсаюз**

Івацэвіцкі райспажыўсаюз адмовіўся ў **лютым** падпісаць з рэдакцыяй недзяржаўнага выдання "Газета для вас" дамову на продаж згаданага штодыднёвіка ў крамах гандлю і спажыўкааперацыі. Рэдактару газеты Лідзіі Цалуйка было заяўлена, што ніякай патрэбы прадаваць яе выданне ў крамах спажыўкааперацыі няма, каб не ствараць канкурэнцыі афіцыйнай раённай газеце "Івацэвіцкі веснік".

Як высветліла Л.Цалуйка, забарона на падпісанне дамовы сыходзіла ад намесніка старшыні Івацэвіцкага райвыканкама па ідэалагічнай працы Леаніда Скіндзера. Ён лічыць, што крамы горада і раёна павінныя прадаваць толькі дзяржаўныя газеты, якія адлюстроўстроўваюць афіцыйны пункт погляду ўладаў на падзеі ў раёне. Рэдакцыя "Газеты для вас" таксама атрымала адмову на распаўсюд праз сетку спажыўкааперацыі з Бярозы, Пружан і Драгічына, дзе яе прадавалі ў якасці рэгіянальнага выдання.

**За нізкі наклад пазбавілі прэміі**

**У студзені** 2005 г. увесь калектыў рэдакцыі Крычаўскай раённай газеты "Ленінскі кліч" (заснавальнік - Крычаўскі райвыканкам) загадам галоўнага рэдактара Таццяны Іўкінай на 100% пазбавілі прэміі за снежань мінулага года. Такім чынам работнікаў газеты пакаралі за тое, што рэдакцыя не здолела падвысіць з першага ж месяца новага года наклад свайго выдання амаль удвая (да 4 000 асобнікаў).
Гэткі паказчык вызначыў для газеты асабіста старшыня крычаўскага райвыканкама Іван Пракопаў. Ягоная павышаная ўвага да праблемаў раённай газеты, у сваю чаргу, выклікана тым, што "Ленінскі кліч" патрапіў у абласны спіс дзяржаўных газет (усяго такіх 5), якія павінны стаць самаакупнымі ўжо з вясны бягучага года. Усе гэтыя выданні папярэдзілі, што бюджэтнае ўтрыманне іх будзе зменшана, і што зарабляць трэба будзе самім. У прыватнасці, кожнаму супрацоўніку крычаўскай "раёнкі" загадалі "падпісаць" на яе не менш як па 100 чалавек.

**У Магілеве спынілі продаж "ARCHE"**

**26 студзеня** гандлёвае прадпрыемства "Магілёўкніга" вярнула грамадзкаму распаўсюдніку літаратуры А.Асіпцову нераспраданыя дагэтуль асобнікі часопіса "ARCHE". В. Асіпцоў выступае пасярэднікам паміж гэтым аб'яднаньнем і рэдакцыяй часопісу. Адначасна кіраўніцтва "Магілёўкнігі" абвесьціла, што ад гэтага часу ў аднабаковым парадку выходзіць з дамовы, якая была

падпісаная прадпрыемствам і рэдакцыяй на продаж часопісу ў магілёўскіх кнігарнях. Кіраўніцтва прадпрыемства кнігагандлю патлумачыла такое рашэнне нізкім попытам на часопіс, у якасці пацьверджання чаго вярнула распаўсюдніку некалькі нумараў часопісу яшчэ ад 2000 году.

У сваю чаргу А.Асіпцоў лічыць, што прадпрыемства найперш выконвае загад, які атрымала ад свайго сталічнага начальства. У 2004 годзе былі скасаваныя дамовы на распаўсюд часопіса праз сетку аб’яднанняў “Белкніга” і “Белсаюздрук”. Часопіс трапіў у няміласць пасля выдання адмысловага нумару, прысвечанага 10-годдзю прэзідэнцтва А.Лукашэнкі.

**Гродзенскім прадпрыемствам "не рэкамендуюць" размяшчаць рэкламу ў недзяржаўных медыях**

Упраўленне ідэалогіі Гродзенскага аблвыканкама даслала дзяржаўным прадпрыемствам і ўстановам горада лісты, у якіх "не рэкамендуе" ім размяшчаць рэкламу ў недзяржаўных газетах. Пра гэта ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" паведаміла **19 студзеня** журналіст прыватнага гродзенскага выдання "Биржа информации" Наталля Макушына.

Разам з "рэкамендаўчым лістом" прадпрыемствы Гродна атрымалі спіс дзяржустановаў, якія размяшчалі рэкламу ў недзяржаўных СМІ. У гэты пералік патрапілі, сярод іншых, Гродзенскі дзяржаўны універсітэт, малаказавод і мясакамбінат.

Начальнік упраўлення ідэалогіі Гродзенскага аблвыканкама Уладзімір Амелька заявіў Н. Макушынай, што дакумент накіраваны на падтрымку дзяржаўных СМІ і мае рэкамендаўчы характар, а прадпрыемства само будзе вызначаць, дзе размяшчаць рэкламу.

## Абмежаванне права на заснаванне СМІ.

Міністэрства інфармацыі скасавала рэгістрацыю газеты “Курьер из Борисова”
Перарэгістраваныя недзяржаўныя выданні
Выдаўца газеты "День" не хочуць рэгістраваць па новым юрыдычным адрасе
Міністэрства інфармацыі нагадвае пра патрэбу перарэгістрацыі «Новой газеты Сморгони»

### Міністэрства інфармацыі скасавала рэгістрацыю газеты “Курьер из Борисова”

**24 кастрычніка** Міністэрства інфармацыі выдала загад аб прызнанні несапраўдным пасведчання аб рэгістрацыі недзяржаўнай газеты “Курьер из Борисова”.

У загадзе гаворыцца, што пасведчанне прызнана несапраўдным на падставе рашэння Гаспадарчага суда Мінскай вобласці і выпіскі з пратакола ліквідацыйнай камісіі ТДА “Пресс-сервис” ад 28 верасня. Загад падпісала першая намесніца міністра інфармацыі Лілія Ананіч.

**24 жніўня** гаспадарчы суд Мінскай вобласці задаволіў зыск Мінскага аблвыканкама аб ліквідацыі ТДА "Пресс-сервис", якое выступае заснавальнікам газеты "Курьер из Борисова". Прадпрыемства павінна быць ліквідавана да 1 студзеня наступнага года.

Зыск аб прызнанні несапраўднай рэгістрацыі таварыства ў сувязі з дапушчанымі пры рэгістрацыі грубымі парушэннямі Мінаблвыканкам падаў 17 чэрвеня. Сутнасць заўважаных Мінаблвыканкамам парушэнняў - у тым, што ў статуце "Пресс-сервис" не былі адзначаныя мэты і задачы выдаванага ім сродку масавай інфармацыі ("Курьера из Борисова"), правы працоўнага калектыва і іншыя палажэнні, якія, згодна з законам, павінныя быць у статуце рэдакцыі СМІ.

ТДА "Пресс-сервис" зыску не прызнаў, заявіўшы, што ў момант рэгістрацыі таварыства функцыі рэдакцыі "Курьера из Борисова" выконвала іншая юрыдычная асоба і, адпаведна, у статуце ТДА і не павінныя быць адлюстраваныя гэтыя моманты.

Суддзя Тамара Бенчук прыняла пазіцыю аблвыканкама і вырашыла прызнаць несапраўднай рэгістрацыю "Пресс-сервис", прызначыць ліквідацыйную камісію і зліквідаваць прадпрыемства да 1 студзеня 2006 г. З моманту ўступлення рашэння ў законную сілу функцыі кіраўніка таварыства пяройдуць да кіраўніка ліквідацыйнай камісіі. (Звяртае на сябе ўвагу той факт, што кіраўнікем ліквідацыйнай камісіі суб'екта гаспадарання суд прызначыў начальніка ўпраўлення ідэалагічнай працы Мінаблвыканкама). Адказнікі маюць магчымасць напрацягу 15 дзён абскардзіць гэтае рашэнне ў апеляцыйную інстанцыю Мінскага абласнога гаспадарчага суда.

Акрамя гэтага, **15 жніўня** Міністэрства інфармацыі вынесла рэдакцыі "Курьер из Борисова" папярэджанне. Рэдакцыю звінавачваюць у парушэнні арт. 30 Закона РБ "Аб друку і іншых СМІ" шляхам апублікавання рэкламных абвестак пра ліцэнзаваную дзейнасць без пацверджання рэкламадаўцам права на ажыццяўленне такой дзейнасці. Акрамя гэтага, выданню інкрымінуюць парушэнне некалькіх палажэнняў ГОСТ (размяшчэнне імя рэдактара ен над выпускнымі дадзенымі) і ОСТ (выкарыстанне шрыфтоў кегля менш за 6 пунктаў). Папярэджанне падпісала першая намесніца міністра інфармацыі Лілія Ананіч.

**Перарэгістраваныя недзяржаўныя выданні**

**31 жніўня** Міністэрства інфармацыі Белерусі выдала пасведчанне аб рэгістрацыі інфармацыйна-аналітычнаму штотыднёвіку "БелГазета" (ранейшая назва выдання "Белорусская газета"). Таксама пад новай назвай **2 верасня** была зарэгістраваная «Белорусская деловая газета»: цяпер яна выдаецца пад імем «БДГ. Деловая газета». Сярод перайменаваных таксама тыднёвік "Белорусы и рынок" (ранейшая назва "Белорусский рынок"), "Экономическая газета" ("Национальная экономическая газета"). Нагадаем, што паводле указу А.Лукашэнкі "Аб дадатковых захадах па ўпарадкаванні выкарыстання словаў "нацыянальны" і "беларускі", азначэнні “беларускі” і “нацыянальны” могуць выкарыстоўваць у сваіх назвах толькі дзяржаўныя ўстановы і сродкі масавай інфармацыі.

**Выдаўца газеты "День" не хочуць рэгістраваць па новым юрыдычным адрасе**

Упраўленне рэгістрацыі і ліцэнзавання Мінгарвыканкаму адмаўляецца рэгістраваць змяненні ў Статуце прадпрыемства ТДА "Деньпресс", якое з'яўляецца выдаўцом газеты "День". Гэта вынікае з ліста, які падпісаў **16 чэрвеня** начальнік упраўлення А. Тутыкін. Змяненні тычыліся новага юрыдычнага адрасу, які гатовы быў прадаставіць выдаўцам "Дня" мінскі Дом польскі. Паводле ліста з Мінгарвыканкама, сталічныя ўлады прынялі такое рашэнне на падставе інфармацыі, атрыманай ад кіраўніка Мінскага абласнога аддзела Саюзу палякаў Канстанціна Тарасевіча. Ён нібыта паведаміў ім, што "дамова... аб прадастаўленні памяшкання пад офіс прызнана несапраўднай". Аднак у гутарцы з Радыё "Свабода" К. Тарасевіч запэўніў, што ў Мінгарвыканкаме яму паказалі ліст з Міністэрства юстыцыі аб прызнанні нелегітымнымі органаў Саюзу палякаў і заявілі, што ён павінен скасаваць дамову з Маркевічам. Сп. Тарасевіч склаў дакумент, дзе гаворыцца, што дамова аб арэндзе пачне выконвацца пасля ўзгаднення з легітымным кіраўніцтвам СПБ, - паведаміла "Свабода". Кіраўнік ТДА “Деньпресс” Мікола Маркевіч лічыць дзеянні Мінгарвыканкама незаконнымі і заяўляе, што прызнаць дамову арэнды несапраўднай можа толькі суд. Ён расцэньвае гэта як спробу перашкодзіць законнай дзейнасці легальна зарэгістраванага сродку масавай інфармацыі.

**Міністэрства інфармацыі нагадвае пра патрэбу перарэгістрацыі «Новой газеты Сморгони»**

**21 студзеня** рэдакцыя «Новой газеты Сморгони» атрымала загад №7 Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Дакумент, датаваны 14 снежня 2004 г., нагадвае пра страту моцы пасведчаннем аб рэгістрацыі «Новой газеты Сморгони», паколькі яна двойчы яе выхад прыпыняўся за парушэнне заканадаўства аб друку (2 кастрычніка 2003 г. і 16 жніўня 2004 г.) Выдавец газеты Рамуальд Улан разглядае загад як чарговы напамін пра патрэбу ўзгаднення размяшчэння выдання, для чаго патрэбная згода мясцовых уладаў.

Старшыня Смаргонскага райвыканкаму Мечыслаў Гой адказаў адмоваю на запыт заснавальніка «Новой газеты Сморгони», Рамуальда Улана аб узгадненні размяшчэння выдання. Р. Улан накіраваў **3 студзеня** скаргу ў раённы выканаўчы камітэт. У ёй ён звяртае ўвагу выканаўчага органа на адсутнасць падставаў для адмовы ў размяшчэнні выдання. Атрыманую адмову выдавец разглядае як абмежаванне канстытуцыйнага права на свабоду распаўсюду інфармацыі.

Гэта ўжо друкая адмова, атрыманая выдаўцом ад смаргонскіх уладаў за апошні час. Мінулым разам яе зрабіў папярэдні старшыня райвыканкаму

С.Юргель – яна была абскарджаная ў гаспадарчым судзе Гродзенскай вобласці: суд вынес прыватнае азначэнне на адрас Смаргонскага райвыканкама, указаўшы на няправільнае афармленне дакументаў. Памянёнага ўзгаднення «Новая газета Сморгони» ня можа атрымаць пачынаючы з кастрычніка 2004 г.

## Перашкаджэнне ў вырабе прадукцыі СМІ

"Glos znad Niemna" можа зладзіць акцыю пратэсту
"Glos znad Niemna" не выйшаў
Міліцыя канфіскавала кампутары газеты “Згода”
У Пінску адмаўляюцца друкаваць “Мясцовы час”

### "Glos znad Niemna" можа зладзіць акцыю пратэсту

Рэдакцыя газеты "Glos znad Niemna" **3 ліпеня** плануе зладзіць вулічную акцыю пратэсту ў выпадку, калі не спыніцца выхад выдання, да якога не маюць дачынення ні рэдакцыя, ні выдавец (Саюз палякаў на Беларусі). Пра гэта паведаміў ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" выканаўца абавязкаў галоўнага рэдактара выдання Анджэй Пісальнік. Па яго словах, цяпер газету "Glos znad Niemna", нягледзячы на адсутнасць суправаджальных дакументаў, распаўсюджвае не толькі УП "Гроднааблпошта", але і кіёскі прадпрыемства "Белсаюздрук", якое раней адмаўлялася гэта рабіць.

Па інфармацыі А. Пісальніка, у кіёсках дагэтуль не атрымалі ніякіх папераў, якія пацвярджалі б права газеты на распаўсюд. Тым не менш, выданне прадаецца: галоўны рэдактар лічыць, што адпаведнае ўказанне паступіла з Гродзенскага аблвыканкама. 28 чэрвеня А. Пісальнік патэлефанаваў намесніку старшыні ўпраўлення па ідэалогіі Гродзенскага аблвыканкаму Паўлу Скабко і папярэдзіў пра намер рэдакцыі зладзіць у горадзе вулічную акцыю пратэсту падчас святкавання "афіцыйнага" Дня незалежнасці. "Мы хочам, каб як мага больш гарадзенцаў даведалася, што адбываецца з Сюзам палякаў і з нашай газетай", - кажа А. Пісальнік.

23 чэрвеня Гродзенская друкарня выпусціла ўжо трэці па ліку нумар газеты, да якога не мелі дачынення ні выдавец, ні рэдакцыя. Па інфармацыі Анджэя Пісальніка, дырэктар друкарні Пётр Мітрафанаў выпусціў газету на патрабаванне былога кіраўніка Саюзу палякаў Тадэвуша Кручкоўскага. Пасля з'яўлення 10 чэрвеня першага нумару, выпушчанага без удзелу рэдакцыйнага калектыву і выдаўца, А, Пісальнік неаднаразова звяртаўся ў міліцыю і пракуратуру з просьбай "садзейнічаць у высвятленні абставін, пры якіх была здзейснена правакацыя". 23 чэрвеня БАЖ таксама звярнуўся да шэрагу дзяржаўных установаў з просьбай разабрацца ў сітуацыі, што склалася вакол газеты.

### "Glos znad Niemna" не выйшаў

**1 чэрвеня** скончыўся апошні тэрмін здачы ў вытворчасць газеты Саюза палякаў Беларусі (СПБ) "Glos znad Niemna", якая павінна была аднавіць выхад пасля некалькіх тыдняў перапынку. Два тыдні таму дырэктар гродзенскай друкарні Пётр Міронаў паабяцаў намесніку старшыні СПБ Юзафу Пажэцкаму і галоўнаму рэдактару газеты "Glos znad Niemna" назваць канкрэтныя прычыны невыканання падпісанай гродзенскай друкарняй дамовы. Газета павінна была аднавіць выхад 26 траўня, аднак паліграфічнае прадпрыемства "Гродзенская друкарня" адмаўляецца прымаць выданне ў друк, спасылаючыся на нейкую запазычанасць рэдакцыі. Пра гэта ў інтэрв'ю БелаПАН паведаміў выканаўца абавязкаў галоўнага рэдактара выдання Анджэй Пісальнік. Па словах А. Пісальніка, рэдакцыя не можа высветліць, пра якую запазычанасць ідзе гаворка, паколькі кіраўніцтва друкарні ўвесь час спасылаецца на вялікую занятасць. Сп. Пісальнік мяркуе, што гэта робіцца свядома, каб не дапусціць з'яўлення

чарговага нумару выдання. Галоўным матэрыялам нумару, які павінен быў выйсці накладам 5 тысяч асобнікаў, было інтэрв'ю са старшынёй Саюза палякаў Беларусі (СПБ) Анжалікай Борыс, якая тлумачыла чытачам сітуацыю, якая склалася вакол арганізацыі апошнім часам. У нумары таксама планавалася апублікаваць рэагаванні сябраў аб'яднання і грамадскасці Польшчы на становішча ў СПБ.

Рашэнне аб прыпыненні выхаду газеты было агучана **6 траўня** на Галоўным праўленні "Саюза палякаў". Падставай для гэткага кроку стала рашэнне суда Ленінскага раёна Гродна, які прызнаў незаконным звальненне з пасады былога галоўнага рэдактара выдання Андрэя Дубікоўскага. Сп. Дубікоўскі быў звольнены ў сярэдзіне красавіка рашэннем Рады Саюза палякаў на Беларусі.

**Міліцыя канфіскавала кампутары газеты "Згода"**

**24 сакавіка** прадстаўнікі Партызанскага РУУС г.Мінска правялі агляд памяшкання, якое займае рэдакцыя недзяржаўнай газеты "Згода". Патрэба агляду была патлумачаная заявай суседзяў пра тое, што там, нібыта, рыхтуюць друкаваную прадукцыю. За час 3-гадзіннага агляду былі канфіскаваныя 17 друкаваных калажаў і 4 сістэмныя блокі кампутара. На патрабаванне супрацоўніка рэдакцыі А.Сдвіжкова даць яму копію пратакола агляду памяшкання, супрацоўнікі міліцыі адказалі адмоваю. Падчас агляду памяшкання прысутным там журналістам не дазвалялі размаўляць па тэлефоне. Галоўны рэдактар газеты "Згода" быў запрошаны для размовы ў Партызанскае РУУС г.Мінска, дзе яму далі абяцанне разабрацца ў сітуацыі. Выхад чарговага нумару газеты "Згода" быў сарваны.

**У Пінску адмаўляюцца друкаваць "Мясцовы час"**

КУП "Пінская рэгіянальная друкарня" ў **канцы студзеня** чарговы раз адмовіла недзяржаўнай газеце "Мясцовы час" друкавацца ў Пінску. Рэдацыя выдання, якое працуе другі год, размяшчаецца ў Пінску. Аднак, друкавацца яно вымушанае за 160 км ў Баранавічах, што выклікае дадатковыя транспартныя выдаткі. Забарону на друк у Пінску аддаў былы кіраўнік пінскага гарвыканакаму В.Шуст. Пасля яго зыходу з пасады рэдактар газеты Віктар Ярашук дамовіўся з дырэктарам КУП "Піская рэгіянальная друкарня" Аляксандрам Пракопавым пра тое, што "Мясцовы час" будзе друкавацца ў Пінску. Але пасля паездкі ў Міністэрства інфармацыі А.Пракопаў адмовіўся ад сваіх словаў, маўляў, яму параілі не адбіраць працу ў баранавіцкіх друкароў.

## Перашкаджэнне ў распаўсюдзе прадукцыі СМІ

У Гродне затрыманы распаўсюднік незалежных выданняў
У Ваўкавыску канфіскавалі «Местную газету»
Міліцыя затрымала распаўсюдніцу газеты "Товарищ"
Гродзенская міліцыя затрымала 3400 асобнікаў "Народнай волі"
Навучэнец ліцэю затрыманы за распаўсюд раскладу тэлеканалу Euronews
Прафсаюзны актывіст затрыманы за распаўсюд "Народнай волі"
Чарговая забарона для "Местнай газеты"
Пошта памылілася не на карысць недзяржаўнага выдання
Газеце "Мясцовы час" не дазволілі адсвяткаваць выхад юбілейнага нумару
Арганізацыя "Рэпарцёры без межаў" абураная пераследам аўтараў інтэрнтэт-мультфільмаў
Пракуратура адхіліла зварот галоўнага рэдактара «Борисовских новостей»
Гомельская "вертыкаль" хоча ведаць, якімі газетамі і часопісамі гандлююць прыватнікі
Улады хочуць "выжыць" "Курьер из Борисова"?
Газету "День" не пускаюць да чытача
У Івацэвічах прадаўцы кіёскаў хаваюць недзяржаўныя газеты
Барысаўскія ўлады "выжываюць" недзяржаўную прэсу
У Воршы за распаўсюд бюлетэня затрыманы студэнт
Суд спыніў адміністратыўную справу ў дачыненні да распаўсюднікаў газеты
У Віцебску адмовіліся прадаваць часопіс "ARCHE"
«Местную газету» забаранілі распаўсюджваць
С.Касцюковіч папярэджаны за распаўсюд інфармацыйнага бюлетэня
За распаўсюд прафсаюзнай газеты аштрафаваны жыхар Гродна
"Біржу інфармацыі" адмаўляюцца распаўсюджваць у Скідзелі
А.Залескую і А.Цурпакова затрымалі за распаўсюд зарэгістраванай газеты

### У Гродне затрыманы распаўсюднік незалежных выданняў

**13 лістапада** на Цэнтральным рынку г.Гродна быў затрыманы Уладзімір Леванеўскі, сын кіраўніка незарэгістраванага Страйкавага камітэту прадпрымальнікаў Валерыя Леванеўскага. У затрыманага была канфіскаваная друкаваная прадукцыя: больш за 300 асобнікаў інфармацыйнага бюлетэня "Прадпрымальнік", 113 асобнікаў газеты «Биржа информации», а таксама ўлёткі. Супрацоўнікі міліцыі патлумачылі, што друкаваная прадукцыя магла быць выпрабленая з парушэннем дзейнага заканадаўства, таму яе канфіскавалі для правядзення экспертызы. Праз дзве гадзіны пасля затрымання У.Леванеўскі быў вызвалены. Пратакол затрымання не складалі.

### У Ваўкавыску канфіскавалі «Местную газету»

**10 лістапада** ў Ваўкавыску на вуліцы была затрымана распаўсюджвальніца нумару недзяржаўнай "Местной газеты" Маргарыта Макавецкая. На жанчыну склалі пратакол і даставілі ў суд, дзе аштрафавалі на 10 тысяч рублёў за гандаль газетай у неналежным месцы. У яе сканфіскавалі 400 асобнікаў газеты. Адным з матэрыялаў памянёнага нумару "Местной газеты" быў артыкул, прысвечаны галадоўцы арыштаванага ваўкавыскага прадпрымальніка Мікалая Аўтуховіча.

### Міліцыя затрымала распаўсюдніцу газеты "Товарищ"

Супрацоўнікі гомельскай міліцыі канфіскавалі 72 асобнікі газеты "Товарищ" у грамадскага распаўсюдніка Марыны Багдановіч. **7 лістапада** на

плошчы Леніна М.Багдановіч бясплатна раздавала газету з укладзенай у яе ўлёткай аб праблемах жылёва-камунальнай гаспадаркі. Прыблізна у 11 гадзін яе затрымалі міліцыянты і даставалі ў апорны пункт, дзе ўзялі тлумачэнні. Праз 2 гадзіны распаўсюдніцу газеты адпусцілі, канфіскаваўшы ўсе асобнікі выданнння. Прадстаўнікі праваахоўных органаў не складалі пратаколу, спаслаўшыся на тое, што ён будзе складзены ў іншым месцы.

**Гродзенская міліцыя затрымала 3400 асобнікаў "Народнай волі"**

Увечары **31 кастрычніка** супрацоўнікі міліцыі затрымалі машыну з трыма прадстаўнікамі Гродзенскай абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі, якія перавозілі 3 400 асобнікаў газеты "Народная воля". Прадстаўнікі праваахоўных органаў прагледзелі выходныя дадзеныя газеты, сфатаграфавалі салон і багажнік машыны, склалі пратакол агляду аўтамабіля і прапанавалі сябрам АГП праехаць з імі у Гродзенскае РАУС. Там быў складзены пратакол выняцця накладу "Народнай волі". Пасля гэтага прадстаўнікоў АГП адпусцілі, заявіўшы, што аддадуць газеты толькі пасля прад'яўлення прадстаўнікамі АГП таварна-транспартных накладных і дамовы паміж рэдакцыяй і АГП на распаўсюд выдання. Сябры АГП акцэнтуюць увагу на тым, што газеты былі прызначаныя для бясплатнага распаўсюду, пра што сведчыў штамп на кожным з асобнікаў: "Для рэкламных мэтаў".

Раніцай **3 лістапада** наклад быў вернуты: старшыня гарадзкой суполкі АГП Юры Істомін прадставіў у Гарадзенскі райаддзел міліцыі дамову паміж рэдакцыяй і партыяй пра бясплатны распаўсюд газеты на тэрыторыі краіны.

**25 кастрычніка** ў Мінску за распаўсюд чарговага нумару незалежнай газеты "Народная воля" былі затрыманыя сябры "Моладзі БНФ" Павел Батуеў і Алесь Мазанік. Супрацоўнікі міліцыі даставілі затрыманых у РУУС Цэнтральнага раёну сталіцы. Ніякіх абвінавачванняў ім не вылучалі, затрыманых знялі на відэакамеру, а таксама забраліў іх усе асобнікі газеты.

Паводле беларускага заканадаўства, распаўсюд зарэгістраванага выдання не ёсць правапарушэннем. Зарэгістраванае ў законным парадку выданне можа распаўсюджвацца ў тым ліку і бясплатна. Пасля скасавання ад 1 кастрычніка дамовы на распаўсюд выдання “Белсаюздрукам”, 16 тысяч асобнікаў газеты распаўсюджваецца па падпісцы і ячшэ 11 тысяч раздаецца бясплатна.

**Навучэнец ліцэю затрыманы за распаўсюд раскладу тэлеканалу Euronews**

19-гадовы сябра грамадскай ініцыятывы “За чысты Барысаў” Андрэй Маласай быў затрыманы міліцыяй падчас распаўсюду раскладу беларускіх праграм тэлеканалу Euronews. У яго былі канфіскаваныя 330 асобнікаў раскладу праграмы. А.Маласай быў дастаўлены ў ГАУС, дзе ў яго былі ўзятыя паказанні, знятыя адбіткі пальцаў, а таксама праведзеныя здымкі на відэастужку. На наступны дзень справу А.Маласая разглядала адміністрацыя навучальнай установы – у выпадку працягу грамадскай дзейнасці яму пагражае выключэнне з Барысаўскага прафесійнага экалагічнага ліцэя.

Тэлеканал Euronews зрабіў серыю праграм, у якіх прадстаўнікі беларускіх грамадскіх арганізацый распавядаюць пра становішча ў асяродку недзяржаўных грамадскіх арганізацый ды ініцыятыў. Праграмы дэманструюцца з **30 верасня па 6 кастрычніка**. Тэлеканал Euronews уваходзіць у пакет праграм некаторых беларускіх аператараў кабельнага тэлебачання, таксама яго мугуць глядзець уладальнікі спадарожнікавых тэлепрыёмнікаў.

## Прафсаюзны актывіст затрыманы за распаўсюд “Народнай волі”

**7 кастрычніка** ў Гродна каля прахадной завода аўтаагрэгатаў міліцыя затрымала прафсаюзнага актывіста, пазаштатнага карэспандэнта газеты “Салідарнасць” Івана Романа, які раздаваў рабочым газету “Народная воля”. І.Роман паспеў раздаць 150 асобнікаў выдання за 5 кастрычніка, у якім расказвалася аб праведзеным у Мінску Кангрэсе дэмакратычных сіл. Пазней прафсаюзнага актывіста адвезлі ў міліцыю, дзе на яго склалі пратакол аб распаўсюдзе газэты “Народная Воля” і пратакол агляду яго асабістых рэчаў, пасля чаго адпусцілі.

## Чарговая забарона для "Местной газеты"

**У верасні** Ваўкавыскі райвыканкам забараніў прадаваць "Местную газету" ў 18 прыватных шапіках на тэрыторыі гораду. Падставай для забароны стала неадпаведнасць асартыментнаму пераліку. Выдавец і галоўны рэдактар выдання Андрэй Шантаровіч мяркуе, што сапраўднай прычынай забароны стала публікацыя першага артыкулу журналісцкага расследвання пра карупцыю ў кіраўніцтве падаткавай сістэмы раёну. Паводле прыблізных ацэнак, у выніку забароны на продаж наклад "Местной газеты" скараціцца на 600 асобнікаў. А ўвогуле, з красавіка ён зменшыўся з 8 да 5 тысяч экзэмпляраў. Такія наступствы мела блакаванне рахунку рэдакцыі, дарагі кошт дастаўкі са Смаленскай друкарні, дзе друкуецца газета, і шэраг іншых мер, прынятых да выдання.

## Пошта памылілася не на карысць недзяржаўнага выдання

Жыхарка горада Барысава (яе прозвішча і адрас вядомае рэдакцыі) падпісалася на недзяржаўную газету “Борисовские новости”. У падпісной квітанцыі яна пазначыла свой адрас і індэкс выдання. Аднак пошта пачала дастаўляць ёй газету “Адзінства” (афіцыйнае выданне Барысаўскага райвыканкаму). Каб высветліць недарэчнасць, рэдактар “Борисовских новостей” Анатоль Букас патэлефанаваў на пошту, дзе даведаўся, што ў дастававчнай картцы на яго выданне выкрасленая газета “Борисовские новости” разам з індэксам, а замест яе ўнесеная газета “Адзінства”. На прапанову патлумачыць сітуацыю, начальнік вузла паштовай сувязі паведаміў, што, маўляў, памыліліся на пошце. Факт такой памылкі А.Букас агучыў на паседжанні “круглага стала” "Перспектывы развіцця сродкаў масавай інфармацыі ў Беларусі", праведзенага ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" сумесна з прадстаўніцтвам Фонда імя Ф. Эберта ў Беларусі **16 верасня**.

## Газеце "Мясцовы час" не дазволілі адсвяткаваць выхад юбілейнага нумару

Пінскі гарвыканкам не дазволіў недзяржаўнай газеце "Мясцовы час" правесці канцэрт з нагоды выхаду 100-га нумару выдання. Канцэрт з удзелам пінскіх бардаў планавалася правесці **21 жніўня** ў гарадскім парку культуры і адпачынку. Папярэдняя вусная дамоўленасць пра гэта была дасягнута са старшынём Пінскага гарадскога выканаўчага камітэту Аляксандрам Гордзічам, які запэўніў рэдактара "Мясцовага часу" Віктара Ярашука, што канцэрт будзе праведзены і што "тут няма ніякіх праблем". Нягледзячы на гэта, у афіцыйным лісце за подпісам намесніка старшыні гарвыканкаму Аляксандра Канеўскага было сказана, што гарвыканкам не дае згоды на правядзенне "рэкламнай акцыі выдання".

Напярэдадні выхаду 100-га нумару ў рэдакцыі "Мясцовага часу" з'явіліся праблемы і з распаўсюдам газеты. Індывідуальныя распаўсюднікі перыядычных выданняў перасталі браць газету для продажу ў найбольш шматлюдных месцах горада, спасылаючыся на папярэджанні з гарвыканкаму пра магчымыя непрыемнасці. Па вусным распараджэнні гарвыканкама газета "Мясцовы час" не прадаецца ў гарадскіх кіёсках "Белсаюздруку". Марнаю была і

спроба рэдактара "Мясцовага часу" Віктара Ярашука размесціць анонсы матэрыялаў газеты на мясцовым радыё на правах рэкламы. 17 жніўня В. Ярашук аднёс заяўку на радыё, а 19 жніўня матэрыялы даслалі назад з кароткім рэзюмэ дырэктара раённага вузла электрычнай сувязі Мікалая Рабкаўца: "Вярнуць".

## Арганізацыя "Рэпарцёры без межаў" абураная пераследам аўтараў інтэрнтэт-мультфільмаў

Уплывовая міжнародная арганізацыя "Рэпарцёры без межаў" **18 жніўня** выступіла з асуджэннем дзеянняў беларускіх праваахоўных органаў у дачыненні да маладых сябраў грамадзянскай ініцыятывы "Трэці шлях", якія з'яўляюцца аўтарамі сатырычных мультфільмаў, што распаўсюджваліся праз інтэрнэт. "Гэты пераслед - толькі чарговы прыклад аўтарытарызму, які валадарыць у Беларусі", - заявілі "Рэпарцёры". "Любы сарказм альбо крытыка ўладаў жорстка караюцца. А апошнія гады тры журналісты ўжо былі асуджаныя на турэмнае зняволенне за "знявагу прэзідэнта", і недапушчальна, каб маладых карыстальнікаў Інтэрнэту напаткаў такі самы лёс", - лічаць "Рэпарцёры без межаў". Пракуратура г. Мінска ўзбудзіла крымінальную справу па факце распаўсюду ў інтэрнэце мультфільмаў, якія, на думку следчых, зневажаюць гонар і годнасць Прэзідэнта РБ. 16 жніўня ў якасці сведкаў па справе былі дапытаныя адміністратар сайту Андрэй Абузаў і каардынатар сайту **http://mult.3dway.org** Павел Марозаў. Супрацоўнікі КДБ правялі ў іх кватэрах ператрус, забраўшы 12 адзінак кампутарнай тэхнікі, на якой маглі быць выраблены мультфільмы. У пракуратуры не выключаюць, што актывісты "Трэцяга шляху" могуць са сведкаў ператварыцца ў абвінавачаных; у гэтым выпадку ім можа пагражаць да 5 гадоў турэмнага зняволення, у адпаведнасці з арт. 367 Крымінальнага Кодэксу.

## Пракуратура адхіліла зварот галоўнага рэдактара «Борисовских новостей»

Пракуратура г. Барысава не задаволіла зварот галоўнага рэдактара газеты "Борисовские новости" Анатоля Букаса, які прасіў разабрацца з выпадкамі незаконнага чынення перашкодаў у распаўсюдзе яго выдання. У звароце, які А. Букас накіраваў у пракуратуру **26 ліпеня**, ён выказаў меркаванне, што работнікі Барысаўскага выканкама Валянціна Шутко і Наталля Касперская наўмысна перашкаджаюць продажу яго выдання праз сетку гарадскога раздробнага гандлю.

Па інфармацыі заснавальніка і галоўнага рэдактара выдання, у сярэдзіне ліпеня спн. Шутко асабіста загадала прыбраць"Борисовские новости" з прылаўка аднаго з гандлёвых павільёнаў на вул. Чкалаўскай з-за таго, што выданне не было ўнесена ў асартыментны пералік. Падобныя парушэнні, на думку А. Букаса, дапусціла і загадчыца ўпраўлення гандлю гарвыканкама В. Касперская, якая забараніла продаж яго газеты ў краме "Ваяж" і павільёнах некалькіх індывідуальных прадпрымальнікаў (іх імёны і каардынаты А. Букас пералічыў у сваім звароце ў пракуратуру). Па інфармацыі галоўнага рэдактара, продаж "Борисовских новостей" забаронены ва ўніверсаме "Нормандия-Неман", у Барысаўскім РА "Минаблсаюздрук", у паштовых аддзяленнях г. Барысава і іншых месцах.

У адказе, падпісаным пракурорам г. Барысава В. Шпакоўскім, гаворыцца, што "ўказаныя асобы не пацвердзілі абставінаў, выкладзеных у звароце", і "якіх-кольвек іншых доказаў парушэння заканадаўства ў ходзе праверкі не здабыта". У выпадку нязгоды А.Букасу прапанавана абскардзіць ліст у пракуратуру Мінскай вобласці альбо суд.

### Гомельская "вертыкаль" хоча ведаць, якімі газетамі і часопісамі гандлююць прыватнікі

Гомельскі гарвыканкам прадпісаў усім юрыдычным асобам і прадпрымальнікам, якія прадаюць друкаваныя выданні, прайсці "пераўзгадненне" іх асартыментнага пераліку. На гэтую працэдуру быў адпушчаны месяц; тэрмін "пераўзгаднення" скончыўся 1 ліпеня**.**

**30 чэрвеня** газета "Гомельские ведомости" (заснавальнікі - Гомельскі гарвыканкам і гарадскі Савет дэпутатаў) апублікавала ад імя аддзелу ідэалагічнай работы гарвыканкама нататку "Не опоздайте!". У ёй гаворыцца, што "ў адпаведнасці з рашэннем Гомельскага выканаўчага камітэта №446 ад 01.06.2005 г. "Аб упарадкаванні раздробнага гандлю перыядычнымі друкаванымі выданнямі ў г. Гомелі" ўсім юрыдычным асобам і індывідуальным прадпрымальнікам, якія займаюцца рэалізацыяй друкаванай прадукцыі на тэрыторыі горада, неабходна ў тэрмін да 01.07.2005 правесці пераўзгадненне асартыментнага пераліку рэалізуемай прадукцыі з упраўленнем гандлю і паслугаў гарвыканкама".

Гэта ўжо не першы крок уладаў, які сведчыць пра іх імкненне кантраляваць распаўсюд друкаванай прадукцыі і ўскладніць працу тых, хто ім займаецца. У канцы мінулага года ў некалькіх рэгіёнах Беларусі мясцовыя ўлады прадпісалі прадпрымальнікам (арганізацыям), што гандлююць друкаванымі СМІ, узгадняць з імі "дадаткі" да асартыментнага пераліку з падрабязнымі звесткамі пра кожнае з выданняў.

Акрамя гэтага, указам А. Лукашэнкі ад 18 чэрвеня г.г. №285 "Аб некаторых захадах па рэгуляванні прадпрымальніцкай дзейнасці" зменены ўмовы рознічнага гандлю друкаванымі выданнямі. Цяпер прадпрымальнік, які прадае газеты і часопісы, абавязаны будзе плаціць не адзіны, "спрошчаны", падатак, а перайсці на звычайнае падаткаабкладанне.

### Улады хочуць “выжыць” "Курьер из Борисова"?

Працягваецца выцясненне барысаўскіх недзяржаўных газет з гандлёвых кропак, дзе адбываецца рэалізацыя гэтых выданняў. У **чэрвені і ліпені** г.г. РА "Саюздрук" і РУП "Белпошта" у аднабаковым парадку скасавалі з рэдакцыяй штотыднёвіка "Курьер из Борисова" дамовы аб рэалізацыі газет без тлумачэння прычын. Акрамя таго, уладальнікі і адміністрацыя больш як трыццаці крамаў горада адмовіліся прадаваць гэтае выданне. Некаторыя з індывідуальных прадпрымальнікаў матывавалі сваю адмову спасылкаю на вусныя ўказанні, які зыходзілі ад старшыні гарвыканкаму Валянціны Шутко і загадчыка ідэалагічным аддзелам гарвыканкама Аляксандра Міронава.

### Газету “День” не пускаюць да чытача

**24 траўня** кіраўніцтва Федэральнага дзяржаўнага ўнітарнага прадпрыемства "Смаленскі паліграфічны камбінат" атрымала ад Ліліі Ананіч ліст, сэнс якога зводзіцца да таго, каб не дапусціць друкавання недзяржаўнай беларускай газеты "День". Міністэрства сцвярджае, што газета "День" не прайшла перарэгістрацыі ў сувязі са змяненнем юрыдычнага адрасу і на падставе гэтага просіць кіраўніцтва Смаленскай друкарні "прыняць захады па недапушчэнні незаконнага друкавання дадзенага выдання". Між тым, арт. 11 Закона аб друку "Перарэгістрацыя СМІ" патрабуе перарэгістрацыі толькі ў выпадку, калі яно не выпускаецца больш за 1 год, пры ліквідацыі, рэарганізацыі альбо змене заснавальніка, змене назвы і віду перыядычнага выдання, а таксама - калі двойчы на працягу года прымалася рашэнне аб прыпыненні яго дзейнасці.

**26-га траўня** галоўны рэдактар «Дня» М. Маркевіч накіраваў міністру інфармацыі Уладзіміру Русакевічу ліст, у якім падкрэсліў незаконнасць патрабаванняў беларускага міністэрства і папрасіў чыноўнікаў адклікаць свой ліст,

адрасаваны кіраўніцтву Смаленскай друкарні.

Увечары **26 траўня** ў 30 км ад расійска-беларускай мяжы быў затрыманы аддрукаваны ў Смаленску наклад недзяржаўных беларускіх газет "День", "Товарищ", "БДГ" и "Салідарнасць". Наклад газеты "День" (1990 асобнікаў) забралі супрацоўнікі Дубровенскага РАУС (Віцебская вобласць).

**27-га траўня** падчас сустрэчы галоўнага рэдактара газеты "День" Міколы Маркевіча з першай намесніцай міністра інфармацыі Ліліяй Ананіч тая параіла яму "не займацца антыдзяржаўнай дзейнасцю". Падчас размовы высветлілася, што ў міністэрстве не ведалі пра затрыманне і выняццё накладу газеты. "Добра, што ёсць міністэрства, на якое можна спаслацца", - зазначыла намесніца міністра.

**У той жа дзень** М. Маркевіч накіраваў начальніку Дубровенскага РУУС скаргу на дзеянні супрацоўнікаў міліцыі. У пасланні падкрэсліваецца, што дзеянні міліцыянтаў супярэчылі дзейнаму заканадаўству РБ: супрацоўнікі міліцыі афіцыйна не праінфармавалі ТДА "Деньпресс" пра свае дзеянні і не патлумачылі іх прычыны; забралі не ўзор прадукцыі, як тое дазваляе арт. 16 Закона "Аб міліцыі", а ўвесь наклад газеты; выняццё прадукцыі не было аформлена належным чынам; міліцыянты перашкодзілі законнаму распаўсюду СМІ без рашэння суда, чым парушылі арт. 25 Закона аб друку, і законнай дзейнасці рэдакцыі, выдаўца і распаўсюднікаў, чым парушылі арт. 48 гэтага ж Закона.

### У Івацэвічах прадаўцы кіёскаў хаваюць недзяржаўныя газеты

У Івацэвічах (Брэсцкая вобласць) **у траўні** у кіёсках "Белсаюздруку" перасталі выкладваць на вітрыны недзяржаўныя выданні, сярод якіх – "Газета для вас", "Народная воля", "Курьер из Борисова". Пра гэта паведаміла ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" галоўны рэдактар недзяржаўнай "Газеты для вас" Лідзія Цалуйка.

У продажы гэтыя газеты ёсць: прадаўцы кіёскаў дастаюць іх на запыт пакупнікоў. "Усе ўсё роўна ведаюць і запытваюць", – адказала супрацоўніца аднаго з кіёскаў на выказаную Лідзіяй Цалуйкай прэтэнзію. З размоваў з прадаўцамі Л. Цалуйка даведалася пра распараджэнне, якое нібыта зыходзіла ад начальніка аддзялення Івацэвіцкага райвыканкама Ірыны Міхнюк і прадпісвала не выстаўляць на вітрыны згаданыя выданні. Па словах прадаўцоў, тая, у сваю чаргу, атрымала адпаведнае прадпісанне з Івацэвіцкага райвыканкама.

Сама І. Міхнюк падчас сустрэчы з Л. Цалуйкай катэгарычна зняпраўдзіла існаванне як свайго распараджэння, так і паперы з Івацэвіцкага райвыканкама і заявіла, што гэта – нейкая недарэчнасць. Тым не менш, сітуацыя з продажам недзяржаўных выданняў у Івацэвічах не мяняецца.

### Барысаўскія ўлады "выжываюць" недзяржаўную прэсу

З **8 траўня** ў крамах КУП «Борисовский горпищеторг» перастала прадавацца газета "Курьер из Борисова". З 1 траўня кіёскі "Мінаблсаюдруку" ў Барысаве перасталі прымаць у продаж газету "Борисовские новости". У абодвух выпадках дамовы на рэалізацыю гэтых выданняў былі скасаваныя арганізацыямі ў аднабаковым парадку.

Акрамя гэтага, з 1 чэрвеня будзе спынена рэалізацыя выдання ў паштовых аддзяленнях г. Барысава. Пра гэта ў канцы красавіка паведаміў А. Букасу начальнік Барысаўскага вузла паштовай сувязі. Выцясненне недзяржаўнай прэсы з пунктаў рэалізацыі пачалося пасля таго, як ідэалагічны аддзел Барысаўскага гарвыканкама сабраў інфармацыю пра шляхі распаўсюду недзяржаўных выданняў горада. Па звестках службы маніторынга ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў", з пачатку сакавіка

супрацоўніца ідэалагічнага аддзелу гарвыканкама тэлефанавала кіраўнікам рэдакцый і пыталася, якім чынам распаўсюджваецца іх газета.

**У Воршы за распаўсюд бюлетэня затрыманы студэнт**

У Воршы за распаўсюд бюлетэня незарэгістраванай арганізацыі "Малады Фронт" **21 красавіка** затрыманы кіраўнік мясцовай рады моладзевых арганізацый Ігар Казімірчак. Ён распаўсюджваў бюлетэнь і буклеты яшчэ адной моладзевай арганізацыі сярод навучэнцаў Аршанскага перагагічнага коледжу. Адміністрацыя навучальнай установы запрасіла Казімірчака ў службовы кабінет для ўдакладнення зместу распаўсюджваных выданняў, пасля чаго выклікала міліцыю. Там на распаўсюдніка склалі пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні.

**Суд спыніў адміністратыўную справу ў дачыненні да распаўсюднікаў газеты**

**4 красавіка** суд Смаргонскага раёна спыніў адміністратыўную справу ў адносінах да ІП Куняўскай, якая займаецца рэкламай і распаўсюдам "Местной газеты". Справа была заведзеная на падставе пратакола аб парушэнні моў і правіл ажыццяўлення ліцэнзійнай дзейнасці (арт 154 ч.1 Кодэксу аб адміністратыўных правапарушэннях), які на ІП Куняўскую склалі супрацоўнікі інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах Аксана Пазняк і Аляксандр Высоцкі. Суддзя А.Квяткевіч высветліў, што ў кампетэнцыю падаткавай інспекцыі не ўваходзіць кантроль за выкананнем ўмоваў ліцэнзаванай дзейнасці – у дадзеным выпадку ён ускладзены на Смаргонскі райвыканкам. Справа ў дачыненні да ІП Куняўскай была спыненая. Распаўсюднікі індывідуальнага прадпрымальніка былі пісьмовы папярэджаныя аб выкананні правіл гандлю ў дазволеных месцах.

**У Віцебску адмовіліся прадаваць часопіс "ARCHE"**

Віцебскае аб'яднанне "Аблкнігандаль" адмовілася замаўляць недзяржаўны часопіс "ARCHE" у мясцовага распаўсюдніка Віктара Сцяпанава. Як паведаміў В.Сцяпанаў, тавараznaўца "Аблкнігагандлю" спаслалася на шмат непрададзенай крамамі літаратуры. Таму сетка кнігагандлю не будзе больш браць на рэалізацыю гэты часопіс, - паведаміла **18 сакавіка** "Радыё "Свабода". Нагадаем, што ў Мінску разарваныя дамовы на распаўсюд недзяржаўнага перыядычнага выдання з сеткамі кнігагандлю і "Белсаюздрку".

**«Местную газету» забаранілі распаўсюджваць**

**З 11 сакавіка** ў крамах г.Ваўкавыска спынены продаж "Местной газеты". Па словах галоўнага рэдактара выдання Андрэя Шантаровіча, гэта зроблена па распараджэнні старшыні Ваўкавыскага райвыканкама Міхаіла Савельева. 11 і 12 сакавіка ў Ваўкавыску на рынку былі затрыманыя некалькі распаўсюднікаў выдання, нягледзячы на тое, што ўсе іх дакументы былі ў парадку. Каб высветліць сітуацыю, 16 сакавіка А.Шантаровіч пайшоў на прыём да старшыні райвыканкаму.

А.Шантаровіч не пачуў адказу на пытанне, ці быў аддадзены загад на забарону продажу газеты. Выкліканая на размову прадстаўніца гандлёвага аддзела райвыканкаму адсутнасць у продажы ў крамах "Местной газеты" патлумачыла статутамі крамаў, якія самі прымаюць рашэнне, маўляў, газета мае непрыемны пах друкарскай фарбы. На гэты час "Местную газеты" ў Ваўкавыску прадаюць шапікі"Белсаюздруку" і прадпрымальнікі-распаўсюднікі. У апошніх супрацоўнікі міліцыі праверылі дакументы на продаж выдання. Месца для продажу выдання ў райцэнтры скарачаецца: з 1 сакавіка зачынены адзін з двух кірмашоў горада, дзе выданне карысталася попытам.

Пасля размовы з Міхаілам Савельевым рэдактар “Местной газеты” Андрэй Шантаровіч даведаўся, што чыноўнік аддаў вуснае распараджэнне кіраўніцтву раённай міліцыі і дзяржаўтаінспэкцыі не даваць інфармацыі незалежнаму выданню.

**С.Касцюковіч папярэджаны за распаўсюд інфармацыйнага бюлетэня**

Актывіст прадпрымальніцкага руху г.Пінска Сяргей Касцюковіч пакараны за распаўсюд інфармацыйнага бюлетэня “Камерсант” па арт. 172 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях (“Незаконны распаўсюд друкаваных вырабаў”). **2 сакавіка** С.Касцюковіча выклікалі на паседжанне адміністратыўнай камісіі Пінскага гарвыканкаму. Там яму было прад’яўленае абвінавачванне ў распаўсюдзе на рэчавых рынках горада інфармацыйнага бюлетэня, у якім распавядалася пра намер прадпрымальнікаў ладзіць страйк супраць увядзення падатку на дададзеную вартасць у гандлі з Расійскай Федэрацыяй. У складзеным міліцыянтамі пратаколе была звернутая ўвага на адсутнасць у бюлетэні выходных дадзеных і на змест выдання, скіраваны “на падрыў дзяржаўнага ладу”. Адміністратыўная камісія вынесла С.Касцюковічу папярэджанне.

**За распаўсюд прафсаюзнай газеты аштрафаваны жыхар Гродна**

**1 сакавіка** суд Ленінскага раёна г.Гродна пацвердзіў рашэнне Ленінскай адміністрацыйнай камісіі, якая прысудзіла сябра прафсаюза РЭПАМ Юрыя Курганскага да штрафу ў пяць базавых велічыняў (120 тысяч рублёў ці 55 доляраў ЗША) за распаўсюд прафсаюзнай газеты, якая называецца “Шабер”, угледзеўшы ў дзеяннях Курганскага прыкметы правапарушэння, прадугледжанага арт. 172 ч.3 КоАП РБ. Месяц таму адміністрацыйная камісія Ленінскага раёна прызнала, што “Шабер” з’яўляецца друкаваным выданнем, выпушчаным з парушэннем заканадаўства аб друку. Ю.Курганскі абскардзіў рашэнне адміністратыўнай камісіі ў судзе.
Судовы працэс пачаўся для Курганскага пакараннем: на першым жа паседжанні суддзя Сабалеўская выдала вынесла яму папярэджанне і аштрафавала на тры базавыя велічыні (72 тысячы рублёў ці 33 долары ЗША) за зацягванне судовага працэсу. Зацягваннем па версіі суда стала тое, што Курганскі выступіў з хадайніцтвам аб допушчэнні да ўдзелу ў працэсе ў якасці абаронцы яго прадстаўніка Андрэя Кусяльчука, паколькі сам не мае юрыдычнай адукацыі.
Аднак суддзя адхіліла яго хадайніцтва і прапанавала яму наняць адваката за грошы. Потым Юрый Курганскі некалькі разоў падаваў хадайніцтвы аб допушчэнні да працэса ў якасці абаронцы яго прадстаўніка і аб адводзе суддзі. Усе хадайніцтвы суддзя Сабалеўская адхіліла, і пакінула рашэнне адміністрацыйнай камісіі ў сіле.

**“Біржу інфармацыі” адмаўляюцца распаўсюджваць у Скідзелі**

Кіраўніцтва Скідзельскай філіі Гродзенскага раённага спажывецкага таварыства адмовілася працягваць дамову з рэдакцыяй недзяржаўнай газеты “Біржа інфармацыі” на пастаўку ў бягучым годзе гэтай газеты ў крамы горада Скідзель.

У лісце, які атрымала **4 лютага** рэдакцыя “Біржы інфармацыі”, гаворыцца, што Скідзельская філія Гродзенскага райспажыва не можа працягнуць дамову “у сувязі з недахопам работнікаў прылаўка”. Дамова на пастаўку “Біржы інфармацыі” дзейнічала з 14 снежня 2003 года. Дырэктар Скідзельскай філіі Галіна Кавальчук сказала, што яна асабіста не мае прэтэнзій да “Біржы інфармацыі”, а рашэнне аб спыненні дамовы проста звязана з нежаданнем надалей супрацоўнічаць з “Біржай”.

Нагадаем, што выданне гарадзенскай недзяржаўнай газеты “Біржа інфармацыі” з 1 снежня 2004 года было прыпынена на тры месяцы рашэннем Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. З 1 сакавіка калектыў газеты плануе аднавіць выхад выдання.

**А.Залескую і А.Цурпакова затрымалі за распаўсюд зарэгістраванай газеты**

**17 студзеня** ў Віцебску міліцыя затрымала намесніцу старшыні гарадской арганізацыі Аб’яднанай грамадзянскай партыі Алену Залескую, якая раздавала на вуліцы газету “Время”. Міліцыянты адвезлі сп-ню Залескую ў Кастрычніцкі раённы аддзел міліцыі, дзе склалі пратакол і забралі некалькі асобнікаў газеты. Міліцыянты заявілі, што перададуць дакументы ў суд, які і вырашыць, у якой ступені вінаватая Алена Залеская.

**5 студзеня** 2005 года за раздачу газеты “Время” ў Навабеліцкім раёне г.Гомеля быў затрыманы актывіст Аб’яднанай грамадзянскай партыі Артур Цурбакоў. Яго адвезлі ў раённае праўленне ўнутраных справаў, дзе склалі пратакол, сфатаграфавалі, знялі адбіткі пальцаў, канфіскавалі газеты і адпусцілі. 9 студзеня Цурпакову патэлефанавалі з міліцыі і папрасілі прынесці копію пратаколу на распаўсюд газеты “Время” і копію пасведчання аб рэгістрацыі газеты. Канфіскаваныя асобнікі газеты былі вернутыя.

Газета “Время” была прыпыненая Міністэрствам інфармацыі тэрмінам на 3 месяцы 24 жніўня 2004 г. за тое, што выдавец нібыта выпусціў два нумары выдання з указаннем неіснуючага юрыдычнага адрасу. Вышэйшы гаспадарчы суд прызнаў загад аб прыпыненні несапраўдным. У снежні 2004 г. газета “Время” аднавіла выхад.

## Найбольш значныя судовыя працэсы з удзелам СМІ

Суд адхіліў зыск да газеты "Прессбол"
Суд пакінуў у сіле рашэнне аб ліквідацыі выдаўца газеты «День» - ТДА "Деньпресс"
Героі перадачы пакрыўдзіліся на жарт
Суды працягваюць разгляд справаў гродзенскіх журналістаў
Суд адхіліў касацыйную скаргу "Курьера из Борисова"
Журналісты газеты «Згода» аштрафаваныя судом
Карэспандэнт аштрафаваны на 50 базавых велічыняў
Суд аштрафаваў рэдакцыю «БДГ. Деловая газета» на 23 тысячы долараў
Справа па зыску да "Народнай волі" скончылася міравым пагадненнем
"Народная воля" засталася з папярэджаннем
Прысуд Ірыне Халіп застаўся ў сіле
Прымяненне амністыі да Р. Улана можа быць адменена
Суд пастанавіў спагнаць з “Народнай волі” 100 млн. рублёў
Былы журналіст аштрафаваны на 2,7 млн. рублёў
С.Няроўны абараняе свой гонар
Журналіст пакараны за асвятленне мітынгу прадпрымальнікаў
Прадпрымальнік прайграў зыск супраць Гродзенскага тэлебачання
М.Варанец выйграў зыск да Белтэлерадыёкампаніі
Газеце "Прессбол" пагражае закрыццё
І.Макавецкая атрымала вусную заўвагу суду
40 мільёнаў рублёў з журналістаў - міністру фінансаў
Абвяржэння чакалі паўгады

### Суд адхіліў зыск да газеты "Прессбол"

**10 лістапада** суд Цэнтральнага раёна Мінска адхіліў зыск бухгалтара Рэспубліканскай дзяржаўнай вучэльні алімпійскага рэзерву Святланы Рамановіч да спартыўнай газеты "Прессбол". Нагодай для зыску стаў артыкул карэспандэнта выдання Святланы Парамыгінай "Вести с полей" у нумары ад 19 жніўня г.г., прысвечаны канфлікту ўнутры вучэльні. У публікацыі не называлася імя бухгалтара, але згадваўся яе ўзрост. Сума зыску складала 14 млн. 510 тыс. рублёў (амаль 7 тыс. долараў ЗША). Падчас папярэдняй размовы ў судзе С. Рамановіч з рэдактарам газэты "Прессбол" Уладзімерам Беражковым і аўтарам артыкулу С. Парамыгінай бакі не прыйшлі да міравога пагаднення.

За апошні год гэта быў другі па ліку буйны зыск аб абароне гонару і годнасці, пададзены супраць газеты "Прессбол". **4 студзеня** суд Цэнтральнага раёна Мінска пастанавіў спагнаць на карысць міністра фінансаў РБ, кіраўніка Беларускай асацыяцыі гімнастыкі Мікалая Корбута 30 мільёнаў рублёў з рэдакцыі газеты "Прессбол" і 10 мільёнаў - з галоўнага рэдактара выдання Уладзіміра Беражкова. Такое рашэнне прыняў суддзя Валерый Есьман, тым самым часткова задаволіўшы зыск М. Корбута аб кампенсацыі маральных стратаў.

### Суд пакінуў у сіле рашэнне аб ліквідацыі выдаўца газеты «День» - ТДА "Деньпресс"

**3 лістапада** Гаспадарчы суд Мінска пакінуў у сіле рашэнне Мінгарвыканкама аб ліквідацыі ТДА "Деньпресс" - заснавальніка і выдаўца газеты "День".
4 ліпеня старшыня Мінгарвыканкаму Міхаіл Паўлаў і кіраўнік справамі Міхаіл Савановіч выдалі распараджэнне ліквідаваць Таварыства з дадатковай адказнасцю (ТДА) "Деньпресс". У рашэнні Мінгарвыканкама падставай для ліквідацыі названа "неажыццяўленне прадпрымальніцкай дзейнасці напрацягу

6 месяцаў запар і ненакіраванне камерцыйнай арганізацыяй падатковаму органу паведамлення аб прычынах неажыццяўлення такой дзейнасці". Ініцыятарам ліквідацыі "Деньпресс" выступіла падаткавая інспекцыя Цэнтральнага раёна г. Мінска.

Кіраўніцтва ТДА "Деньпресс" палічыла гэтае рашэнне палітычна матываваным і падало ў суд. Паводле кіраўніка "Деньпресс" Міколы Маркевіча, дзяржаўныя органы не жадаюць прызнаваць таго, што прадпрыемства ажыццяўляла гаспадарчую дзейнасць: 26 траўня выпусціла нумар газеты ў Смаленску, заключыла дамовы на яго распаўсюд і рэалізацыю, праводзіла аплату паслуг і г.д.
Цяпер ТДА "Деньпресс" збіраецца абскарджваць рашэнне Гаспадарчага суда г. Мінска ў вышэйшыя інстанцыі.

**Героі перадачы пакрыўдзіліся на жарт**

**28 кастрычніка** ў Першамайскім судзе г.Мінска адбылося папярэдняе слуханне справы па зыску двух жыхароў Мінска да “Альфа радыё” і яго праграмнага дырэктара, вядоўца праграмы "Кукурузник Шоу" Дзмітрыя Шуніна. Бакі не прыйшлі да міравога пагаднення, таму слуханне справы па сутнасці прызнаначанае на 11 лістапада.

Два слухачы палічылі зневажальным для сваёй годнасці жарт, які прагучаў у праграме два гады таму і быў паўтораны гэтай восенню сярод іншых лепшых фрагментаў радыёэфіру. У свой час яны ніяк не адрэагавалі на жарт, і толькі цяпер звярнуліся ў суд з зыскам ды радыёстанцыі і вядоўцы праграмы, з якіх патрабуюць кампенсацыі памерам 35 млн. рублёў (16,2 тысячы долараў ЗША). Гэта – першы выпадак за трохгадовую гісторыю існавання праграмы, калі нехта з яе герояў ці слухачоў палічыў сябе пакрыўджаным. Кожны выпуск праграмы "Кукурузник Шоу" пычнаецца і заканчваецца папярэджаннем, што гэта – жарт, да якога не трэба ставіцца сур’ёзна.

**Суды працягваюць разгляд справаў гродзенскіх журналістаў**

**26 кастрычніка** на допыт у Шчучын выклікалі журналістаў Андрэя Пачобута і Анджэя Пісальніка, а таксама намеснікаў старшыні Саюзу палякаў на Беларусі Юзэфа Пажэцкага і Веслава Кеўляка. Яны з’яўляюцца падазраванымі па крымінальнай справе паводле арт. 185 Крымінальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь. (Згаданых асобаў падазраюць у пагрозах на адрас дырэктара Дому польскага ў Шчучыне Віктара Богдана).

**24 кастрычніка** Ленінскі раённы суд г.Гродна пакінуў у сіле рашэнне адміністрацыйнай камісіі Ленінскага раёну, якая аштрафавала журналіста Андрэя Пачобута на адну базавую велічыню (25,5 тысяч рублёў). А.Пачобут абскарджваў рашэнне адміністрацыйнай камісіі, якая пакарала журналіста за тое, што ён вытоптваў газон падчас несанкцыянаванага пікету ў абарону газеты "Glos znad Niemna", што адбыўся сёлета 6 ліпеня на плошчы Леніна ў Гродна. Разгледзеўшы скаргу журналіста Андрэя Пачобута, суд вынес толькі прыватнае вызначэнне на адрас адміністрацыйнай камісіі за парушэнні ў вядзенні пратаколу.

**Суд адхіліў касацыйную скаргу "Курьера из Борисова"**

**27 верасня** Калегія гаспадарчага суда Мінскай вобласці адхіліла касацыйную скаргу барысаўскага недзяржаўнага прадпрыемства "Пресс-сервис", якое выступае заснавальнікам недзяржаўнай газеты "Курьер из Борисова". ТДА "Пресс-сервис" абскарджвала рашэнне суда ад 24 жніўня аб ліквідацыі "Пресс-сервиса".

Зыск аб прызнанні несапраўднай рэгістрацыі таварыства ў сувязі з дапушчанымі пры рэгістрацыі грубымі парушэннямі Мінаблвыканкам падаў 17 чэрвеня. Сутнасць парушэнняў – у тым,

што ў статуце "Пресс-сервис" не былі акрэсленыя мэты і задачы "Курьера из Борисова" ды шэраг іншых палажэнняў, рэгламентаваных дзейным заканадаўствам. Суд прызначыў стварыць ліквідацыйную камісію, якая мусіць выканаць працэдуру ліквідавання прадпрыемства да 1 студзеня 2006 г. Старшынёй камісіі прызначаная кіраўнік ідэалагічнага ўпраўлення Мінскага аблвыканкама Таццяна Дзедух.

**Журналісты газеты «Згода» аштрафаваныя судом**

23 верасня суд Першамайскага раёну Мінска пакараў рэдактара недзяржаўнай газеты "Згода" Аляксея Караля і намесніка рэдактара выдання Аляксандра Сдзвіжкова штрафам па 100 базавых велічыняў (1200 долараў ЗША). Суд прызнаў журналістаў вінаватымі ў парушэнні ч.10 арт. 172-1 КоАП (распаўсюд праз сродкі масавай інфармацыі заведама няпраўдзівых звестак, якія зневажаюць гонар і годнасць Прэзідэнта РБ). Як паведаміў **26 верасня** на прэс-канфэрэнцыі Аляксей Кароль, падставай для такога рашэння суду сталі калажы, надрукаваныя ў некалькіх нумарах "Згоды". Журналісты выкарыстоўвалі вядомыя карціны, замяшчаючы арыгінальныя выявы вобразамі сучасных беларускіх палітыкаў.

Калажы разам з кампутарнай тэхнікай былі канфіскаваныя міліцыяй падчас агляду памяшкання рэдакцыі 24 сакавіка. Канфіскаваную тэхніку рэдакцыі дагэтуль не вярнулі.

**Суд аштрафаваў рэдакцыю «БДГ. Деловая газета» на 23 тысячы долараў**

50 мільёнаў рублёў (больш за 23 тысяч долараў ЗША) з рэдакцыі выдання і 5 мільёнаў рублёў – з журналіста Сяргея Сацука пастанавіў спагнаць суд Кастрычніцкага раёна г. Мінска на карысць былога супрацоўніка АМАПу Сяргея Бядрыцкага. Такое рашэнне прыняла суддзя Басько **30 верасня**. Таксама суд абавязаў “БДГ. Деловая газета” апублікаваць абвяржэнне напрацягу 30 дзён пасля ўступлення рашэння ў законную сілу.

Зыск аб абароне гонару, годнасці і кампенсацыі маральнай шкоды быў пададзены ў чэрвені 2005 г. і тычыўся публікацыі “Рекламная акция”, якая з‘явілася ў №70 ад 20 траўня 2003 г. У артыкуле, аўтарам якога выступаў Сяргей Сацук, распавядалася пра расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да двух чалавек, якія абвінавачваліся ў здзяйсненні шэрагу злачынстваў (адзін з іх - зыскоўца). Ён патрабаваў 100 мільёнаў з рэдакцыі (УП “Марат”) і 10 – з аўтара. Кіраўнік УП “Марат” П.Марцаў і аўтар матэрыялу С.Сацук з рашэннем суда не згодныя і будуць падаваць апеляцыю.

**Карэспандэнт аштрафаваны на 50 базавых велічыняў**

**27 верасня** суд Ленінскага раёну г.Гродна аштрафаваў прафсаюзнага актывіста і карэспандэнта газеты “Салідарнасць “ Івана Романа на 50 базавых велічыняў (1,275 млн. рублёў). І.Роман быў прызнаны вінаватым у дзейнасці ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Суддзя Наталля Козел пакарала сябру прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці нягледзячы на тое, што ў суд былі пададзены доказы рэгістрацыі памянёнанага прафсаюза Міністэрствам юстыцыі Беларусі.

На І.Романа быў складзены пратакол, дзе сцвярджалася, што журналіст распаўсюджваў сярод працаўнікоў Гродзенскага заводу аўтаагрэгатаў прафсаюзны бюлетэнь "Шабер". Але сам Роман цвердзіць, што ён раздаваў зарэгістраванае выданне – газету "Салідарнасць".

Справа была заведзеная паводле заявы кіраўніка аховы Гродзенскага заводу

аўтаагрэгатаў Уладзіміра Малаткова. Там пазначана, што Роман 23 жніўня распаўсюджваў сярод працаўнікоў бюлетэнь нібыта незарэгістраванай арганізацыі прафсаюзу радыёэлектроннай прамысловасці). Сам жа І.Раман сцвярджае, што ён раздаваў зарэгістраванае выданне – газету “Салідарнасць”.

**Справа па зыску да "Народнай волі" скончылася міравым пагадненнем**

Судовыя слуханні па зыску аб абароне дзелавой рэпутацыі вытворчага аб'яднання "Беларуськалій" да рэдакцыі газеты "Народная воля" ў гаспадарчым судзе г. Мінска **29 чэрвеня** скончыліся міравым пагадненнем. Пра гэта паведаміла ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" адвакат "Народнай волі" Ларыса Атаманчук.

Зыск "Беларуськалія" тычыўся публікацыі ў №77 ад 23 красавіка 2005 г. артыкула "Такая воля народа", дзе ішла гаворка пра стварэнне грамадскага руху "Воля народа" і сцвярджалася, што подпісы ў яго падтрымку паставілі шэраг супрацоўнікаў прадпрыемства. Зыскоўцы патрабавалі прызнаць распаўсюджаныя звесткі не адпаведнымі рэчаіснасці і ганебнымі для дзелавой рэпутацыі прадпрыемства.

У першы дзень слуханняў, **23 чэрвеня**, суд абавязаў бакі прадаставіць некаторыя дадатковыя дакументы. 29 чэрвеня перад пачаткам паседжання прадстаўнікі прадпрыемства "Беларуськалій" прапанавалі заключыць міравое пагадненне. У адпаведнасці ім, зыскоўца адмаўляецца ад сваіх прэтэнзій і бярэ на сябе аплату судовых выдаткаў, а "Народная воля" павінна да 15 ліпеня апублікаваць абвяржэнне апублікаваных звестак і прынесці прабачэнні за іх распаўсюд.

**17 чэрвеня** той жа суд спыніў вытворчасць па аналагічнай справе аб абароне дзелавой рэпутацыі Салігорскага дзяржаўнага горна-тэхнічнага тэхнікума з прычыны таго, што гэтая спрэчка "не падлягае разгляду ў гаспадарчым судзе". Тэхнікум патрабаваў прызнаць распаўсюджаныя выданнем звесткі не адпаведнымі рэчаіснасці і ганебнымі, абавязаць газету апублікаваць абвяржэнне, а таксама спагнаць з рэдакцыі дзяржпошліну на пакрыццё судовых выдаткаў у памеры 10 базавых велічыняў.

**9 чэрвеня** суд Ленінскага раёна Мінска часткова задаволіў шэсць зыскаў супраць "Народнай волі", абавязаўшы рэдакцыю выплаціць тром зыскоўцам па 3 мільёны рублёў, а яшчэ тром - па 2 мільёны. Яшчэ двум зыскоўцам ў задавальненні зыску было адмоўлена.
Чацвёра зыскоўцаў былі з Клецку. Кожны з іх патрабаваў прызнаць несапраўднымі і надрукаваць у газеце абвяржэнне звестак пра тое, што яны нібыта падпісаліся ў падтрымку руху "Воля народа", а таксама выплаціць ім па 5 мільёнаў рублёў кампенсацыі маральных стратаў. Суд палічыў патрабаванні траіх зыскоўцаў абгрунтаванымі, але зменшыў суму кампенсацыі да 3 млн. рублёў. Зыск адной з зыскоўцаў (дырэктара школы Ліліі Лібер) быў адхілены па той прычыне, што ў падпісным лісце не была ўказана яе пасада.

**25 ліпеня** Калегія Мінскага гарадскога суда адхіліла скаргу Іосіфа Сярэдзіча. Галоўны рэдактар "Народнай волі" спрабаваў абскардзіць рашэнне суда Ленінскага раёна Мінска, які 9 ліпеня часткова задаволіў тры зыскі супраць "Народнай волі", кожны на суму 3 мільёны рублёў.

**"Народная воля" засталася з папярэджаннем**

Вышэйшы гаспадарчы суд **28 чэрвеня** адхіліў зыск рэдакцыі "Народнай волі" да Міністэрства інфармацыі, пакінуўшы ў сіле папярэджанне газеце. У рэдакцыі

ёсць права абскардзіць гэтае рашэнне ў прэзідыюм Вышэйшага гаспадарчага суда, і "Народная воля" збіраецца яго скарыстаць, - паведаміў ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" галоўны рэдактар выдання Іосіф Сярэдзіч.

Папярэджанне, якое Міністэрства інфармацыі вынесла газеце 13 красавіка, тычылася двух артыкулаў. Першы быў надрукаваны 3 сакавіка і называўся "Виртуальная война внучки с бабушкой". Мініфармацыі палічыла, што аўтар (А. Сівы) апублікаваў не завершаныя вытворчасцю матэрыялы судовай справы без пісьмовага дазволу суддзі. (Суддзя Кацярына Караткевіч не прыняла да ўвагі аргументаў зыскоўцаў пра тое, што тэлеканал ОНТ адразу ж пасля вынясення рашэння па зыску С. Гайдукевіча да "Народнай волі" зрабіў адтуль рэпартаж і таксама агучыў рашэнне суда да ўступлення яго ў законную сілу, аднак Мініфармацыі не ўбачыла ў гэтым ніякага парушэння).

**31 сакавіка** ў газеце быў апублікаваны "Зварот да воінаў-інтэрнацыяналістаў", пад якім сярод іншых падпісаўся праваабаронца Алег Волчак. Ён фігураваў у лісце як лідэр руху "Абаронцы Айчыны", і Мініфармацыі ўгледзела ў гэтым распаўсюд інфармацыі ад імя незарэгістраванага аб'яднання.

Міністэрства палічыла, што гэтымі публікацыямі выданне парушыла арт. 5 Закона "Аб друку і іншых СМІ". Паводле Закона "Аб друку і іншых СМІ", неаднаразовае парушэнне рэдакцыяй патрабаванняў арт. 5 гэтага закона можа стаць падставай для спынення дзейнасці СМІ пра суд. Пакуль на рахунку рэдакцыі газеты толькі адно папярэджанне па арт. 5. (Другое папярэджанне Мініфармацыі (ад 11 траўня) было вынесена рэдакцыі па арт. 32; акрамя гэтага, **16 траўня** намеснік генеральнага пракурора РБ Мікалай Купрыянаў вынес папярэджанне па арт. 5 асабіста галоўнаму рэдактару "Народнай волі" Іосіфу Сярэдзічу).

**Прысуд Ірыне Халіп застаўся ў сіле**

**27 чэрвеня** Мінскі гарадскі суд пакінуў ў сіле рашэнне суда Кастрычніцкага раёна г. Мінска, які прызнаў журналістку Ірыну Халіп і прыватнае унітарнае прадпрыемства "Марат" вінаватымі ў абразе гонару і годнасці амерыканскага грамадзяніна Аркадзя Мара.

**11 красавіка** суд абавязаў журналістку выплаціць грамадзяніну ЗША Аркадзю Мару 10 млн. рублёў, а выдаўца "БДГ" - 50 млн. рублёў (4,5 і 25 тыс. долараў ЗША адпаведна) у якасці кампенсацыі яго маральных стратаў. Зыск А.Мара тычыўся іфармацыі, распаўсюджанай І.Халіп у артыкуле "В Оклахоме так и не узнают про Лукашенко". Паводле зыскавай заявы, А. Мара абурылі фразы "Искать лохов на просторах бывшего СССР и разводить их на бабки - его маленький бизнес" і "Лукашенко - третья жертва пиар-лохотронщика". А.Мар патрабаваў у якасці кампенсацыі 1 млн. долараў ЗША.

Артыкул І. Халіп быў прысвечаны скандальнаму інтэрв'ю з Аляксандрам Лукашэнкам, якое А. Мар апублікаваў у сваёй газеце, абвесціўшы беларускага лідэра "лепшым палітычным дзеячом года". Праз некалькі дзён пасля з'яўлення гэтага матэрыялу беларускія СМІ атрымалі ліст ад рэдактара газеты "Русская Америка" Валерыя Тарасава, які заявіў, што яго газета ніколі не брала інтэрв'ю ў кіраўніка беларускай дзяржавы. Менавіта на гэтыя падзеі адгукнулася сваёй публікацыяй Ірына Халіп.

Падчас слуханняў справы суддзя не задаволіла ніводнага хадайніцтва абароны, у тым ліку - пра зварот у Амбасаду ЗША пра запыт, ці сапраўды А.Мар ёсць рэдактарам газеты «Русская Америка».

**Прымяненне амністыі да Р. Улана можа быць адменена**

З-за пазіцыі прадстаўніка пракуратуры **24 чэрвеня** суд Смаргонскага раёна не змог прымяніць да заснавальніка "Новой газеты Сморгоні" Рамуальда Улана Закону "Аб амністыі". У часе паседжання прадстаўнік Смаргонскай раённай пракуратуры Сяргей Кавальчук выступіў з пратэстам, заявіўшы, што ў снежні 2004 г. суд нібыта няправільна прымяніў да Р. Улана закон аб амністыі таго года. (Тады суддзя скараціў для яго тэрмін пакарання з 2 да 1 года). Такім чынам, на думку пракуратуры, з улікам амністыі 2005 г., Р. Улан усё яшчэ павінен адбыць пакаранне тэрмінам у 1 год. Лёс Р. Улана цяпер будзе вырашаць Гродзенскі абласны суд, куды звернецца з адпаведным запытам пракуратура Гродзенскай вобласці. (Як вядома, амністыя дзейнічае напрацягу 6 месяцаў).

**22 чэрвеня** на сесіі Смаргонскага раённага Савета дэпутатаў 30 чалавек прагаласавалі "за" пазбаўленне Р. Улана дэпутацкіх паўнамоцтваў. "Супраць" выказаліся два дэпутаты; устрымаўся 1. У абарону калегі выступіла дэпутат Ірына Вештард. Яна нагадала пра ДТЗ, якое адбылося з віны іншага іх калегі (дэпутата Самуйловіча, дырэктара Аўтапарка №17) і ў выніку якога пацярпелы загінуў. Тым не менш, падкрэсліла І. Вештард, дэпутата не судзілі і не пазбаўлялі паўнамоцтваў. Аднак старшыня Смаргонскага райсавета Мікалай Шыш заявіў, што "сёння разглядаецца канкрэтны выпадак па Улану, і прыведзены прыклад не мае ніякага дачынення да справы".

**27 студзеня** суд Гродзенскай вобласці пакінуў у моцы прысуд заснавальніку “Новой газеты Сморгони” Рамуальду Улану. Цягам бліжэйшых дзён ён будзе накіраваны ў адну з папраўча-працоўных установаў Беларусі.

26 снежня 2003 года Рамуальд Улан, едучы на аўтамабілі, збіў веласіпедыстку. Жанчына атрымала цяжкія цялесныя пашкоджанні. Р.Улан выплаціў ёй матэрыяльныя і маральныя страты, і на судзе жанчына прасіла “не караць яго сурова”. Суд Смаргонскага раёна вынес Р.Улану пакаранне ў выглядзе трох год пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі-пасяленні. Пазней па выніках разгляду касацыйнай скаргі тэрмін пакарання быў скарочаны на год, і яшчэ адзін год быў скасаваны ў выніку дзеяння амністыі.

Суд Гродзенскай вобласці разгледзеў касацыйную скаргу, што падаваў Рамуальд Улан, і пакінуў у моцы папярэдняе рашэнне: абмежаванне волі на тэрмін 1 год.

### Суд пастанавіў спагнаць з “Народнай волі” 100 млн. рублёў

100 мільёнаў рублёў (больш за 45 тысяч долараў) на карысць лідэра ЛДПБ Сяргея Гайдукевіча пастанавіў спагнаць з рэдакцыі "Народнай волі" суд Ленінскага раёна г. Мінска. Гэтае рашэнне агучыла **14 чэрвеня** суддзя Любоў Валевіч. Галоўны рэдактар выдання збіраецца абскарджваць гэтую пастанову ў Мінскі гарадскі суд.

Суд прызнаў несапраўднымі і зневажальнымі для гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі С. Гайдукевіча звесткі, надрукаваныя ў "Народнай волі" № 39 ад 1 сакавіка 2005 году. Гаворка ідзе пра артыкул "Письмо Гайдукевича. И факс Гайдукевичу", у якім гаварылася пра супрацу лідэра Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі з рэжымам Саддама Хусэйна і, у прыватнасці, запазычанасць у памеры амаль мільён долараў. (Прэтэнзіі С. Гайдукевіча выклікаў тэкст апублікаванага факса: "Кому: г-ну С. Гайдукевичу, Председателю" і фразу "Мы настойчиво просим Вас возвратить нам сумму в размере 996.798,060 доллара США, которую Вы задолжали"). Ён запатрабаваў, каб газета апублікавала абвяржэнне і выплаціла яму матэрыяльную кампенсацыю маральных

стратаў у памеры 200.000.000 рублёў. Суд задаволіў амаль усе патрабаванні зыскоўца, зменшыўшы толькі суму кампенсацыі. Сума спагнання сталася адной з самых буйных за ўсю гісторыю судовых працэсаў з удзелам недзяржаўных беларускіх выданняў. Слуханні па справе пачаліся **3 чэрвеня.** Суд адхіліў хадайніцтва адваката "Народнай волі" Уладзіміра Пташніка аб спыненні судовага разбору ў сувязі з непадведамаснасцю гэтай справы суду.

**25 ліпеня** Судовая калегія па грамадзянскіх справах Мінскага гарадскога суда пакінула без зменаў рашэнне суда Ленінскага раёна ад 14 чэрвеня і вызначэнне таго ж суда ад 8 ліпеня г.г., датычныя зыску С. Гайдукевіча да "Народнай волі", адхіліўшы тым самым касацыйную і прыватную скаргі Іосіфа Сярэдзіча. Калегія Мінгарсуда не задаволіла хадайніцтва Іосіфа Сярэдзіча аб пераносе слуханняў на больш позні тэрмін у сувязі з адсутнасцю прадстаўніка "Народнай волі" - намесніка старшыні БХК Гары Паганяйлы. Суд пакінуў у сіле абодва рашэнні, якія абскарджваў І. Сярэдзіч, прапанаваўшы яму ў выпадку нязгоды падаць скаргі ў парадку нагляду ў прэзідыюм Мінгарсуда.

Касацыйная скарга І. Сярдзіча тычылася рашэння суддзі Валевіч, якая 14 чэрвеня пастанавіла спагнаць з газеты "Народная Воля" 100 мільёнаў рублёў на карысць старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі, дэпутата Палаты прадстаўнікоў Сяргея Гайдукевіча. Суд прызнаў несапраўднымі і зьневажальнымі для ягоных гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі звесткі, надрукаваныя ў "Народнай Волі" за 01.03.2005 ў артыкуле "Ліст Гайдукевіча. І факс Гайдукевічу", у якім гаварылася пра запазычанасць лідэра ЛДП перад іракскай нафтавай кампаняй у часы кіравання Садама Хусэйна. Прыватная скарга І. Сярэдзіча тычылася "вызначэння", якое суддзя Валевіч вынесла 8 ліпеня, "па ўласнай ініцыятыве" выправіўшы памылку, дапушчаную ёй жа ў рашэнні ад 14 чэрвеня. (Суддзя назвала адказнікам па справе рэдакцыю "Народнай волі", а не Выдавецкае прыватнае унітарнае прадпрыемства "Народная воля").

**20-21 верасня** судовым выканаўцам была апісаная маёмасць адзінай штодзённай недзяржаўнай беларускай газеты "Народная воля". Вопіс быў праведзены з мэтаю выканання рашэння суда Ленінскага раёну г.Мінска па іску да рэдакцыі выдання лідэра Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі Сяргея Гайдукевіча. Паводле вопісу, накладзеная забарона на адчужэнне маёмасці, арыштаваная вялікая партыя паперы, а разліковы рахунак заблакаваны да моманту канчатковага пералічэння суммы, узгаданай у рашэнні суду. Галоўны рэдактар выдання Іосіф Сярэдзіч звярнуўся да чытачоў з заклікам тэрмінова пералічваць грошы на рахунак выдання. Таксама кіраўніцтва “Народнай волі” звярнулася з хадайніцтвам да старшыні Вярхоўнага суда Беларусі Валянціна Сукалы з просьбай прыпыніць дзеянне рашэння Ленінскага суда Г.Мінска, зняць арышт з паперы і разблакаваць рахунак выдання, інакш газета можа прыпыніць свой выхад.

«Народная Воля» цалкам заплаціла кампенсацыю Сяргею Гайдукевічу – паведаміла **30 верасня** шэф-рэдактар газеты Святлана Калінкіна. 100 мільёнаў беларускіх рублёў складае сума кампенсацыі за маральную шкоду, нанесеную адной з публікацый выдання, якую суд пастанавіў выплаціць на карысць лідэра Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі Сяргея Гайдукевіча.

Таксама 30 верасня быў апошнім днём, калі выданне можа друкавацца ў друкарні “Чырвоная зорка”. Нагадаем, што друкарня, гэтаксама як і “Белсаюдрук”, “Мінскаблсаюздрук” і “Мінгарсаюдрук” разарвалі з “Народнай воляй” дамовы на друк і распаўсюд выдання з 1 кастрычніка гэтага года. Падставай для спынення распаўсюду названы “парушэнні газетай беларускага заканадаўства” і нібыта нізкі

пакупніцкі попыт на выданне. Рэдакцыя выдання не знайшла ў Беларусі друкарні, якая б пагадзілася друкаваць выданне.

## Былы журналіст аштрафаваны на 2,7 млн. рублёў

Драгічынскі раённы суд прыняў рашэнне спагнаць з былога супрацоўніка недзяржаўнага выдання “Газета для Вас” Мікалая Брыча 2,7 млн. рублёў (прыкладна $1250) на карысць сябраў выбарчай камісіі, - пра гэта **21 красавіка** паведаміла “радыё “Свабода”. Суд часткова задаволіў іск аб кампенсацыі маральных стратаў, які да М.Брыча падалі старшыня выбарчай камісіі Леанід Грыцук і чацьвёра сябраў камісіі. Першапачаковая сума іску складала 4 млн. рублёў. Разбіральніцтва грунтавалася на падзеях леташніх выбараў у Палату прадстаўнікоў і рэферэндуму, калі М.Брыч (у той час – карэспандэнт незалежнага выдання “Газета для Вас”) выявіў на адным з участкаў шэраг парушэнняў выбарчага заканадаўства і быў выдалены з памяшкання. У пададзенай ім заяве ў пракуратуру, сярод іншага, фігуравала абвінавачанне сяброў выбарчай камісіі ў тым, што яны былі на ўчастку ў нецвярозым стане. Праверка Драгічынскай пракуратуры не пацвердзіла гэтых звестак, і на М.Брыча завялі адміністратыўную справу за паклёп.

М.Брыч збіраецца абдскарджваць рашэнне раённага суда ў Брэсцкім абласным судзе.

## С.Няроўны абараняе свой гонар

Міліцыя не ўгледзела прыкметаў проціпраўных дзеянняў ва ўчынках намесніцы старшыні раённага савета дэпутатаў Зінаіды Скачковай і рэдакцыі мясцовай дзяржаўнай газеты “Ленінскі кліч”. У лісце з міліцыі, атрыманым С.Няроўным **у красавіку**, падкрэслена, што спн.З.Скачкова “выказала сваё уласнае меркаванне”. З такой фармулёўкай рэдактар незарэгістраванага выдання С.Няроўны не згодны, паколькі спасылаецца на подпіс пад прыгаданым артыкулам, дзе аўтар пазначаны як “давераная асоба кандыдата ў дэпутаты абласнога савета дэпутатаў... намеснік старшыні раённага савета дэпутатаў”.

Скаргу на афіцыйную асобу і рэдакцыю падаў выдавец незарэгістраванага выдання “Вольны горад” Сяргей Няроўны. Падставай для скаргі стаў артыкул “Сделайте правильный выбор”, нарукаваны ў афіцыйным выданні 19 сакавіка, напярэдадні давыбараў у абласны савет дэпутатаў. Артыкул цалкам прысвечаны кандыдату на тых жа давыбарах, рэдактару незалежнай газэты “Вольны горад” сп. С.Няроўнаму. Аўтар абвінавачвае сп.С.Няроўнага ў тым, што ён утойвае падаткі з замежных грантаў, а выданне – у тым, што “выполняет заокеанский заказ по развалу, нравственному растлению нашего общества”.

Скаргу на дзеянні З.Скачковай і газеты “Ленінскі кліч” С.Няроўны падаў і ў міжраённую пракуратуру.

## Журналіст пакараны за асвятленне мітынгу прадпрымальнікаў

На 10 сутак адміністратыўнага арышту быў асуджаны журналіст інтэрнэт-выдання “Пагоня” і газеты “День” Андрэй Пачобут. Такое рашэнне прыняў **4 сакавіка** суд Ленінскага раёна г.Гродна. Журналіст быў звінавачаны ў дзеяннях, прадугледжаных арт. 176-1 Кодэкса аб адміністратыўных правапарушэннях (“Парушэнне парадку арганізацыі альбо правядзення рэлігійных, спартыўных, культурна-масавых, іншых відовішчных мерапрыемстваў, а таксама сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання”). Суд пакараў журналіста нягледзячы на прадстаўленае ім пацверджанне прафесійных мэтаў прысутнасці на

мітынгу, праведзенага прадпрымальнікамі г.Гродна 3 сакавіка 2005 года. Праведзены над ім суд прайшоў "як па нотах" - ён пачаўся ў абедзены перапынак, калі у залі не маглі прысутнічаць журналісты. Толькі хадайніцтва аб прыцягненні да слухання адваката дазволіла адкласці разгляд справы, пасля чаго ў залу былі дапушчаныя журналісты. Як мяркуе А.Пачобут, рашэнне па яго справе было вынесенае загадзя, паколькі амаль адразу пасля яго агучання была прадэманстраваная друкаваная копія рашэння.

Падчас адбывання пакарання А.Пачобута ягоны абаронца Аляксандр Бірылаў падаў у Гродзенскі абласны суд скаргу ў парадку нагляду з просьбай адмяніць рашэнне Ленінскага раёна г.Гродна.

**Прадпрымальнік прайграў зыск супраць Гродзенскага тэлебачання**

Адхілены зыск Мікалая Аўтуховіча да Гродзенскага тэлебачання, журналісткі Вольгі Максімчык і падатковай інспекцыі па Гродзенскай вобласці. Такое рашэнне прыняла **28 лютага** суддзя Ленінскага раёна Гродна Наталля Собалева.

Прадпрымальнік сцвярджае, што тэлеканал зняважыў яго гонар і годнасць ў тэлевізійным сюжэце, які быў тройчы паказаны 28 і 29 верасня 2004 г. М.Аўтуховіч выстаўляў патрабаванне кампенсацыі маральна шкоды да адказчыкаў, якімі выступалі Гродзенскае тэлебачанне, журналістка Вольга Максімчык і падаткавая інспекцыя Гродзенскай вобласці. У прыватнасці, прадпрымальнік мае прэтэнзіі да аўтаркі сюжэта, журналісткі Вольгі Максімчык, якая паставіла пад сумнеў дабрачынную дапамогу Аўтуховіча дзіцячаму дому, а таксама заявіла, што прадпрымальнік хаваецца ад падаткаў, якія павінны ісці на "рэальнае" ўтрыманне дзяцей.

З прынятым судом рашэннем прадпрымальнік не пагаджаецца і збіраецца абскарджваць яго ў вышэйшых інстанцыях.

**М.Варанец выйграў іск да Белтэлерадыёкампаніі**

**2 лютага** суд Першамайскага раёну г.Мінска пачаў разгляд іска кіраўніка грамадскай арганізацыі "Воля да развіцьця" са Слоніма Міхаіла Варанца да Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі. Варнец патрабуе, каб Беларускае тэлебачанне зняпраўдзіла распаўсюджаныя пра яго ды ачольваную ім арганізацыю звесткі, якія лічыць няпраўдзівымі ды зневажальнымі. У паказаным 16 сакавіка 2004 г. сюжэце праграмы "Панарама" ішла гаворка пра тое, што Варанец ухіляецца ад аплаты падаткаў з гранту, атрыманага арганізацыяй "Воля да разьвіцьця" па праграме Еўрасаюза TACIS і што інспекцыя па падатках і зборах аштрафавала яго на 34 млн. рублёў. Таксама М.Варанец патрабуе абвергнуць распаўсюджаныя БТ звесткі пра тое, што ён арганізаваў фінансаванне апазіцыі. Кіраўніцтва Белтэлерадыёкампаніі абвергнуць звесткі адмовілася.

Зыск Міхаіла Варанца суд Першамайскага раёна г.Мінска задаволіў **14 лютага.** Суд прыняў рашэнне абавязаць Беларускае тэлебачанне абвергнуць звесткі, распаўсюджаныя ў сюжэце "Панарамы".

Аднак Белтэлерадыёкампанія адмовілася абвяргаць сваю інфармацыю, спрабуючы абскардзіць рашэнне суда. Нават пасля таго, як касацыйная інстанцыя прызнала абгрунтаванасць прысуду, дзяржаўнае тэлебачанне не выканала рашэння суда, за што 24 жніўня г.г. Белтэлерадыёкампанія і была аштрафаваная.

**9 лістапада** Прэзідыюм Мінскага гарадскога суда адмяніў рашэнне суда Першамайскага раёна г. Мінска, згодна з якім Белтэлерадыёкампанія павінна была абвергнуць распаўсюджаную ў праграме

"Панарама" інфармацыю. Нагодаю для рашэння стаў пратэст намесніка старшыні Вярхоўнага суда Аляксандра Федарцова.

20 кастрычніка першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь А.Федарцоў накіраваў у прэзідыум Мінскага гарадскога пратэст з просьбай адмяніць рашэнне суда Першамайскага раёна горада Мінска як незаконнае і неабгрунтаванае. Ён палічыў, што прыведзеныя выказванні журналіста Мельячэнкі "маюць характар меркавання".

**Газеце "Прессбол" пагражае закрыццё**

**5 студзеня** Міністэрства інфармацыі вынесла папярэджанне рэдакцыі недзяржаўнай газеты "Прессбол". Папярэджанне вынесенае за парушэнне артыкула 5 Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" - выданне звінавацілі за абнародаванне незавершаных у вытворчасці матэрыялаў судовай справы без пісьмовага дазволу адказнай асобы.

Падставай для папярэджання стаў атрыкул "Вопросы жизни и смерти. Открытое обращение к Александру Лукашенко" ("Прессбол" N 153 (1753) ад 21.12.2004 г.) Міністэрства палічыла, што выданне апублікавала матэрыялы судовай справы без пісьмовага дазволу суддзі (у прыватнасці, зыскавую заяву міністра фінансаў РБ, кіраўніка Беларускай асацыяцыі гімнастыкі Мікалая Корбута). На той час у судзе Цэнтральнага раёну г.Мінска разглядаўся зыск М.Корбута да рэдакцыі газеты "Прессбол", рэдактара выдання У.Беражкова і журналіста С.Вярсоцкага.

Гэта ўжо другое цягам году пісьмовае папярэджанне, вынесенае за парушэнне арт. 5 Закона аб друку, што можа стаць падставай для спынення дзейнасці газеты судом. 8 красавіка 2004 г. "Прессбол" ужо атрымліваў папярэджанне ад Мінінфармацыі па арт. 5 за праект "Саша и Сирожа", у якім, на думку рэгіструючага органа, была "выкарыстана вульгарная і табуіраваная лексіка, скажоныя агульнапрынятыя нормы рускай мовы", што з'яўляецца "замахам на маральнасць грамадзян".

**19 студзеня** 2005 года УП "Прессбол плюс", якое ёсць заснавальнікам газеты "Прессбол", накіравала ў Вышэйшы гаспадарчы суд Беларусі зыскавую заяву, у якой просіць прызнаць несапраўдным папярэджанне Міністэрства інфармацыі.

**І.Макавецкая атрымала вусную заўвагу суду**

**18 студзеня** суд Цэнтральнага раёна Гомеля пастанавіў зрабіць вусную заўвагу карэспандэнту газеты “Народная воля” па Гомельскай вобласці Ірыне Макавецкай, прызнаўшы яе вінаватай у парушэнні, прадугледжаным арт. 166-1 КоАП - праява непавагі да суду.

Канфлікт паміж І.Макавецкай і старшынёй суду Чыгуначнага раёна г. Гомеля Таццянай Адрыбец адбыўся 2 снежня 2004 г., падчас адкрытага паседжання па адміністратыўнай справе дырэктара замежнага паліграфічнага прадпрыемства “Іосіфа і Адзета”. Журналістка адмовілася выканаць патрабаванне суддзі пакінуць памяшканне, дзе вяліся слуханні.

Слуханні па справе пачаліся 12-га студзеня. Суддзя Яраслаў Парэмскі адхіліў хадайніцтва аб выкліку ў суд у якасці сведкі Таццяны Адрыбец. Ірына Макавецкая неаднаразова заяўляла недавер суддзі, аднак ён адхіліў адводы.

Як мяркуе І.Макавецкая, адносная мяккасць судовай пастановы тлумачыцца нежаданнем уладаў раздзьмуваць гісторыю, у якім прадстаўнікі правасуддзя праявілі сябе не з лепшага боку.

**40 мільёнаў рублёў з журналістаў - міністру фінансаў**

30 мільёнаў рублёў з рэдакцыі газеты "Прессбол" і 10 мільёнаў - з галоўнага рэдактара выдання Уладзіміра Беражкова пастанавіў спагнаць суд Цэнтральнага раёна Мінска на карысць міністра фінансаў РБ, кіраўніка Беларускай асацыяцыі гімнастыкі Мікалая Корбута. Такое рашэнне прыняў **4 студзеня** суддзя Валерый Есьман, тым самым часткова задаволіўшы зыск М. Корбута аб кампенсацыі маральных стратаў. Суддзя не задаволіў хадайніцтвы адказчыкаў і не зрабіў запытаў у МУС, Інтэрпол і Беларускую асацыяцыю гімнастыкі, інакш, упэўненыя адказчыкі, праўдзівасць іхных звестак была б даказаная. У. Беражкоў збіраецца абскарджваць гэтае рашэнне ў больш высокіх судвых інстанцыях.

Нагодай для іску быў быў артыкул, змешчаны ў №128 за 22 кастрычніка 2004 году. У прыватнасці, прэтэнзію выклікаў сказ “В замах у министра финансов Беларуси ходит человек, разыскиваемый Интерполом за участие в организованной преступной группировке”. Насамрэч гаворка вялася пра дзейнасць М. Корбута па лініі не Міністэрства фінансаў, а Беларускай асацыяцыі гімнастыкі. Гэтую акалічнасць М.Корбут выкарыстаў для падачы зыску ў суд. Яшчэ да судовага разгляду справы і на папярэднім слуханні ў судзе адказчыкі пагадзіліся прынесці М.Корбуту публічныя прабачэнні ў той фармулёўцы, якую ён палічыць неабходнай. Аднак М.Корбут прабачэнні не прыняў і пакінуў свае патрабаваньні дзейнымі.

**10 лютага** судовая калегія па грамадзянскіх справах Мінскага гарадского суда пакінула ў моцы рашэнне Цэнтральнага раённага суда г.Мінска па іску міністра фінансаў Беларусі, кіраўніка Беларускай асацыяцыя гімпастыкі Мікалая Корбута да заснавальніка газеты “Прессбол” – “УП “Прессбол плюс”.

Выдавец беларускай спартыўнай газеты “Прессбол” – УП “Прессбол-плюс” выплаціла **3 сакавіка** 30 млн. рублёў ($13,8 тысячы) міністру фінансаў Рэспублікі Беларусь Мікалаю Корбуту. Суму спагнання рэдакцыя аплаціла з ліку грошай, атрыманых за падпіску. Рэдактар выдання У.Беражкоў будзе выплачваць суму накладзенага спагнання (10 млн. рублёў ці $4,6 тысячы) са свайго заробку.

**11 сакавіка** ў галоўнага рэдактара газеты “Прессбол” У.Беражкова з мэтаю спагнання 10 млн.рублёў на карысць міністра фінансаў Беларусі Мікалая Корбута апісалі маёмасць. Сярод апісанага – электрачайнік, шафа, пыласос, пральная машына і г.д. 14 сакавіка з іскам у суд звярнулася жонка Беражкова – яна просіць выключыць з пераліку апісанага палову маёмасці, спасылаючыся на заканадаўства, паводле якому палова нажытай у шлюбе маёмасці не падлягае апісанню.

**Абвяржэння чакалі паўгады**

Больш за паўгода давялося чакаць карэспандэнту газеты “Ганцавіцкі час” Соф’і Ясько абвяржэння недакладнай інфармацыі ад галоўнага рэдактара афіцыйнай раённай газеты “Савецкае Палессе” Галіны Мазінай.

Нагодаю для судовага разбіральніцтва стаў артыкул Мазінай, надрукаваны ў “Савецкім Палессі” 19 траўня 2004 г ”Оглянись на себя, или О бревне в собственном глазу и куриной слепоте“. Аўтарка публікацыі звінавачвала карэспандэнтку недзяржаўнага выдання ў маральнай нягрэблівасці, непрафесіяналізме, непавазе да дзяржаўных сімвалаў і г.д. Частку звестак, выкладзеных у ім, суд Ляхавіцкага раёну прызнаў неадпаведнымі рэчаіснасьці, ганьбячымі гонар і годнасць С.Ясько. Суд абавязаў надрукаваць абвяржэнне і ўтрымаць з адказчыкаў – аўтара матэрыяла і рэдакцыі газеты – па 49 тысяч рублёў.

С Ясько палічыла рашэнне суду недастаткова справядлівым і абскардзіла яго ў Брэсцкім абласным судзе. Ён пакінуў рашэнне Ляхавіцкага раённага суду правамоцным, але павялічыў суму

грашовых спагнанняў з адказчыкаў да 155 тысяч рублёў – па 77,5 тысяч з аўтара матэрыяла і рэдакцыі выдання. Адказчыкі выканалі судовае рашэнне толькі пасля таго, як галоўнага рэдактара "Савецкага Палесся" Г.Мазіну выклікалі да судовага выканаўцы ў Ганцавіцкі раённы суд, які абавязаў падпарадкавацца закону.

## Гучныя справы
## Справа Веранікі Чаркасавай

### Гучныя справы

Папярэдняе расследаванне справы аб забойстве Веранікі Чаркасавай прыпынена
Пракуратура аднавіла справу па знікненні Дзмітрыя Завадскага
Крымінальная справа ў адносінах А.Клімава перададзеная ў суд
Прысуд Ягору Рыбакову: 11 год узмоцненага рэжыму

### Папярэдняе расследаванне справы аб забойстве Веранікі Чаркасавай прыпынена

**У канцы снежня** папярэдняе расследаванне справы аб забойстве Веранікі Чаркасавай было прыпынена "ў сувязі з неўстанаўленнем асобы, якая падлягае прыцягненню да адказнасці ў якасці абвінавачанага". Пра гэта паведаміў прэс-службе ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" кіраўнік следчага аддзелу па асабліва важных справах пракуратуры г. Мінска Сяргей Іваноў.

Як патлумачыў сп. Іваноў, цяпер па справе працуюць спецыялісты крымінальнага вышуку (якія падпарадкоўваецца Міністэрству ўнутраных спраў), аднак пракуратура трымае іх працу на кантролі. Па словах следчага, крымінальны вышук перыядычна дакладае пракуратуры пра вынікі сваёй працы, аднак ён быў "не гатовы" адказаць, як часта гэта адбываецца. Пры неабходнасці пракуратура ў любы момант можа аднавіць следства, - зазначыў С. Іваноў.

Паводле яго словаў, у следства па-ранейшаму некалькі версій гэтага забойства, і пракуратура не можа разглядаць ніводную з іх у якасці асноўнай.

**21 кастрычніка** кіраўнік следчага аддзелу па асабліва важных справах пракуратуры г. Мінска Сяргей Іваноў паведаміў ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў", што тэрмін папярэдняга расследавання справы аб забойстве Веранікі Чаркасавай падоўжаны на 2 месяцы.

На пытанне, якія версіі забойства журналісткі следства лічыць асноўнымі, сп. Іваноў адказаў, што "ў нас усе версіі - асноўныя". Адносна верагоднасці вяртання сыну альбо айчыму Веранікі статусу падазраваных следчы аддказаў, што ён "не аракул" і прадбачыць гэтага не можа. Што тычыцца прымянення да кагосьці з іх меры стрымання ў выглядзе падпіскі пра нявыезд, сп. Іваноў заявіў, што гэта з'яўляецца таямніцай следства.

Паводле следчага, максімальны тэрмін папярэдняга расследавання не рэгламентаваны. Нават калі яно не дасць вынікаў і справа будзе прыпынена, гэта не абаначае, што пошукі злачынцаў спыняцца, - патлумачыў С. Іваноў. Спецыялісты крымінальнага вышуку будуць працягваць працу, і па іх першым жа сігнале пракуратура адновіць следства.

**8 верасня** ў Мінску прайшла прэзентацыя зборніка "Красным по белому", у які ўвайшлі лепшыя публікацыі Веранікі Чаркасавай. Яго склалі публікацыі з 1992 па 2004 гг., якія з'яўляліся ў самых розных беларускіх і расійскіх выданнях: "Голас Радзімы", "БДГ", "Белорусская газета", "Новое время", "Огонёк", "Салідарнасць". Зборнік рыхтаваўся напрацягу некалькіх месяцаў групай валанцёраў. Кнігу "Красным по белому" можна замовіць, даслаўшы ліст на адрас zakaz_v_ch@yahoo.com

**21 жніўня** Пракуратура РБ працягнула тэрмін следства па справе аб забойстве

журналісткі газеты "Салідарнасць" Веранікі Чаркасавай. Гэтую інфармацыю ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" пацвердзіла 22 жніўня кіраўнік прэс-службы Пракуратуры Тамара Якаўлева. 20 жніўня споўнілася 10 месяцаў з моманту забойства журналісткі.

Пракуратура падоўжыла тэрмін расследавання забойства журналісткі газеты "Салідарнасць" Веранікі Чаркасавай да 21 жніўня г.г. Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі **23 чэрвеня** намеснік Генеральнага пракурора РБ Віктар Прус, - перадае інтэрнэт-партал www.tut.by са спасылкай на інфармацыйнае агенцтва БелТА. Па словах В. Пруса, па справе працягваецца актыўная аператыўна-следчая праца, аднак "сёння станоўчага выніку, на жаль, не дасягнута". Паводле В. Пруса, пракуратура "правярае" каля 10 версій гэтага забойства. Што тычыцца следчых дзеянняў у дачыненні да сына забітай журналісткі, намеснік генеральнага пракурора заявіў, што той у якасці падазраванага "хутчэй непасрэдна не разглядаўся", але "былі дастаткова важкія аргументы думаць пра тое, што ён нешта ведае датычна гэтага злачынства". Віктар Прус лічыць, што "па гэтай справе ніякіх парушэнняў законнасці, у тым ліку ў дачыненні да сына Чаркасавай, дапушчана не было. Ён дапытваўся для высвятлення некаторых абставінаў, якія ён як асоба, што знаходзілася непадалёк ад дома сваёй маці, патлумачыць не мог".

Пракуратура г. Мінска вырашыла спыніць крымінальны пераслед Антона Філімонава і Уладзіміра Мялешкі "за адсутнасцю ў іх дзеяннях складу злачынства". Пра гэта гаворыцца ў Пастанове начальніка следчага аддзела С. Іванова ад **18 красавіка** г.г., якую **28 красавіка** атрымалі блізкія забітай журналісткі ў гарадской пракуратуры.
Пастанова прынятая на падставе таго, што падчас папярэдняга расследавання па справе "не здабыта дастатковых доказаў" спрычыненасці Мялешкі і Філімонава да злачынства, а "ўсе магчымасці для збору дадатковых доказаў вычарпаныя".
Упершыню пра зняцце падазрэнняў блізкія В. Чаркасавай даведаліся з ліста, які атрымалі некалькімі днямі раней з Пракуратуры РБ у адказ на сваю скаргу аб спыненні крымінальнага пераследу. Пракурор аддзелу па нагляду за расследаваннем крымінальных спраў у органах пракуратуры, малодшы саветнік юстыцыі В. Шуляк паведаміў, што расследаванне абставін забойства Веранікі Чаркасавай працягваецца: крымінальная справа вывучаная ў Рэспубліканскай пракуратуры, і па ёй "дадзеныя падрабязныя ўказанні".

Маці забітай 20 кастрычніка журналісткі газеты “Салідарнасць” В.Чаркасавай - Дыяна Чаркасава - заявіла, што сваякі журналісткі не задаволеныя ходам расследавання забойства. На праведзенай **20 красавіка** ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў прэс-канферэнцыі яна зазначыла, што падчас апошніх допытаў у пракуратуры ёй задаюць практычна тыя ж пытанні, што і ў першы дзень пасля забойства. З гэтага яна робіць выснову, што следства не прасунулася ў расследаванні справы.

Пракуратура Рэспублікі Беларусь не лічыць патрэбным правядзенне прэс-канферэнцыі, на якой пайшла б гаворка пра расследванне крымінальнай справы аб забойстве журналісткі недзяржаўнай газеты «Салідарносьць» Веранікі Чаркасавай, - пра гэта гаворыцца ў афіцыйным лісце на адрас ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў». У лісце з пракуратуры, датаваным **14 красавіка**, паведамляецца, што Прэс-цэнтрам рэспубліканскай пракуратуры сумесна з Першым нацыянальным тэлеканалам быў падрыхтаваны падрабязны рэпартаж па гэтай справе. Пракуратура паведаміла, што па згаданай крымінальнай справе «праводзяцца актыўныя следчыя і

аператыўныя дзеянні, скіраваныя на раскрыццё злачынства і высвятленне асобаў, якія яго здейснілі». Таму прадастаўленне дадатковых матэрыялаў можа перашкодзіць следству.

Мінскі гарадскі суд **4 сакавіка** адмяніў рашэнне аб прымусовым характары псіхіятрычнай экспертызы чына Веранікі Чаркасавай А.Філімонава, разгледзеўшы касацыйную скаргу, пададзеную адвакатам В.Куліковым. Адвакат абскарджваў рашэнне суда Цэнтральнага раёна г.Мінска ад 23 лютага, які пакінуў у сіле пастанову пракуратура г.Мінска аб прызначэнні стацыянарнай псіхіятрычнай экспертызы Філімонава.

**23 лютага** суд Цэнтральнага раёна г. Мінска адхіліў скаргу Віталя Кулікова - адваката Антона Філімонава, сына забітай у кастрычніку 2004 г. журналісткі Веранікі Чаркасавай - на рашэнне пракуратуры г. Мінска аб прызначэнні стацыянарнай псіхіятрычнай экспертызы падлетка. Гэтае рашэнне можа быць абскарджана цягам сутак у Мінскі гарадскі суд. Судовае паседжанне было закрытым і доўжылася каля 40 хвілін.
У залу суда падчас слуханняў былі дапушчаныя толькі адвакат, пацярпелая (маці забітай журналісткі Дыяна Чаркасава) і прадстаўнік пракуратуры Цэнтральнага раёна г. Мінска. З усіх іх узялі падпіску аб неразгалошанні матэрыялаў слуханняў. Самога Антона Філімонава ў суд не выклікалі.

**2 лютага** намеснік пракурора г.Мінска Мікалай Старавойтаў падпісаў пастанову аб накіраванні Антона Філімонава на сталую комплексную псіхолага-псіхіятрычную экспертызу. А.Філімонаў застаецца адным з падазраваных у справе аб забойстве. Неабходнасць правядзення экспертызы пракуратура тлумачыць няшчырасцю сына забітай журналісткі, паколькі яго словы разыходзяцца з дадзенымі следства.
**1 лютага** група следчых на чале з Уладзімірам Чумачэнкам без папярэджання з'явілася ў школу №88, дзе вучыцца 15-гадовы Антон. Яны спрабавалі забраць А.Філімонава для правядзення псіхіятнычнай экспертызы, але сваякі вучня прадухілілі дзеянні следчых.
**2 лютага** бацька Антона – Зміцер Філімонаў, які жыве ў Маскве, забраў сына з сабою.

**31-га студзеня** старшы следчы пракуратуры г. Мінска Уладзімір Чумачэнка падпісаў пастанову аб правядзенні стацыянарнай псіхіятрычнай экспертызы Антона Філімонава. Неабходнасць правядзення экспертызы тлумачылася тым, што А. Філімонаў пасля гвалтоўнай смерці маці быў пастаўлены на ўлік у гарадскі дзіцяча-падлеткавы псіханеўралагічны дыспансер, а ў канцы лістапада паступіў на стацыянарнае лекаванне ў рэспубліканскую клінічную псіхіятрычную лякарню.

Нагадаем: Журналістка недзяржаўнай газеты "Салідарнасць" Вераніка Чаркасава была жорстка забітая 20 кастрычніка 2004 г. у сваёй кватэры ў Мінску. Яе цела знайшлі 15-гадовы сын Антон Філімонаў і айчым Уладзімір Мялешка.

На допыце 19 лістапада ім паведамілі, што са сведкаў яны сталі падазраванымі. У пастанове пракуратуры было пазначана, што апэратыўным шляхам атрыманая інфармацыя, якая сведчыць пра дачыненне Філімонава і Мялешкі да забойства журналісткі. Асноўнай версіяй было вызначана забойства на бытавой глебе.

Між тым, у выніку журналісцкага расследавання, якое правёў журналіст Сяргей Сацук, здабытая інфармацыя, якая дае падставы меркаваць, што забойства В. Чаркасавай здзейсніў прафесійны кілер, які інсцэніраваў забойства на бытавой глебе. (Артыкул С. Сацука называўся "**Страх как достаточное основание, или Кто расправился с Вероникой Черкасовой?**")

### Пракуратура аднавіла справу па знікненні Дзмітрыя Завадскага

У Пракуратуру РБ паступіла хадайніцтва ад юрыста Гары Паганяйлы з просьбай аб эксгумацыі некалькіх трупаў з мэтай выключыць прыналежнасць аднаго з іх знікламу ў 2000 годзе Дзмітрыю Завадскаму. Пра гэта паведаміла **4-га траўня** газета “Народная воля” ў публікацыі “Труп Дмитрия Завадского

может быть найден на одном из белорусских кладбищ”. Цалкам тэкст гэтай публікацыі можна знайсці па адрасе:
**http://www.baj.ru/2005/May/040505smi6.asp**

**7 красавіка** маці зніклага журналіста Дзмітрыя Завадскага атрымала з пракуратуры Беларусі паведамленне пра аднаўленне папярэдняга расследвання крымінальнай справы, заведзенай па факце бясследнага знікнення 7 ліпеня 2000 года Д.Завадскага. Аднаўленне расследвання пракуратура патлумачыла неабходнасцю правядзення следчых дзеянняў па згаданай справе. Расследванне адноўленае **4 красавіка**. Жонка зніклага журналіста С.Завадская не выключае, што аднаўленне расследвання звязанае з рэзалюцыяй па Беларусі, якую павінная разглядаць на сэсіі ААН Камісія па правах чалавека.

## Крымінальная справа ў дачыненні да А.Клімава перададзеная ў суд

**9 сакавіка** ў суд Першамайскага раёна г.Мінска перададзеная крымінальная справа ў дачыненні да былога прадпрымальніка Андрэя Клімава. Клімаў звінавачваецца ў паклёпе на Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (ч.2 арт.367 Крымінальнага кодэксу РБ) і ў знявазе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (ч.1 арт.368 Крымінальнага кодэксу РБ). У пастанове аб перадачы справы ў суд пазначана, што А.Клімаў, з’яўляючыся актыўным праціўнікам парадку кіравання ў Рэспубліцы Беларусь, імкнучыся правакацыйнымі спосабамі стварыць бачнасць апазіцыйнай дзейнасці, напісаў, арганізаваў выданне і распаўсюд кніг ды ў лётак, якія ўтрымліваюць зняважлівыя выказванні на адрас Прэзідэнта Рэспублікі Беларусі ды абвінавачванні ў здзяйсненні цяжкіх злачынстваў.

Следства спасылаецца на кнігі А.Клімава "Восстание 2005", "Очевидные истины", "Я сделал свой выбор".

## Прысуд Ягору Рыбакову: 11 год узмоцненага рэжыму

Судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь вынесла **11 лютага** прысуд экс-старшыню Белтэлерадыёкампаніі Ягору Рыбакову – 11 год пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем права займаць кіроўныя пасады напрацягу 5 год. Суд таксама пастанавіў спагнаць з Я.Рыбакова на карысць Белтэлерадыёкампаніі і ў якасці кампенсацыі судовых выдаткаў суму 233 млн. рублёў ($107 тысяч).

Я. Рыбакоў быў затрыманы 13 лютага 2004 г. Ён быў звінавачаны па арт. 430 ч.3 Крымінальнага кодэксу Беларусі (атрыманне хабару службовай асобай). Слуханне справы Я.Рыбакова мела закрыты характар.
Тэрмін папярэдняга расследавання справы аб забойстве Веранікі Чаркасавай падоўжаны яшчэ на 2 месяцы. **Пра гэта 21 кастрычніка** паведаміў ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" кіраўнік следчага аддзелу па асабліва важных справах пракуратуры г. Мінска Сяргей Іваноў.
На пытанне, якія версіі забойства журналісткі следства лічыць асноўнымі, сп. Іваноў адказаў, што "ў нас усе версіі - асноўныя". Адносна верагоднасці вяртання сыну альбо айчыму Веранікі статусу падазраваных следчы аддказаў, што ён "не аракул" і прадбачыць гэтага не можа. Што тычыцца прымянення да кагосьці з іх меры стрымання ў выглядзе падпіскі пра нявыезд, сп. Іваноў заявіў, што гэта з`яўляецца таямніцай следства. Паводле следчага, максімальны тэрмін папярэдняга расследавання не рэгламентаваны. Нават калі яно не дасць вынікаў і справа будзе прыпынена, гэта не абазначае, што пошукі злачынцаў спыняцца, - патлумачыў С. Іваноў. Спецыялісты крымінальнага вышуку будуць працягваць працу, і па іх першым

жа сігнале пракуратура адновіць следства.
20 кастрычніка споўніўся год з дня забойства журналісткі.

**8 верасня** ў Мінску прайшла прэзентацыя зборніка "Красным по белому", у які ўвайшлі лепшыя публікацыі Веранікі Чаркасавай - беларускай журналісткі, якую жорстка забілі 20 кастрычніка мінулага года. Яго склалі публікацыі з 1992 па 2004 гг., якія з'яўляліся ў самых розных беларускіх і расійскіх выданнях: "Голас Радзімы", "БДГ", "Белорусская газета", "Новое время", "Огонёк", "Салідарнасць". Зборнік рыхтаваўся напрацягу некалькіх месяцаў групай валанцёраў, аб'яднаных жаданнем захаваць не толькі памяць пра Вераніку, але і той найкаштоўнейшы матэрыял, які яна сабрала і па-майстэрску апрацавала за гады сваёй працы ў журналістыцы.
Кнігу "Красным по белому" (названая паводле аднаго з артыкулаў Веранікі) можна замовіць, даслаўшы ліст на адрас zakaz_v_ch@yahoo.com

**У канцы снежня** папярэдняе расследаванне справы аб забойстве Веранікі Чаркасавай было прыпынена "ў сувязі з неўстанаўленнем асобы, якая падлягае прыцягненню да адказнасці ў якасці абвінавачанага". Пра гэта паведаміў прэс-службе ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" кіраўнік следчага аддзелу па асабліва важных справах пракуратуры г. Мінска Сяргей Іваноў.

Як патлумачыў сп. Іваноў, цяпер па справе працуюць спецыялісты крымінальнага вышуку (які падпарадкоўваецца Міністэрству ўнутраных спраў), аднак пракуратура трымае іх працу на кантролі. Па словах следчага, крымінальны вышук перыядычна дакладае пракуратуры пра выніікі сваёй працы, аднак ён быў "не гатовы" адказаць, як часта гэта адбываецца. Пры неабходнасці пракуратура ў любы момант можа аднавіць следства, - зазначыў С. Іваноў.
Паводле яго словаў, у следства па-ранейшаму некалькі версій гэтага забойства, і пракуратура не можа разглядаць ніводную з іх у якасці асноўнай.

**21 кастрычніка** кіраўнік следчага аддзелу па асабліва важных справах пракуратуры г. Мінска Сяргей Іваноў паведаміў ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў", што тэрмін папярэдняга расследавання справы аб забойстве Веранікі Чаркасавай падоўжаны на 2 месяцы.

На пытанне, якія версіі забойства журналісткі следства лічыць асноўнымі, сп. Іваноў адказаў, што "ў нас усе версіі - асноўныя". Адносна верагоднасці вяртання сыну альбо айчыму Веранікі статусу падазраваных следчы аддказаў, што ён "не аракул" і прадбачыць гэтага не можа. Што тычыцца прымянення да кагосьці з іх меры стрымання ў выглядзе падпіскі пра нявыезд, сп. Іваноў заявіў, што гэта з'яўляецца таямніцай следства.

Паводле следчага, максімальны тэрмін папярэдняга расследавання не рэгламентаваны. Нават калі яно не дасць вынікаў і справа будзе прыпынена, гэта не абаначае, што пошукі злачынцаў спыняцца, - патлумачыў С. Іваноў. Спецыялісты крымінальнага вышуку будуць працягваць працу, і па іх першым жа сігнале пракуратура адновіць следства.

**21 жніўня** Пракуратура РБ працягнула тэрмін следства па справе аб забойстве журналісткі газеты "Салідарнасць" Веранікі Чаркасавай. Гэтую інфармацыю ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" пацвердзіла 22 жніўня кіраўнік прэс-службы Пракуратуры Тамара Якаўлева. 20 жніўня споўнілася 10 месяцаў з моманту забойства журналісткі.

Пракуратура падоўжыла тэрмін расследавання забойства Веранікі Чаркасавай да 21 жніўня г.г. Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі **23 чэрвеня** намеснік Генеральнага пракурора РБ Віктар Прус, - перадае інтэрнэт-партал www.tut.by са спасылкай на інфармацыйнае агенцтва БелТА. Па словах В. Пруса, па справе працягваецца

актыўная аператыўна-следчая праца, аднак "сёння станоўчага выніку, на жаль, не дасягнута". Паводле В. Пруса, пракуратура "правярае" каля 10 версій гэтага забойства. Што тычыцца следчых дзеянняў у дачыненні да сына забітай журналісткі, намеснік генеральнага пракурора заявіў, што той у якасці падазраванага "хутчэй непасрэдна не разглядаўся", але "былі дастаткова важкія аргументы думаць пра тое, што ён нешта ведае датычна гэтага злачынства". Віктар Прус лічыць, што "па гэтай справе ніякіх парушэнняў законнасці, у тым ліку ў дачыненні да сына Чаркасавай, дапушчана не было. Ён дапытваўся для высвятлення некаторых абставінаў, якія ён як асоба, што знаходзілася непадалёк ад дома сваёй маці, патлумачыць не мог".

Пракуратура г. Мінска вырашыла спыніць крымінальны пераслед Антона Філімонава і Уладзіміра Мялешкі "за адсутнасцю ў іх дзеяннях складу злачынства". Пра гэта гаворыцца ў Пастанове начальніка следчага аддзела С. Іванова ад **18 красавіка** г.г., якую **28 красавіка** атрымалі блізкія забітай журналісткі ў гарадской пракуратуры.
Пастанова прынятая на падставе таго, што падчас папярэдняга расследавання па справе "не здабыта дастатковых доказаў" спрычыненасці Мялешкі і Філімонава да злачынства, а "ўсе магчымасці для збору дадатковых доказаў вычарпаныя".
Упершыню пра зняцце падазрэнняў блізкія В. Чаркасавай даведаліся з ліста, які атрымалі некалькімі днямі раней з Пракуратуры РБ у адказ на сваю скаргу аб спыненні крымінальнага пераследу. Пракурор аддзелу па нагляду за расследаваннем крымінальных спраў у органах пракуратуры, малодшы саветнік юстыцыі В. Шуляк паведаміў, што расследаванне абставін забойства Веранікі Чаркасавай працягваецца: крымінальная справа вывучаная ў Рэспубліканскай пракуратуры, і па ёй "дадзеныя падрабязныя ўказанні".

Маці забітай 20 кастрычніка журналісткі газеты “Салідарнасць” В.Чаркасавай - Дыяна Чаркасава - заявіла, што сваякі журналісткі не задаволеныя ходам расследавання забойства. На праведзенай **20 красавіка** ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў прэс-канферэнцыі яна зазначыла, што падчас апошніх допытаў у пракуратуры ёй задаюць практычна тыя ж пытанні, што і ў першы дзень пасля забойства. З гэтага яна робіць выснову, што следства не прасунулася ў расследаванні справы.

Пракуратура Рэспублікі Беларусь не лічыць патрэбным правядзенне прэс-канферэнцыі, на якой пайшла б гаворка пра расследванне крымінальнай справы аб забойстве журналісткі недзяржаўнай газеты «Салідарносць» Веранікі Чаркасавай, - пра гэта гаворыцца ў афіцыйным лісце на адрас ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў». У лісце з пракуратуры, датаваным **14 красавіка**, паведамляецца, што Прэс-цэнтрам рэспубліканскай пракуратуры сумесна з Першым нацыянальным тэлеканалам быў падрыхтаваны падрабязны рэпартаж па гэтай справе. Пракуратура паведаміла, што па згаданай крымінальнай справе «праводзяцца актыўныя следчыя і аператыўныя дзеянні, скіраваныя на раскрыццё злачынства і высвятленне асобаў, якія яго здейснілі». Таму прадастаўленне дадатковых матэрыялаў можа перашкодзіць следству.

Мінскі гарадскі суд **4 сакавіка** адмяніў рашэнне аб прымусовым характары псіхіятрычнай экспертызы чына Веранікі Чаркасавай А.Філімонава, разгледзеўшы касацыйную скаргу, пададзеную адвакатам В.Куліковым. Адвакат абскарджваў рашэнне суда Цэнтральнага раёна г.Мінска ад 23 лютага, які пакінуў у сіле пастанову пракуратура г.Мінска аб прызначэнні стацыянарнай псіхіятрычнай экспертызы Філімонава.

**23 лютага** суд Цэнтральнага раёна г. Мінска адхіліў скаргу Віталя Кулікова - адваката Антона Філімонава, сына забітай у кастрычніку 2004 г. журналісткі Веранікі Чаркасавай - на рашэнне пракуратуры г. Мінска аб прызначэнні стацыянарнай псіхіятрычнай экспертызы падлетка. Гэтае рашэнне можа быць абскарджана цягам сутак у Мінскі гарадскі суд. Судовае паседжанне было закрытым і доўжылася каля 40 хвілін.

У залу суда падчас слуханняў былі дапушчаныя толькі адвакат, пацярпелая (маці забітай журналісткі Дыяна Чаркасава) і прадстаўнік пракуратуры Цэнтральнага раёна г. Мінска. З усіх іх узялі падпіску аб неразгалошанні матэрыялаў слуханняў. Самога Антона Філімонава ў суд не выклікалі.

**2 лютага** намеснік пракурора г.Мінска Мікалай Старавойтаў падпісаў пастанову аб накіраванні Антона Філімонава на сталую комплексную псіхолага-псіхіятрычную экспертызу. А.Філімонаў застаецца адным з падазраваных у справе аб забойстве. Неабходнасць правядзення экспертызы пракуратура тлумачыць няшчырасцю сына забітай журналісткі, паколькі яго словы разыходзяцца з дадзенымі следства.

**1 лютага** група следчых на чале з Уладзімірам Чумачэнкам без папярэджання з'явілася ў школу №88, дзе вучыцца 15-гадовы Антон. Яны спрабавалі забраць А.Філімонава для правядзення псіхіятнычнай экспертызы, але сваякі вучня прадухілілі дзеянні следчых.

**2 лютага** бацька Антона – Зміцер Філімонаў, які жыве ў Маскве, забраў сына з сабою.

**31-га студзеня** старшы следчы пракуратуры г. Мінска Уладзімір Чумачэнка падпісаў пастанову аб правядзенні стацыянарнай псіхіятрычнай экспертызы Антона Філімонава. Неабходнасць правядзення экспертызы тлумачылася тым, што А. Філімонаў пасля гвалтоўнай смерці маці быў пастаўлены на ўлік у гарадскі дзіцяча-падлеткавы псіханеўралагічны дыспансер, а ў канцы лістапада паступіў на стацыянарнае лекаванне ў рэспубліканскую клінічную псіхіятрычную лякарню.

Нагадаем: Журналістка недзяржаўнай газеты "Салідарнасць" Вераніка Чаркасава была жорстка забітая 20 кастрычніка 2004 г. у сваёй кватэры ў Мінску. Яе цела знайшлі 15-гадовы сын Антон Філімонаў і айчым Уладзімір Мялешка.

На допыце 19 лістапада ім паведамілі, што са сведкаў яны сталі падазраванымі. У пастанове пракуратуры было пазначана, што апэратыўным шляхам атрыманая інфармацыя, якая сведчыць пра дачыненне Філімонава і Мялешкі да забойства журналісткі. Асноўнай версіяй было вызначана забойства на бытавой глебе.

Між тым, у выніку журналісцкага расследавання, якое правёў журналіст Сяргей Сацук, здабытая інфармацыя, якая дае падставы меркаваць, што забойства В. Чаркасавай здзейсніў прафесійны кілер, які інсцэніраваў забойства на бытавой глебе. (Артыкул С. Сацука называўся "**Страх как достаточное основание, или Кто расправился с Вероникой Черкасовой?**")

# СПІС БЕЛАРУСКІХ ПЕРЫЯДЫЧНЫХ ДРУКАВАНЫХ ВЫДАННЯЎ, ЗГАДАНЫХ Ў МАНІТОРЫНГУ

**“Адзінства”** -- грамадска-палітычная газета; заснавальнік – Барысаўскі гарадскі выканаўчы камітэт

**“Алеся”** -- часопіс, заснавальнік – Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку (сёння – Міністэрства інфармацыі РБ)

**“Алло!”** -- недзяржаўная баранавіцкая рэкламна-інфармацыйная рэгіянальная газета

**“Асамблея”** -- незарегістраваны бюлецень незарэгістраванай Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацый

**“Белорусская газета”** -- недзяржаўнае рэспубліканскае інфармацыйна-аналітычнае выданне

**“Белорусская деловая газета”** -- недзяржаўнае рэспубліканскае грамадска-палітычнае выданне

**“Белорусская нива”** -- грамадска-палітычная газета; заснавальнік – Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

**“Белорусский рынок”** -- недзяржаўная аналітычная газета для дзелавых людзей

**“Биржа информации”** -- недзяржаўная грамадска-палітычная гродзенская газета

**“Брестский курьер”** -- недзяржаўная грамадска-палітычная газета

**“Борисовские новости”** -- недзяржаўная грамадска-палітычная газета

**“Версия”** -- недзяржаўная газета, якая спецыялізуецца на забаўляльных матэр’ялах па крымінальнай тэматыцы

**“Вечерний Гродно”** -- грамадска-палітычная газета; заснавальнік – Гродзенскі гарадскі выканаўчы камітэт, РІА “Вечерний Брест”, РГ “Вячэрні Гомель экспрэс”.

**“Вечерний Столин” --** незалежная газета, працяглы час не выходзіць

**“Витебский курьер”** -- незалежная грамадска-палітычная газета

**“Вожык”** -- гумарыстычны часопіс; заснавальнік – Савет Міністраў РБ

**“Вольны час. Свободное время”** -- выданне для вольнага часу (Гомель, Мозыр, Жлобін, Рэчыца). Працяглы час не выходзіць

**“Время”** -- недзяржаўная грамадска-палітычная газета

**“Вясёлка”** -- дзіцячы часопіс; заснавальнік – Беларусі дзіцячы фонд, рэдакцыя часопіса “Вясёлка”

**“Ганцавіцкі час”** -- ганцавіцкае недзяржаўнае грамадска-палітычнае выданне; заснавальнікі – ТАА “Выдавецкі дом “Интекс-пресс”, Уладзімір Янекувіч

**“Голас Касцюкоўшчыны”** -- раённая грамадска-палітычная газета; заснавальнік – Касцюковіцкі раённы выканаўчы камітэт

**“Голас Пружан” --** рэгіянальная недзяржаўная грамадска-палітычная газета; пасведчанне аб рэгістрацыі выдання прызнана Міністэрствам інфармацыі страціўшым сілу ў 2003 г.

**“Гоман Барысаўшчыны”** -- недзяржаўная грамадска-палітычная асветніцкая газета

**“Гомельская праўда”** -- грамадска-палітычная газета; заснавальнікі – Гомельскі абласны выканаўчы камітэт, Гомельскі абласны Савет дэпутатаў, рэдакцыя газеты “Гомельская праўда”

**“День”** – рэспубліканская і рэгіянальная грамадска-палітычная недзяржаўная газета

**“Детективная газета”** – недзяржаўная газета, якая спецыялізуецца на забаўляльных матэр’ялах па крымінальнай тэматыцы.

**“Жыццё Палесся”** – мозырская грамадска-палітычная газета; заснавальнік – Мозырскі гарадскі выканаўчы камітэт

**“Заря”** – брэсцкая абласная грамадска-палітычная газета; заснавальнікі – Брэсцкі абласны Савет дэпутатаў, Брэсцкі абласны выканаўчы камітэт, калектыў рэдакцыі “Заря”

**“Звязда”** – грамадска-палітычная газета; заснавальнікі – Савет Рэспублікі, Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, Савет Міністраў РБ

**“Згода”** – недзяржаўная рэспубліканская інфармацыйна-аналітычная газета

**“Знамя юности”** – грамадска-палітычная газета; заснавальнікі – Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі, Дэпартамент па справах моладзі Міністэрства адукацыі РБ

**“Intex-press” –** баранавіцкая грамадска-палітычная газета; заснавальнікі – тэлекампанія “Интекс”, ТАА “Выдавецкі дом “Интекс-пресс”

**“Кабельное телевидение”** – брэсцкая газета праграм тэлеперадач

**“Кіравец”** – раённая грамадска-палітычная газета (г. Кіраў, Магілёўская вобл.); заснавальнік – Кіраўскі раённы выканаўчы камітэт

**“Комсомольская правда” в Белоруссии”** – недзяржаўная грамадска-палітычная газета

**“Криминальное обозрение”** – недзяржаўная газета, якая спецыялізуецца на матэр’ялах па крымінальнай тэматыцы

**“Ленінскі кліч”** – грамадская газета Крычаўскага раёна; заснавальнік – Крычаўскі раённы выканаўчы камітэт

**“Любой каприз” –** магілёўская недзяржаўная інфармацыйна-рэкламная газета

**“Ляхавіцкі веснік”** – грамадска-палітычная газета; заснавальнікі – Ляхавіцкі раённы Савет дэпутатаў, Ляхавіцкі раённы выканаўчы камітэт

**“Ляхавіцкі час”** – недзяржаўная грамадска-палітычная газета; заснавальнікі -- ЗАТ “Выдавецкі дом “Интекс-пресс”, Уладзімір Янукевіч

**“Местная газета”** – недзяржаўная грамадска-палітычная газета (Ваўкавыск). Пасля спынення выхаду “Новой газеты Сморгони” выходзіць у Смаргоні

**“**The **Minsk Times International” –** дзяржаўнае грамадска-палітычнае выданне

**“Новая газета Сморгони”** – недзяржаўная грамадска-палітычная газета (з 2005 г. пасведчанне аб рэгістрацыі анулявана)

**“Молодёжный проспект”** – недзяржаўнае грамадска-палітычнае выданне; заснавальнікі – Рэспубліканская грамадская моладзевая арганізацыя “Грамадзянскі форум”, Уладзімір Навасяд

**“Народная воля”** – штодзённая рэспубліканская недзяржаўная грамадска-палітычная газета

**“Народная газета”** – дзяржаўная грамадска-палітычная газета

**“Наша доля”** – грамадска-палітычная газета; заснавальнік – Цэнтральнае праўленне Беларускага таварыства інвалідаў

**“Навінкі”** – недзяржаўная сатырычная газета

**“Народный предприниматель”** – недзяржаўнае грамадска-палітычнае выданне

**“Неделя”** – недзяржаўная грамадска-палітычная газета. Выходзіла пасля спынення выдання газеты “Время”. Выпуск выдання быў прыпынены пасля першага ж выхаду

**“Новае Палессе”** – грамадска-палітычная газета Жыткавіцкага раёна; заснавальнікі – Жыткавіцкі раённы выканаўчы камітэт, Жыткавіцкі раённы Савет дэпутатаў

**“Новы час”** – недзяржаўнае грамадска-палітычнае выданне; заснавальнік – Мінская гарадская арганізацыя Таварыства беларускай мовы (ТБМ) імя Францыска Скарыны.

**“Обозреватель”** – грамадска-палітычная газета; заснавальнік – ТАА “Альянс-медиа”. Шэф-рэдактар – Сяргей Атрошчанка, ініцыятар закрыцця недзяржаўнай газеты “Свободные новости”. Застаўшыеся заснавальнікі выдаюць газету “СН+” – “Свободные новости плюс”

**“Предпринимательская газета”** – недзяржаўная газета для дзелавых людзей

**“Рабочая солидарность”** – недзяржаўная грамадска-палітычная газета; заснавальнікі – Беларуская партыя працы, беларускі прафсаюз працаўнікоў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання. Пасведчанне аб рэгістрацыі анулявана Міністэрствам інфармацыі

**“Регион – вести”** – светлагорскае (Гомельская вобл.) недзяржаўнае грамадска-палітычнае выданне. Заснавальнік і рэдактар Мікалай Паседзька папрасіў палітычнага прытулку ў Швецыі

**“Региональные ведомости”** – горацкае недзяржаўнае грамадска-палітычнае выданне

**“Рэгіянальная газета”** – недзяржаўнае інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёнаў і рэспублікі (выходзіць у Маладзечна, Вілейцы, Лідзе, Ашмянах, Валожыне, Мядзелі, Астраўцы)

**“Савецкае Палессе”** – грамадска-палітычная газета Ганцавіцкага раёна (Брэсцкая вобл.); заснавальнікі – Ганцавіцкі раённы выканаўчы камітэт, Ганцавіцкі раённы Савет дэпутатаў, працоўны калектыў рэдакцыі газеты “Савецкае Палессе”

**“Салідарнасць”** -- недзяржаўная грамадска-палітычная газета; заснавальнік – Беларускі незалежны прафсаюз

**“Светлагорскія навіны”** – грамадска-палітычная газета; заснавальнікі – Светлагорскі раённы выканаўчы камітэт, Светлагорскі раённы Савет дэпутатаў, калектыў рэдакцыі

**“Светлы шлях”** – грамадска-палітычная газета; заснавальнікі – Смаргонскі раённы выканаўчы камітэт, Смаргонскі раённы Савет дэпутатаў

**“Советская Белоруссия -- Беларусь сегодня”** – грамадска-палітычная газета; заснавальнікі – Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйная рада

**“Товарищ”** – недзяржаўная грамадска-палітычная левая газета; заснавальнік – Цэнтральны камітэт Партыі камуністаў Беларускай (ПКБ)

**“Тут і цяпер”** – незарэгістраванае выданне, распаўсюджваецца ў рэгіёнах Беларусі

**“Тэлескоп”** – недзяржаўная рэгіянальная газета (г. г. Масты, Ліда, Шчучын)

**“Ударны фронт”** – шклоўская раённая грамадска-палітычная газета; заснавальнік – Шклоўскі раённы выканаўчы камітэт

**“Шаг”** – баранавіцкая недзяржаўная газета